Валянцін ЛУКША

# ПОКЛІЧ ЛЁСУ

Выбраныя творы
ў дзвюх
кнігах

Кніга
другая



ВЕРШЫ
ПАЭМЫ



Мінск
«Юнацтва»
1997

# КАЛІ ПАКЛІЧА ЛЁС...

*Калі пакліча лёс круты за дзверы*
*Ашчодрыць свет і сэрцам,*
*І душой,—*
*Цнатлівым,*
*Чыстым аркушам паперы*
*Дарога паплыве перада мной.*

*Яна мяне нястомнасці навучыць,*
*Яна мяне навучыць дабрыні,*
*Да таямніц нязведаных далучыць,*
*Да прагі вышыні*
*І глыбіні.*

*Яна мне шмат раскажа*
*І падкажа,*
*Па казачных краінах правядзе,*
*Калі сляпым не буду,*
*Безразважным,*
*Ад тых не адвярнуся,*
*Хто ў бядзе.*

*Але ў канцы вандровак запытае,*
*Ці нездарма адолеў доўгі шлях,*
*Ці, можа, з сэрца выпала святая,*
*Адзіная*
*Бацькоўская зямля.*

*Ці мо скруціла слізкая спакуса,*
*Перасцярога рукі апляла,*
*І абяцанак прывідным абрусам*
*Даверлівых сабрала да стала.*

*Я наталюся песнямі.*
*І з часам*
*Іх людзям перада́м удзячны зноў.*
*І калі стане свет на хвілю шчасны,*
*Я,*
*Значыць,*
*Нездарма у свет прыйшоў.*

# I. НЕБА НАД ПАЛАТКАЙ



## СЛЯДЫ

Хвалююча
І радасна вяртацца
На сцежкі хутканогага юнацтва.

Заўжды вяртанне неабходна нам,
Нібы прычал стамлёным караблям.

Бо перад тым,
Як зноў пайсці наперад,
Ты сілы ўзважыш
І маршруты зверыш.

Душой збалелай цягне
У тайгу,
Дзе, думаў, след мой

Стыне ў мурагу.
Дзе, думаў,
Свае сцежкі да Тыная
У балатах закінутых пазнаю.

О дзіва!
Дзе былі мае сляды —
Цяпер гукаюць
Дзіва-гарады!..

Задумайся прад мараю высокай —
Ці шмат зрабіў ты
Непатрэбных крокаў?!.

## ТАЙГА ХРЫПІЦЬ, ЯК РАНЕНЫ АЛЕНЬ...

Тайга хрыпіць,
Як ранены алень,
Трасуць вятры
Загрыўкамі сумётаў.
Мароз лютуе,
І каторы дзень
Маўкліва
Ледзянеюць верталёты.

Антэна скача,
Кашляюць лябёдкі,
Нясецца слепа вецер
На таран...

Хоць сумныя даюць
Метэазводкі,
Выходзім зноў
З палатак
У буран.

## ТУРГАЙСКАЯ ДАЛІНА

І пакрочыла ўдалеч
Даліна Тургайская.
За плячыма,
Як кайстра,—
Уральскі хрыбет.
Компас —
Неба з халоднымі зоркамі майскімі,
Праваднік —
Медзвядзямі пакінуты след.

Залапоча гуллівае полымя вечарам,
У грудзях не стрымаеш
Гарачыя песні.
І ад водару бульбы,
У прысаку печанай,
Ап'янее шчаціністае узлессе.

Вечар вочы прымружыць.
Стралой бліскавіца
Рассякае прастор некрануты
Былінны...

Гэта з нашай
Нястомнаю экспедыцыяй
Маладосць пачынае
Сівая даліна.

## ЗАПАЛЯР'Е

На кволым снезе,
Быццам на планшэце,
Праклаў сахач пункцір да хмызняка.
Грымела глуха
Ў лёдавым суквецці
Няўрымслівая горная рака.

Рыпелі нарты.
Векавыя сосны
Стаялі
У расшытых тарбазах.
Выжарыны
Насупіліся злосна,
Дыміўся снегам
Незнаёмы шлях.

Снягі,
Снягі калматыя бясконца
У прывідных адгор'яў на плячах...

Ад холаду
Дрыжэла нават сонца
У пасінелых лапах
Кедрача.

## КАЗАРКА

Злосна вецер кідаў
На адгор'і хмаркі,
А Іртыш шугой шурпатай шапацеў.
На далёкі поўдзень
Шэрая казарка
Качанят вяла з балот,
Дзе снег бялеў.

Трэскалі на холад
Векавыя кедры,
Ліст дрыжэў мядзяны
Ў скразняку бяроз...

І рассыпаў ранак
На калючы верас
Кроплі ледзяныя
Развітальных слёз.

## ЛЁД ЗАКРАКТАЎ ЗА МОЛАМ...

Лёд закрактаў за набрынялым молам,
Луску скаціла чорная рака,
І качак —
Шызабокіх навасёлаў —
Май высыпае
У рачны рукаў.

Умлелая тайга стаіць сцяною,
Спрабуе галасы птушыны грай...

Дзе пройдзем
Сцежкай продкаў векавою,—
У маладых агнях
Сібірскі край!

## ПЕРШЫ СНЕГ

Сівер кроў у жылах кедраў студзіць,
За плячо
Зіму сівую будзіць.
Праскуголяць на дасвецці ўпарта
Лайкі
Каля перасохлых нартаў...

Зранку ўсё
Пабеліць пад арэх
Пухкі пух —
Таежны першы снег.

## СІБІРСКІ ВЕЧАР

Рыпіць, як ліст капусты,
Жорсткі наст.
Ад кволай фіялетавай зары

Глядзяць з-пад чараможніку на нас
Гарачыя гарэзы снегіры.

Сутонее...
Знікае лёгкі след.
Стрыножаны наструнены спакой.
І важны,
Бы ў пенснэ вясковы дзед,
Грудасты лось ідзе на вадапой.

Ідзе,
Як гаспадар тайгі, упэўнена.
Ў смузе калючай ціхае сяло...

І сонца,
Як гарачы грэбень пеўня,
Нырнула ў бор,
Нібыта пад крыло.

## ПРАДВЕСНЕ

Прылізалі чупрыны сівыя сумёты,
Разбудзіў Заіртышша траскун-крыгалом.
На дасвецці тайгу скалануць верталёты
Курс на скарбы зямныя упарта бяром.

Ранкам на валатоўках завойкалі пілы,
Задыміўся за рыжай палаткаю снег...

У гушчар нівелір углядаецца пільна —
Выбірае сцяжынку гарластай вясне.

## МАК ТАЎКУЦЬ КАМАРЫ...

Мак таўкуць камары.
Будзе дзень,
Як званок.
Мы у кайстры складаем

Палатачны горад.
Але раптам,
Кульгаючы з боку на бок,
Хмара цягне,
Як сеці набраклыя,
Морак.

Дождж цыбатымі ножкамі —
Цок-
    цок-
        цок-
            цок...
Пахне мёдам марошкі
Купіна калматая.

Э-эх,
Гітара ахрыпла!
Не ўгледзеў, браток...

Мак таўкуць камары.
Будзе дзень,
Як званок.

## ВЕЧАР НА ІРТЫШЫ

Чырванню нальецца сонца густа
І нырне ў іртышскіх хваль прабор,
І накіне шоўкавыя хусткі
Ноч
На схілы рыжабокіх гор.

Пахне бульбай печанай.
Спявае
І бубніць паходны кацялок...
Мроіцца да ранку,
Што трымаеш
У руках адбойны малаток...

Абудзіў трубой сахач абшары,
Быццам змене даў сігнал ізноў...

Я гляджу на стомленыя твары
Гартаваных бурамі сяброў.

Быццам зоры сыпануць алмазы,—
Не лянуйся на зямлі,
Рука!..

Ля агню нам самай светлай казкай
Жвавая гаворка кацялка...

## ШЧОДРЫ МАЙ

Месяц май
Багаты спрэс
Завітаў у весні лес.

Беласнежны вэлюм
Чаромхі надзелі.

Залатыя завушніцы
У бярозанькі-сястрыцы.

Кубавых пралесак
Кінуў на узлесак.

І алмазы —
Бляск расы —
Высыпаў на верасы.

## ТАЕЖНЫ ПАЖАР

Чыркнуў гром па скалах крамянём,
Дождж скупы ў крыніцах млява булькаў.
Раптам за таежным ручаём
Закурыў пажар стракаты люльку.

З чорнага ўсмылелага пагорка,
Што чакаў цяжкой набраклай хмары,

Ў вёску праімчалася вавёрка,
Як іскра пякучага пажару.

І трывога сэрца ахапіла —
Акіян бяды паўстаў другім.
Як жа нам скруціць такую сілу?
Як нам з пекла вырвацца самім?

Мы ў агонь-траскун пайшлі аддана,
Дружна,
Смела —
Да пляча — плячо...

Закіпалі вогненным буранам
Лапы пасівелых кедрачоў.

## РАСАМАХА

Абабраць мядзведзя —
Справа звычная.
Зіркне расамаха злосным позіркам,
З крадзенаю кабаргой —
Здабычаю —
Рушыла да возера.

Лесам,
Дзе прайшла яна паспешліва,
Шчэрачы замурзаную ляпу,
Тупаў ёй насустрач той жа сцежкаю
Касалапы.

## ГЕАДЭЗІСТЫ

У маёй крыві пачатак карты
Той зямлі,
Дзе б'юць снягі прыбоем.
Зарыпелі,
Быццам боты,

Нарты
Сіняй неабуджанай тайгою.

Нам, бязвусым,
Без імён і рангаў,
У краі,
Дзе ночы калабродзяць,
Сонечныя,
Звонкія ярангі
Давялося на дрыгве
Узводзіць.

Мы наперад
Крочылі упарта,
І праменна
Палымнеў прасцяг...

У маёй крыві —
Пачатак карты
І пачатак
Новага
Жыцця.

## ДЗІВАСІЛ

Вепр іклямі выцяў камень кедрача —
Задрыжэлі крыніц валошкі.
Мы пад ззяннем паўночным пакрочылі ў шлях
Па халодным вуголлі марошкі.

Чорны лебедзь над хваляй гарбатай праплыў
Ценем лебедзя белым-белага.
Я прывал пасля доўгай дарогі зрабіў
На іртышскім абветраным беразе.

У падннеб'і біблейскім кружыў вольны птах
Над нямымі азяблымі стромамі.
Сіл ужо не ставала...
А сэрца ў грудзях,
Бы у бераг білася стронга.

Томік вершаў, што ў кайстры ляжаў,
Разгарнуў —
Прагнуць новых узлётаў крылы,
Быццам келіх гаючай вады пракаўтнуў,
Дзівасілавай
Дзіўнай сілы.

## БАРХАНЫ, БЫЦЦАМ ЖОЎТЫЯ МАРШЧЫНЫ...

Барханы, быццам жоўтыя маршчыны,
Апалены спякотаю пясок,
І саксаул калючыя галіны
Ад сонца адварочвае у бок.

Ды азярцо саланчакі глынаюць
Сярод барханнай выцвілай грады.
З жалобным крыкам птушкі прыпадаюць
Да горкай
І салёнае вады.

Зялёны «колак»
Крылы апускае
З маўклівасцю каменнай на лістах...

А шлях згубіла
Хмарка дажджавая
У сівізне
Уральскага хрыбта.

## ВЫЦВІЛЫЯ ДАЛІ КАВЫЛЁВЫЯ...

Выцвілыя далі кавылёвыя,
Свежая,
Пахучая ралля,
Горкія узвалкі палыновыя.

Цягнікі бягуць —
У добры шлях!

Зоркамі электразварка ўспыхвае,
Стыне гул матораў
У палях...

Нечым родным,
Беларускім,
Дыхае
На мяне
Сібірская зямля.

## ЗНІЧКА

Яна праклюнулася ледзьве,
Як промнік фары праз туман.
Мы праз гушчар таежны лезлі
Да выспы,
дзе стаяў будан.

Нас болей не трымалі ногі.
Знясіленым,
здалося нам,
Што ўжо няма
канца дарогі,
Канца балотам,
камарам,

Што толькі стома ёсць на свеце
І гэты несканчоны шлях,
Што знічка
міг апошні свеціць,
Апошні міг жыве зямля.

Дрыгва пад ботамі траслася,
І цёмнай поўначчу над ёй
Чырвоным знічка налілася,
Стоць паляцела галавой.

Стаў праваднік
як апантаны,
Сказаў:
— Я ведаў:
Быць бядзе...
Я ведаў:
Позна або рана
Мая
падучая
ўпадзе...

Дайшлі мы ранкам да палатак,
На злосць паданням
І чарцям,
На злосць праваднiку.
Ён раптам
Сатлелай знічкай
Здаўся
Нам.

## САРАКІ

Гналі сарокі
Снег да ракі,
Скручвалі сувоі белыя.
За аселіцай вечавалі шпакі —
Гарластыя,
Смелыя.

Снег наздраваты,
Нібы наждак,
Шамаціць,
Рыпіць пад нагамі,
Гаманкое, нібыта грак,
Прадвесне
Ляціць шляхамі.

З сілай казачнай,
Нібы ў волата,
Кайданы ледзяныя раструшчвае.

Сонца
Промняў гарачых золата
На узлобкі кідае кручам.

А прачнуцца крыніцы апоўдні,
Песню жаўранак завядзе:
— Добры дзень,
Дзень,
Як шчасце, поўны!
Першы
Светлы
Вясновы дзень!

## ВОСЕНЬСКАЕ

Яхкае ганчак
На жоўтым ячнішчы,
Жаліцца піла на тартаку.
Мне цяпер чакаць надвор'я яснага —
Што плысці без вёслаў за раку.

Жнейка крылы склала пад павеццю,
Як стамлёны ў пералёце птах...

І сумуюць
Аб пажоўклым леце
Птушкі
На трывожных правадах.

## ЛЮБІЦЕ РОДНЫЯ ЛЯСЫ

Калі ў дарозе,
                    стомлены дазвання,
Шукаеш адпачынак і спакой,
Прыйдзі
                    у лес гаючы на світанні —
Ён тваю стому зніме як рукой.

Як казку велічнай красы
Любіце родныя лясы.

Калі на сэрцы стане неспакойна
І сум бярэ уладу над табой,
Прыйдзі
у лес вячэрняю парою —
Ён неспакой твой зніме як рукой.

Як казку велічнай красы
Любіце родныя лясы.

Калі у марах светлыя турботы,
Пра ўзлёты дбаеш шчыраю душой,
Прыйдзі
у лес вячысты, ён ахвотна
Цябе акрыліць шчодрасцю сваёй.

Як казку велічнай красы
Любіце родныя лясы.

Спрадвеку дзелім страты і удачы
З зялёным другам —
існасцю зямной.

За ўдзячнасць адплаці яму гарачай
Любоўю і прыхільнасцю людской.

Як казку велічнай красы
Любіце родныя лясы.

## ПА-САПРАЎДНАМУ ЖЫЦЬ

Мне да болю знаёмы
Пах вясновай раллі,
Песні новага дома,
Краскі любай зямлі.

Пошчак свежага ветру
Захаваю ў душы,
Невычэрпную веру
Па-сапраўднаму жыць.

Мне прызначана лёсам
Быць адказным заўжды
За блакіт у нябёсах,
За зямлю маладых.

Сонца шчодрае — дзецям.
Юным — з песняй дружыць.
Людзям трэба на свеце
Па-сапраўднаму жыць.

Мне з дарогі не збочыць,
Стомы горкай не знаць —
Прагай свецяцца вочы
Свет да кроплі спазнаць.

Мне адужаць напасці,
Мне стыхію скарыць —
За сапраўднае шчасце
Па-сапраўднаму жыць!

# II. ГЛУШЦЫ НА ПЛОШЧЫ



## СТАЯЦЬ НА РЭЙДЗЕ БРЫГАНЦІНЫ...

Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны,
Стаяць
і морам трызняць каравелы.
І сотні вёрст,
і сотні дзён прайсці нам,
Калі яны падымуць крылы белыя.

Прыйшлі ў свае семнаццаць
да прычала,
Прыйшлі,
на іх глядзім
маўкліва,
строга.
І сто вятроў
са ста дарог крычала,
І клікала далёкая дарога.

Хай сняцца нам прасоленыя ветры
І песні будзяць жартуна Нептуна,
Шукаем ключык залаты ад нетраў.
Капрызная нам скорыцца фартуна.

Яе прытулім дужымі рукамі,
Фартуну мы прымусім усміхнуцца,
І падарожны вецер будзе з намі,
Пад ветрам нам ніколі не сагнуцца.

Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны,
Стаяць
і морам трызняць каравелы,
І сотні вёрст,
і сотні дзён прайсці нам,
Калі яны падымуць крылы белыя.

## РАМАНТЫКІ

Нам па сэрцу неспакой,
Буры і трывогі.
Выбіраем мы з табой
Новыя дарогі.

Пройдзем стромы гор і рэк,
Тундрай і тайгою,
Бо заручаны навек
З песняй маладою.

На зямлі сівой зімы,
На зямлі мяцеліц
Гарады узводзім мы,
Будуць наваселлі.

А калі надыдзе час,
З першаю ракетай
Абжываць адправяць нас
Новыя планеты.

Нам маршрут не называй —
Самі адшукаем.

Ў шлях-дарогу выпраўляй
Белапенным маем.

Нам па сэрцу неспакой,
Подых спраў гарачых,
Мы рамантыкі з табой,
Нельга нам іначай.

## ШАФЁРЫ

Нам прывычна заснуць без вячэры
На прасёлках,
Дзе гразь і морак.
Мы ўрываемся
Ў ранішні горад,
Як вясновы скразняк
У кватэру.

Нам услед уздыхаюць дыспетчары,
Праціраюць заспаныя вочы...

Маладосцю
Нам забяспечаны
Дні гарачыя,
Зорныя ночы.

## БАРЫСАЎ КАМЕНЬ

Пры беразе Заходняй Дзвіны, непадалёку ад Наваполацка, ёсць некалькі камянёў, устаноўленых у XII стагоддзі полацкім князем Барысам, быццам бы для арыентацыі ў суднаходстве.

Поўдзень скінуў пукатыя кайстры
У канюшыну,
Дзе конікаў змора,
І прараб,
Барадаты,

Як Кастра,
Прабасіў:
— Тут пачнецца горад!

А з ракі голаў чорную высунуў
Чорны камень
У космах імхоў.
Камень —
Сведка княства Барыса.
Камень —
Сведка далёкіх вякоў.

Ён стаяў,
Як глухі у лесе.
Ускалмачаны,
Зеленаваты.
Белабрысыя хвалі лезлі
За вусы дзядулю пакратаць.

Ветры камень ілбамі білі,
Плынь за грудзі
Трэсла сярдзіта.

Ў Нафтаград мы з табой прыхапілі
Важкі
Чорны кавалак граніту.

Разгуляўся чэрвень чырвоны,
Сівагрывыя хвалі
Ўздыхалі.
Мы граніт той
З першым бетонам
У падмурак першы
Заклалі.

На вякі!..

## МАНТАЖНІКІ

Мантажнікі —
Як цыганы, ўсе з твару,
Асмужаныя спёкай
І вятрамі,

Пад хмарамі жалеза варацъ
У золкі дождж
І ў студзеньскую замець.

Гарачыя і кемлівыя хлопцы.
У вачах —
Агонь.
У вачах —
Плюскоча сінь.
Мае сябры —
Паветраныя лоцманы,
Гаспадары завоблачных вышынь.

Тых,
Дзе патрэбна шчырая падтрымка
(Не толькі з моцным дротам рамяні.)
Кідалася Наддзвінне у абдымкі
Ім з трыццаціметровай вышыні.

Ім ветла усміхаюцца абшары
У золкі дождж
І ў студзеньскую замець...
Мантажнікі —
Як цыганы, ўсе з твару,
Асмужаныя спёкай і вятрамі.

## У ІНТЭРНАЦЕ НАД ДЗВІНОЮ

Мне сніцца на будоўлі карабель.

*(З запісной кніжкі былога марака-балтыйца — нафтабудаўца Зайцава)*

Інтэрнаты —
Караблі у штормы.
І рыпіць падлога,
І хістаецца —
У саланаватай флоцкай форме
З вахты
Нафтабудаўцы вяртаюцца.

Вапну з бесказырак
Ды з бушлатаў
І падзол з цяжкіх гумовых ботаў
Хлопцы працавітыя заўзята
Ад каханых стрэсваюць употай.

За акном —
Завея-карусель.
За Дзвіной —
У пене ноч глыбокая...

І здаецца хлопцам:
Карабель
Кліча іх
У плаванне далёкае.

## БУДАЎНІКІ

Цэльсій,
Як гавораць,—
Пад завязку
Выцягнуў распараную шыю.
У пыле,
Быццам у дзівосных масках,
Жоўтыя і шэрыя машыны.

Падрыхтоўка скончыцца,
А потым
Ў катлаван парывістым атрадам,
Ліўнямі абмытыя
І потам,
Рушаць цягавітыя брыгады.

Стомленасць тады —
Ім не ў залік.
Цішыня сабе не знойдзе сховішча...

Цвёрда я лічу,
Што будаўнік
Ўсё жыццё
На баявым становішчы.

# У СПЁКУ

Скуголіць вецер стомлены нясмела,
Кран вежавы хістаецца,
Рыпіць...
Ад смагі
І метал заіржавелы,
Бы кнігаўка,
Выпрошвае:
— Пі-і-ць!..
— Піць!..

# ПЕРАПРАВА

Ужо цяльняшка выцвіла да белі,
Бо развітаўся з Балтыкай даўно.
А тут Дзвіна
Вірамі каруселіць,
Уткнула хваля ў жвір
Халодны нос.

Плывуць машыны
З левага на правы.
Спякота.
На цяльняшцы —
Чорны пот...

Тут,
На плячах паромнай пераправы,
Будоўля
набірае
разварот.

# НЕФЕРЦІЦІ

А была Неферціці сонцам.
А была Неферціці песняй.
Была...

І вось уваскрэсла.
І мантажнікі азіраліся,
І мантажнікі спатыкаліся,
І (адкуль гаваркія ўзяліся?)
Неферціці ў каханні кляліся.
У нашым мікрараёне бясконцымі
Сталі песні
І стала бяссонніца.
У скупыя хвіліны вольныя
Хлопцы ўпарта гітары асвойвалі.
Хлопцы вершы пісаць спрабавалі,
Хлопцы доўга і цяжка ўздыхалі,
Калі рыжы адзін,
Як сланечнік,
Да яе завітаў пад вечар.

Сёння ў мікрараёне спакойна.
Хлопцы вызвалілі пакойчык
І сказалі госцю:
— Будзь дуж!..

Да царыцы
Прыехаў муж.

## ДЗЕСЯТЫ КУБРЫК

— З Балтыкі? — пытае камендант нафтабудаўскага маладзёжнага інтэрната.
— Так точна. З Балтыкі.
— Усе шасцёра?
— Так точна. Усе шасцёра.
— У дзесяты пакой...

*(З размовы)*

Тут будоўля падобна шырокаму плёсу,
Што спрачаецца з грознай,
Вірлівай ракой.
Усяляюць шасцёрку
Ўчарашніх матросаў
У дзесяты пакой.

На сцяне са спяцоўкамі побач —
Бушлаты.
Подых службы салёнай
Марской.
І завуць цяпер кубрыкам
Хлопцы заўзята
Той дзесяты пакой.

Хоць не чутна усплёску
Начнога прыбою,
Гулкай боцманскай дудкі
Даўно ўжо няма,
Хлопцы ў дружбе
З парадкам марскога адбою,
І прыбоем на вуліцы
Стогне зіма.

А калі за акном
Запалае усход,
Устае па-рабочаму хутка
Горад...

Зноў ідуць будаваць
Велізарны завод
Усе шасцёра.

## НАШЫ ЛЮБЫЯ

Абвятрэлыя нашы любыя,
Ды не ведаюць стомы вочы.
Нашы любыя
Крыху грубыя
У спяцоўках рабочых.

Змена
Новую змену гукае,
І,
Нібыта краска вясновая,
На спатканне ўжо выбягае

Каралева
Будоўлі!

Мы блукаем
Да ранку сіняга
Пад зялёнымі парасонамі...

І на змену,
Нібы пінгвіны,
Крочаць любыя ў камбінезонах.

## ПЕРШЫНЕЦ

Дзіцё нарадзілася шумнае,
Як навігацыя.
Дзіцё засмяялася —
Стралянула стручкамі акацыя.

Сакочуць суседкі:
— А сын —
Бацька выліты!..

У маці ад шчасця
Нібы крылы выраслі.

Першынцу бацька
Каляску-«Ракету» купляе:
— Хай прывыкае!..

## КАПЯЖЫ

Капяжы звінелі тоненька,
Быццам чэрвеньскія конікі.

Капяжы звінелі мне
Зімнім раннем аб вясне.

Ды размашыста і смела
Крочыў студзень у футры белым.

Схаладзелі капяжы,
Як даўжэзныя нажы.

Не пазнаць сягоння бору,—
Дзе была адліга ўчора,

Між сасонак стройных,
рыжых
Хлапчукі ляцяць на лыжах...

Капяжы,
Відаць,
У сне
Мне званілі аб вясне.

## СТАНЦЫІ МАЙГО ЮНАЦТВА

А па рэйках грымяць і грымяць
Цягнікі да світання.
На блакітных дарогах —
Юнацтва з зялёнымі ранцамі.
Дзе ж, мая ты бяссонніца?
Дзе ты, каханне?
На якой, адкажы,
Заблудзілася станцыі?..

Э-эх! Туды б,
Дзе са стром Ангара
Ў рукатворнае рэчышча падае!
Белай пенай хлапцоў ахінае
З зялёнымі ранцамі.
— Гэ-эй!..

Таварыш касір!
Гэ-эй! —
Буджу я аконца заспанае.—
Мне білет, калі ласка,
Да самай малодшае станцыі!..

## 1. Грамы

Залева адшалела за ракою,
За ўзвалкамі адгрукалі грамы.
Са школай расстаёмся над Дзвіною
І з працавітай станцыяй Грамы.

У спёку і ў калючую парошу
Яна, як маці, нас аберагала.
Калі ж у маці не хапала грошай —
Яна карміла нас
І апранала.

О памяць
Пра акраец чэрствы хлеба
Ваенных,
Грозных,
Агнявых гадоў!
Акраец ёсць —
Нічога больш не трэба.
Ёсць хлеб —
Святлейшы ў Полацк час прыйшоў.

А недзе там за Одэрам,
Ля Шпрэе
Ідзе апошні бой за нас,
За мір.

Грамы,
Пасля якіх пшаніца спее,
Вязуць на захад
Дзень і ноч Грамы.

Пасляваенны час...
Далёкі.
Блізкі.
Прыходзіць часта
З неспакойных сноў...
Ля станцыі
Нямыя абеліскі
Вартуюць пільна
Мірны сон грамоў.

## 2. Калій

Ляціць машына як страла
Па штрэку.
Блішчыць парода казачным агнём.
Мне здаўся
Цудадзейным чалавекам
Кірпаты салігорац за рулём.

А там, наверсе,
За паўкіламетра —
Яго маленства —
Вёска Кулакі,
Густое вераснёвае паветра,
Капры,
Нібы гіганты-ветракі.

Як прагна марыў хлапчуком у школе
Знайсці ў нікім не ходжаных краях
Ён камень,
Каб было ўрадлівым поле.

Не ведаў —
Прывядзе дадому шлях.
Пад лугам,
Дзе калісь футбол ганялі,
Дзе марылі пра космас ля ракіт,
Геолагі
Той камень адшукалі
З нязвыкла гулкім імем —
Сільвініт.

## 3. Нафтаград

Тут зямля як зямля —
Беларуская шэрая глеба.
І п'яніць,
І дурманіць
Чабору гарачае полымя.
Тут стаяла, нібыта крыніца,
Глыбокае неба
Над палаткай,
Пракуранай навасёламі.

Тут усе і на смех,
І на жарты багатыя,
Асыпаюцца зоры,
Як пойдзе агонь-карагод.

Над Дзвіною
Хлапцы і дзяўчаты
Заўзята
Пачыналі узводзіць
Вялізны завод.

У зарэччы аціхла ў спякоце
Чырвонае лета.
Лета дыхала цяжка
Саляркай і горкім пылам.
І, мігаючы залацістымі самацветамі,
Пераправа напружвала
Ўсю шасціцыліндровую сілу.

Вечар водарам дыхаў,
І песня не засынала.
У прарабцы да ночы
Над першым карпелі загадам,
А ля вогнішча
Бульбай ушацкай
І слуцкім салам
Частавалася
Сёння залічаная брыгада.

Залаціліся зоры.
Асыпаліся сінія зоры
І ляцелі ў Прыдзвінне
Жаданым нябесным госцем.

На нядаўнім ільнянішчы
Узняўся юначы горад —
Аднагодак вясны,
Аднагодак маёй маладосці.

І дыспетчар з ілба
Рукавом пот сцірае салёны
І глядзіць, як ад новых
З тапалькаў танклявых прысад
Ў шлях далёкі

Імкліва ляцяць і ляцяць эшалоны
Ад маленечкай станцыі.
Клічуць яе —
Нафтаград.

---

Але зноўку грымяць і грымяць
Цягнікі да світання.
На бацькоўскіх дарогах —
Юнацтва з зялёнымі ранцамі
Зноў шукае каханне
На аснежанай
Самай малодшае станцыі.

## СКУЛЬПТАР

Метал кусае рукі, як сабака.
Метал,
Пякельным студзенем застуджаны
За тройчы прамарожаным баракам,
На тройчы прамарожанай калюжыне.

А ранкам прыпаўзае аўтакран,
Бярэ метал заснежаны за карак
І апускае ў сіні акіян
Электразварак.

Сякуць метал упарта электроды,
Аж іскры рассыпаюцца з-пад дзюбаў.
Як волат, плечы карпусы завода
Расправілі з таго металу грубага.

Насупіць вечар снегавыя бровы,
Завея пачынае скавытаць,
І зваршчыку крычыць прараб суровы:
— Ідзі, Канёнкаў!..
Час адпачываць!..

І хлопца ахінае сіні сон.
Ўсю ноч маланкі сняцца агнявыя...

Так,
Сапраўды,
Выдатны скульптар ён —
Вунь узняліся карпусы якія!

## СПОВЕДЗЬ

Заўсёды чалавеку неабходна,
Што пабываў у шмат якіх краях,
Успомніць перавалы
І паходы,
Здаля зірнуць на свой жыццёвы шлях.

Памацаць пачарнелыя далоні,
Узважыць,
Што зрабіў ты
У жыцці,
Які ты ўчора быў,
Які ты сёння,
Каб, бы ў чысцец,
У кут свой увайсці.

...Мне вільгаццю чароўнай Іпакрэна
Была Дзвіны зрыжэлая вада.
Гудзеў надрыўна вецер,
Як сірэна,
Ў напятых,
Нібы струны,
Праводах.

Чырвоныя таполі
І асіны
Стаялі сіратліва ўзбоч шашы.
Тут не было ні казкі,
Ні быліны,
Тут не было наогул ні душы.

Тапографы дакладна і заўзята
Прамацвалі шчацiністае ўзлессе,
І заімшэлы,
Чорны бор кашлаты
Пад нос бубнеў сваю лясную песню.

Не вытрымаў кірпаты палахлівец,
Пракаркаў:
— Тут не стрэнеш перамогі...
Тут нас чакаюць маразы і ліўні...
Прараб,
Здаецца мне,
Занадта строгі...

Мы палахліўцу не зрабілі «цёмнай»,
Мы проста паказалі на парог:
— Да пераправы блізка да паромнай —
Шлях знойдзеш.
Ты ж сюды прыехаць змог...

Мы ўсё прайшлі:
І маразы,
І ліўні.
Мы ўсё змаглі.
Мы не ўцяклі, як ён.
Расказваю я сёння,
Як быліну,
Пра справы тых цяжкіх,
Ударных дзён.

## КАЛІ ПОРУЧ ТАВАРЫШ

Аддана верым запаветнай мары,
Крылатым песням,
Маладым вятрам.

Калі з табою поруч ёсць таварыш,
Тады бяда і радасць —
Напалам.

Вясне і сонцу адчыніце дзверы,
І дзень ласкавы усміхнецца вам.

Калі у дружбу моцную паверыш,
Тады бяда і радасць —
Напалам.

Нас далягляды новыя гукаюць,
Няма канца prасторам і шляхам.

Калі ты сэрца людзям саграваеш,
Тады бяда і радасць —
Напалам.

Заўжды бацькоўскай клятвы будзем варты,
Ў дарозе светлай не спыняцца нам.

Калі ты будзеш шчырым і упартым,
Тады бяда і радасць —
Напалам.

Аддана верым запаветнай мары,
Крылатым песням,
Маладым вятрам.

Калі з табою поруч ёсць таварыш,
Тады бяда і радасць —
Напалам.

## КРЭДА

Я па тайзе ішоў не магіканам —
Са мною поруч —
Верныя сябры:
Геолагаразведкі капітаны,
Бурыльшчыкі,
Бетонных спраў майстры.

З равеснікамі дужымі
І мужнымі

(З такімі і на бой,
І на парад!)
Стыхію апантаную адужалі.
У кожнага —
Свой
Дзіва-Санцаград!

Я зноў пяю нялёгкія дарогі,
Юнацтва незабыўнае пяю.

# III. ПАХ РОДНАЙ ЗЯМЛІ



## МАЯ ПЕСНЯ

За песню я,
Як за дзіцё, баюся.
Трывожуся бяссоннымі начамі,
Сачу за ёй стамлёнымі вачамі,
Ухутваю,
Пакутую ў адчаі...
За песню я,
Як за дзіцё, баюся,
Не абмінула б важнага чагосьці,
Каб шчодраю была,
Нібыта восень,
Каб для людзей была
Жаданай госцяй...

За песню я,
Як за дзіцё, баюся.

Смялейшы
Сам раблюся
Ў светлай скрусе...

## СОНЦА

Чалавеку
замнога патрэбна сонца!
Сонца —
поўная галава.
Сонца —
поўныя вочы.
Сонца —
поўнае сэрца.
Чалавеку
замнога патрэбна сонца!
Каб сонечныя
былі мары,
Каб сонечныя
былі справы,
Каб сонечнае
было Заўтра.
Беражы,
Чалавек,
Сонца!

## РАНІЦА

Як блазнюк-ірдзель на батуце,
Па світальнай зямлі
скача промнік.
Усміхаецца шчыра людзям:
— Шчасце будзе,

Як поўня,
Поўным!..

Аціхае ў чупрынах клёнаў
Пераборам сініц пісклявых:
— Добры дзень, Янка!
— Добры дзень, Алена!..

Ляпаюць дзверы,
Пазвоньваюць клямкі...

Падымаюць, крэкнуўшы,
Кварту сырадою
І звіняць навостранай,
Вогненнай касою...

Травы імі скошаны —
Муражыны росныя.
Сцелюць луг дарожкамі,
І не бачна ростані...

Што за дзіва дзіўнае,
Што за слава слаўная —
Старана радзімая,
Дарагая самая!..

## МІХАЙЛАЎСКАЕ

### I

Ранне летняе заірдзелася,
Павялі дубы карагод.
Мне з Міхайлаўскім стрэцца хацелася —
Я ішоў сюды
Столькі год!
Я ішоў сюды нібы ў Мекку.
З той пары басаногай ішоў,
Калі быў хлапчуком,

Няўмекам,
Бегаў з гуртам малых пастушкоў.

Я ішоў сюды праз ваганні,
Цераз цэлы,
Здаецца,
Свет.
І глядзелі
У вандраваннях
Мне паэтавы вочы ўслед.

Дакаралі,
Калі маўчаў,
Калі часам
Агортвалі мукі,
І калі ў адчаі крычаў,
Ён, як бацька,
Працягваў рукі.

Над Міхайлаўскім
Золак ірдзее
І трапеча высокая сінь...

— Добры дзень,
Аляксандр Сяргеевіч!..

Галаву я схіляю,
Як сын...

## II

«Тут у час Вялікай Айчыннай вайны быў назіральны пункт нямецкага снайпера».

*(Надпіс на сасне)*

Гад укормлены,
Чорны крук,
Наглытаўшыся слёз сірочых,
Выглядаў сабе лепшы сук
На сасне,
Каля сіняй Сароці.

Вершаў ён зусім не чытаў.
Толькі добра «Майн кампф» засвоіў.
Ён НП сабе выбіраў
У Міхайлаўскім
Над ракою.

Ён цяпер таптаў тыя сцежкі,
Дзе Паэт калісьці хадзіў,
Гарлапаніў на ціхім узмежку,
Дзе Паэт вялікі тварыў.

Дзе нашчадкі Пушкіна бегалі,
Дзе ягоны Геній віталі,
Дзе да дзірак Яго «Анегіна»
З хваляваннем высокім чыталі...

І старая сасна трымцела
Ад абразы і горкіх мук —
Проста ў сэрца Паэтава цэліў
З яе голля
Фашысцкі крук...

Ад Сароці — славутай ракі,
З нашых родных пявучых абшараў
Паляцелі да д'ябла крукі,
Долу падалі ніцма штандары.

І пяшчотай Радзімы сагрэты,
Як малітва
І наша Любоў,
Над блакітнай
Вясновай планетай
Верш Паэта лунае зноў.

Я іду па алеі Керн.
Рады сонцу
І весняму дню.

Сэрца Пушкіна —
Цвёрда веру —
Я ад кулі злой
Засланю!

## УСПАМІН МАЛЕНСТВА

Блін — не клін,
Жывот не расколе.
Смачны —
Язык праглынеш —
Маці нясе ў прыполе.
У ката Базыля
Слупам сталі вочы —
Упрочкі ісці не хоча.
Дружбака частую —
Навошта звяга?
Кот аблізваецца,
Курню зацягвае...

Ранкам зірнуў на скроні —
Шэрань прабіваецца...

Маленства ўспамінаецца.

## ЗАЙЦАЎ ХЛЕБ

Мне зайцаў хлеб на досвітку прыносіў
Кульгавы,
Заікасты старшына.
А ў сенцах сіпла галасіла восень,
І грукацелі чэрці давідна.

Перамінаўся дзядзька азалелы —
Халодны дождж за вокнамі хвастаў.
І час ішоў,
І ўсё яшчэ не днела.
Я раніцы крамянай не чакаў.

Я расхінаў старэнькую анучку
У дробных рабацінках тытуню,
І хлеб смактаў,
Прамерзлы і калючы,
І бачыў недалёкую вясну,

Калі сінела
Чыстай сінню неба,
Калі гуляць хацелася,
Спяваць,
Калі я мог
Удосталь есці хлеба
І «пеўнікаў» салодкіх паспытаць.

Плылі, як ночы,
Хмары над Дзвіною,
Заход гарэў агнём,
І доўгі час
Кашчэй няшчадны сонца залатое
У падзямеллі злым
Хаваў ад нас.

З ім біўся старшына —
Адважны самы,
Што ў шпіталі быў сшыты са шматкоў...

Пра гэта мне пазней
Сказала мама —
Адна з гаротніц
І адна з удоў.

Усход святлеў.
І хлеб сняжынкай таяў...
Я верыў у Вясну,
Цяпло
І Сінь...

І сцежка лёсу
Не была крутая —
Дабро прыйшло
Свяцейшым ад святынь!..

## ПАРТЫЗАНСКІ БУДАН

За мора сіняе,
За акіян
Адплываў штоночы будан.
І ваўкі
Завывалі на ўзлеску...

Сніўся край мне
З цацкамі веснімі.
Той,
Дзе ззяла ад сонца шыбка,
Дзе жыла залатая рыбка,
Дзе ласункаў поўны рукзак
Сам Царэвіч прыносіў за так,
Той,
Дзе Бабы Ягі няма,
Той,
Куды не даходзіць зіма...

Дзень усхопліваўся,
Як заяц...
Маці з коўдры
Іней страсае...

І за мора сіняе,
За акіян
Адплываў
Партызанскі будан.

## ЛЯСНЫЯ СНЫ

Аўтаматныя
Чуліся чэргі.
Снегам пахла
І ў будане,
У фашысцкім адзенні
Чэрці
Страшна сніліся ўночы мне.

Я на ўсю прыціхлую
Выспу
Ў пудкай цемрадзі
Маці гукаў —
Мне здалося,
Фашыст калыску
Ботам наваксаваным
Таптаў.

## ШАМШАЛІ

Павявала вільготная гліца —
Праснакі
Пачыналі сніцца...

Мы выкопвалі шамшалі
З неразяблай
Глеўкай зямлі.
Скрыгатала жарствой рыдлёўка,
Буркі мокрыя,
Як памакі.
Шамшалі мы вылузвалі лоўка,
Шыбавалі дамоў нацянькі.
Праснакі з іх рабіла
Мама —
Нам ласункі
Лепшыя самыя...

Войкаў вецер,
Нібы гайня,—
За Дзвіною
Гула
Вайна.

## «ЦАЦКІ» ВАЕННАЙ ПАРЫ

Вайна.
Куродым.
Галеча.
Голад...
У кожным сэрцы —
Горкае гора.
Мачынка радасці —
Сонца веснае.

Пра гэта добра фашысты ведалі.
Ведалі нелюдзі —

Не забывалі,
«Цацкі» забаўныя падсылалі.

«Цацкі» стракатыя падаюць з неба.
Дзеці,
Бярыце па густу,
Што трэба.

Вось з-за травінкі праклюнуўся пеўнік.
Возьмеш —
Струной абарвецца песня.

Возьмеш цукерку
Ў паперцы бліщчастай,
І пашматае на дробныя часткі.

Возьмеш дзівосную аўтаручку —
Выбух патрушчыць схуднелыя ручкі.

У шакаладкі, што нам дасылалі,
Калій цыяністы падсыпалі...

Колькі экзаменаў крывава-строгіх
Нам падарылі лясныя дарогі?

Далёка за дымнай смугой вайна,
Ды не забудзецца век яна.

«Цацкі» ваеннай пары
Не забудзем!
Дамовіліся,
Людзі?!

## ПАСЛЯВАЕННАЕ НАВАГОДДЗЕ

Ведзьміна вяселле на двары.
Зімна ў хаце.
— Вось табе і спіткі,
І з'едкі,—
Кажа маці.

Скуголіць вецер
Ці лютых ваўкоў гайня?

Дужа далёка
Да цёплага дня.

Кінецень мама падае ў ложак:
— Будзь душою прыгожы!
Будзь здаровенькі
На ўвесь год,
Як калядны лёд!..

## ХАТЫНСКІ РЭКВІЕМ

Сакавік сачыўся сцюдзёным сокам,
У асмужаных хатах Хатыні
Перамога мроілася
недалёкая,
У яе верылі,
як у святыню.

У яе верылі,
як у збаўленне.
Перамогу
азызлым ранкам
Каля студні,
сустрэўшыся на імгненне,
Моўчкі віталі хатынянкі.

Хатынянкі песнямі мроілі веснімі,
Хатынянкі дзяцей люлялі.
Толькі пошчак вясны
і вясновыя песні
Аўтаматныя чэргі працялі.

...Планета не бачыла з часоў Пампеі
Пекла больш жудаснага.
Агонь,
здабыты калісь Праметэем,
Ля пуні дзіка скавытаў.

Колькі думак крылатых палала ў полымі,
Колькі казак,
якіх расказаць не паспелі,
Колькі мар і надзей,
што маглі быць вясёлымі,
У пекле вогненным тлела.

Аднагодкі мае,
аднагодкі ваеннай пары,
Вастравокія,
будучыя паэты!
Мне дазвольце
ад вашага імя гаварыць,
Вашы песні спяваць недапетыя.

Каб ніколі-ніколі
вогненным факелам
Не палала
дзяцінства наша бязвоблачнае,
Каб квітнела
вясёлкавымі фарбамі,
Каб пявучым было,
вясёлым.

Я схіляю голаў ніжэй
Перад вамі —
мае любімыя.
Абяцаем:
не будзе чорных начэй
Над нашай
светлай
Радзімаю.

## ДАЛЬВА —
## СЯСТРА ХАТЫНІ

Ты як казка дзяцінства даўняга,
Мая радасць і боль мой,
Дальва...
Кроў гарачая ў жылах стыне,

Дальва —
Сястра Хатыні.

У хаціны пад ціхімі шатамі
Прыляцелі чужынцы-каты.
Не раса гарыць на шыпшыне,
Дальва —
Сястра Хатыні.

І усталі над марамі-вёснамі
Вартавымі маўклівымі сосны.
Спі спакойна пад небам сінім,
Дальва —
Сястра Хатыні.

У канюшыне сакочуць конікі,
Сэрца сціснє шчымлівым болем.
Чорных сноў больш не будзе ў паміне,
Дальва —
Сястра Хатыні.

Не кружыць груганам над краскамі,
Не прыходзіць крывавым казкам.
Прысягаем на вернасць Айчыне,
Дальва —
Сястра Хатыні.

## ТРЫВОЖНАЯ ПАМЯЦЬ

Вайна
яшчэ мыліцамі парыпвае,
пазвоньвае медалямі «За вызваленне»,
сыны равеснікаў Перамогі
старанна пішуць у сшытках:
«Мір!»
А ў сэрца маё,
як у званы трывога,
як птушка ў цесную клетку,
грукае
Сангмі.

А ці не замнога
на лёс аднаго пакалення
было Асвенцімаў,
Арадураў,
Хатыняў,
Бабіных Яроў?
А ці не замнога
на лёс аднаго пакалення
надзей, безнадзейна страчаных,
спыненых памкненняў,
учарнелых бароў?
А ці не замнога
на сіняй планеце ўдоваў,
бязбацькавічаў — сыноў і дачок?
А колькі мільёнаў ратаяў
не прычакала Радзіма?
А ці не замнога
родных маіх,
сяброў маіх
завеямі пакут і ўспамінаў
заснежылі зімы?
У маю чацвёртую вясну
не вясна прыйшла
звонам ручаёвым,
песняй жаўруковай,
галінкай вербнаю.
У маю чацвёртую вясну
вайна прыйшла
галашэннем бомбаў,
хіжастай свастыкай,
куродымным небам.
...Сны мае
лютай вайной расстраляныя,
а ў сэрца маё,
як у званы трывога,
як птушка ў цесную клетку,
грукае
Сангмі.
І вайна дагэтуль
мыліцамі парыпвае,
пазвоньвае медалямі «За вызваленне»,
і сыны равеснікаў Перамогі
рашуча пішуць у сшытках:
«Мір!»

# ЗГАДКА ПРА ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Паронка ў печы
Цёплай парай пыхкае,
Ад каганца ажно займае дых.
Дзень Перамогі!
Свята ў нас вялікае.
На стол —
Саган,
Капу гуркоў рудых.

А недзе разрываецца гармонік.
Па-даваеннаму
Вясёлы май.
Які высокі дзень у нас сягоння!
На нас, галодных,
Полацк,
Не зважай!

Хапаем бульбу,
Быццам бы з жароўні
Вугольчык
Кіне сябра за каўнер.

Злуецца маці:
— Вы б, сынкі, пароўну.
Ёсць бульба —
Голад нам няўзнак цяпер.
Няхай сабе хоць дробненькая,
Толькі
Часова гэта...
Будзем лепей жыць...

Парою блісне «свечка»
Ў поснай поліўцы,
І за вушамі ў нас —
Ажно вішчыць.

...Усё ў нас ёсць.
Гнявіць свой лёс не будзем.
Ды калі лыжку
Я бяру парой,

Здаецца:
Ў сагане булькоча бульба,
Спяшаецца,
Як сябра лепшы мой.

Таму,
Калі збіраецца застолле,
Паронка уладарыць за сталом,
І даражэйшага ласунку болей
Няма...

Бяда
Не прарасла быллём...

## У БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Да вас прыйшоў,
Каб нізка пакланіцца,
Прыйшоў,
Каб стаць чысцей,
Каб стаць вышэй,
Апаленыя бураю байніцы,
Апаленыя бураю байніцы —
Вяршыня Славы,
Мужнасці людзей.

Да вас прыйшоў
З трывогай трапяткою,
Каб зноў
На ўсю планету пракрычаць,
Што болей не паўторыцца такое,
Што болей не паўторыцца такое —
Ваеннаму пажару
Не палаць!

Зямля святая,
Як табе прызнацца
Ў любові,

Што мацнее з кожным днём.
Перад табою, быццам перад маці,
Перад табою, быццам перад маці,
Радзіме
Клятву вернасці даём.

Тут,
Дзе аглухлі сцены ў лютым гуле,
Дзе сёння
Зоры свецяцца вясне,
Бацькі маіх равеснікаў паснулі...

Я знаю,—
Не заснуць да рання мне.

## З ХВАЛІ ДЗВІНЫ...

З хвалі Дзвіны,
з хвалі Даўгавы,
як з прыполу матулі,
Вочы мае
на свет белы зірнулі.
Вайна рыпела
старою драгаю...
— Лудзу, даргі драугі!
— Калі ласка, дарагія сябры! —
хтось шапнуў ад душы —
Побач з нашым буданом жылі латышы.
Бульбай з прысаку нас, бежанцаў, частавалі,
Кіпетнем, завараным ажынай, сагравалі.
І блакаднай часінаю
ранню ранняю
Ля дымных вогнішчаў
спявалі песні Райніса.
А па вёсках
галасіла голасна гора,
А па вёсках
гнеў ракатаў, як гнеўнае Балтыйскае мора.

У гарнізонах фашысцкіх —
чырвоныя пеўні пажараў,
Помсты поўныя вочы
ў абсіверaных партызанскіх камісараў.
І па грэблях,
па сцежках балацяных, вузкіх
У атаку ішлі
латышы з беларусамі.
Ападалі фашыстаў штандары
лістотай гнілою,
Сонца пырснула прыгаршчай промняў,
ласкавае і маладое.
У абсмылелых,
траншэямі апаясаных засценках
З латышамі пілі бацькі
ў новенькіх пяцісценках.
Келіх узнімалі
за пройдзеную дарогу,
За перамогу.
З хвалі Дзвіны,
з хвалі Даўгавы,
як з прыполу матулі,
Вочы мае
на свет белы зірнулі.
І лунае песня над палачанскай зямлёю
сцягам.
— Лудзу, даргі драугі!
— Калі ласка, дарагія сябры!

# ПАХ
# РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Шчымлівы боль
Апякае грудзі —
Вось родны кут
Ля Дзвіны-ракі.
А пах —
Успаміны светлыя будзіць.
Так нівы пахнуць
І васількі.

Так пахне лета
У росных травах —
Які прыбой
І які разліў!..

Насумаваўся...
Толькі азваўся
З глыбіняў сэрца
Пах роднай зямлі.

Не,
Ёй не здрадзіць
Сыноўская памяць —
Трывогі душы маёй
Супакой...

Нялёгкімі край мой
Прайшоў шляхамі,
Каб з ім назаўжды
Заручыўся спакой!

# IV. ГЭТЫМ ТРЭБА ДАРАЖЫЦЬ



## ВЫСНОВА

Глыбокі сэнс свяшчэнных фаліянтаў
Не па плячу пахмурным дылетантам,
Зусім глухім да спадчыны зямлі,
Да паху хвоі,
Водару раллі,
Да позірку агністай палачанкі,
Да песні салаўя празрыстым ранкам.

Як цяжка ім крутому санцавею
Ўсміхацца з-пад цяжкіх
Свінцовых веек!

Ім даспадобы першыя паверхі,
Ім даспадобы ўсё,
Што на паверхні.

Глыбокі ж сэнс свяшчэнных фаліянтаў
Не па плячу пахмурным дылетантам.

## ПРАДЧУВАННЕ ВЕРША

Вытокі песні —
На крутых дарогах.
Дарогах
Да нястрачаных сяброў.
Бяды і радасці
Спазнаеш многа,
Пачуеш
Чысты голас жаўрукоў,
Адчуеш
Прысмак смагі гаркаваты,
Пракос прагоніш роўны,
Як струна,
І з першым промнем,
Што загляне ў хату,
Ў душы тваёй абудзіцца вясна.

## ЗАКЛІНАННЕ

Хай сумленне задушыць,
Адрачэцца сям'я,
Калі стрэну двурушнасць
І змаўчу,
Як змяя!

Лёс у гневе бязмежным
Хай раструшчыць спакой
І звядзе з непазбежнай
І жорсткай бядой!

Мая хата не з краю —
Саграваю вясну...

Многім —
Цвёрда я знаю —
Цяпер не да сну!..

## МАЭСТРА

Г. І. Цітовічу

Адплывалі вёсны
На вясёлкавых вёслах.
Вёсны лічылі
Універсітэта жыцця семестры,
А праз вёсны
З кайстраю крочыў па вёсках
Неўтаймаваны маэстра.

Патаналі засценкі ў чаромхавай кіпені,
Гады міналі,
На скроні
Падаў і падаў снег.
Толькі песні
Ні кропелькі не паліналі:
У іх —
Радасць народная,
Боль і смех.

Гудуць гарады.
Брава маршы іграюць аркестры.
Прыслухайся —
Песня плыве павольна,
Як поўня...

На паўкроку спыніўся
Неўтаймаваны маэстра:

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная...



Сібірскі вечар



Стаяць на рэйдзе брыганціны

# МУЗЫКА

*Р. Р. Шырму*

Лёс здружыў мяне
З дзіўнай музаю
І забраў назаўжды спакой —
Несціхана пульсуе музыка
У артэрыі кожнай маёй.

Глінка,
Мусаргскі
і Бетховен...

Ёсць у мары —
Адданы жрэц!
Толькі трубам Іерыхона
Не прыйшоў яшчэ поўны канец.

У Бейруце —
Сталёвы лівень,
Сёлы паляць у Сальвадоры...
Я сягоння шапчу пра дзіва,
Але свята помню пра гора.

Як падобны людскія песні!
Тое ж шчасце,
Нядоля пякучая...

Як сумленным надзеям цесна!
Як крылатым марам балюча!

Чысты, музыка,
Прад табою —
Бо з табою глыбока спазнаў:

Калі жыць,
Дык толькі героем.
І памерці —
Толькі героем
Пад высокі
І светлы харал!

## НЕСПАКОЙ

І. П. Мележу

Трывожны сон у мастакоў сапраўдных:
За шыбай злосна вецер уздыхнуў,
Галінка ціха грукнула у браму —

Да раніцы крамянай не заснуць...

## РУКІ

Што ты за чалавек?
Не трэба мне
Уважліва чытаць тваю анкету.
Нібы кара на мачтавай сасне,
Мне рукі скажуць пра твае сакрэты.

Барозны скуры —
Вечны твой надзел.
Хвіліны шчасця,
Падарожжаў мілі...

Мяне ні кроплі вочы не здзівілі,—
Я на твае далоні паглядзеў.

## СТАРЫ МАЯК

Калі пяро развучыцца рука
Трымаць
І класці травы спелым летам,
Не пазайздрошчу лёсу маяка
Я і тады,
Бо той маяк —
Асляплы.

Калісьці уладарна на зямлі
Ён стаў —

Стварэнне зграбнае металу —
І клікаў на Піцунду караблі,
Якіх ішло у гэты край нямала.

Усевідушчым вокам працінаў
На мілі чарнаморскія прасторы —
Са шчасцем шчасцю стрэчы прызначаў
І вызначаў сустрэчы гора з горам.

Адзіны
Упрыгожваў шчодры мыс,
Адзінаму
Спявалі сосны песні,
І падалі сівыя хвалі ніц
Пад позіркам валадара узлесся.

Ды вечнага пад зоркамі няма,
І лёс з ім абышоўся вельмі крута,—
Узняўся на ўзбярэжжы светлы гмах,
Як крылле чаек голасных, бялюткі.

Бетоннымі плячыма засланіў
Маяк,
І патушыў святло жывое,
І промень у паднеб'і запаліў
Над прывіднаю безданню марскою.

Былую славу не вярнуць ніяк,
Бо іншы караблям падкажа трасы...

Стаіць у ціхай роспачы маяк,
Як чалавек,
Які адстаў ад часу.

## ДАСТАРХАН

Прыкрэкнуўшы, угнулася падлога,—
Раскашаваўся полымны дыван.
І ўсё сабраў, што ў хаце,—
Дзякуй богу! —
Мужчынскі памяркоўны дастархан.

Каб ладам-складам пацякла гаворка,
Каб пачастунак не засеў калом,
Не абышлося без празрыста-горкай,—
Бяседу абяцаў ташкенцкі дом.

Шашлык дыміўся,
Плоў гарбеў барханам
У акулярах хіжых тамады,—
Ён гімн спяваў узнёсла багдыхану,
Зялёнаму,
Яшчэ без барады.

Той багдыхан сышоў з наменклатуры
Вагі прыдаць дасціпным землякам.
Каб кіраўнічай не псаваць фігуры,
Трымаў падоўгу келіх у руках.

І кідаў кіраўнічыя пагляды,
Высновы кіраўнічыя рабіў
І аксакалам аддаваў загады,—
Не гаварыў,
А мёд нібыта ліў.

Ды грымнуў аксакал сівы:
— Даволі!

Табе —
Пад сорак,
Мне ўжо каля ста...

І лямпачка падскочыла пад столлю,
І гулка хрумснуў у руцэ сустаў...

— Даволі!
Мы наслухаліся ўдосталь
Заплямленых, азораных багоў.
Калі не можаш быць сапраўдным госцем,
Дык —
Вунь і ганак...
І —
Бывай здароў!..

І знік, як цень, ружовашчокі ботал,
Знік бляск і пыха прывідным дымком,
І людзі загулі,
Як пчолы ў сотах,—
У хату патыхнула свежаком.

## ПОЛТЭРГЕЙСТ

Грузды у бабкі Ганны сталі сінія.
— То — полтэргейст! —
Сказаў сусед.—
Ага-а-а...

У земляка майго мазгі заклініла,
Шуміць,
Нібы асенняя куга.

Праносіцца знішчальнаю віхурай,
Абы зласлівей
І абы гулчэй.
Пра сутнасць
І пра змест літаратуры
Мяркуе, як сапраўдны карыфей.

Пра прозу
І паэзію гамоніць,
Нагою б'е у пах сацрэалізм...

Прыгледзеўся:
Нямы яго гармонік,
Мяхі пустыя рэбрамі уніз.

Лёс адплаціў за хіжасць
І за грубасць.
Усё,
Як весні крыгаход, сплыло,
Бо таленту,
Бы ў камарынай дзюбе,
У гэнага бажка заўжды было.

## КАЛЕКІ

У хлусні —
Кароткія ногі.
Спатыкнецца ў пачатку дарогі.

У пляткарак —
Доўгія вушы.
Языкі на паркане сушаць.

У хабарнікаў —
Доўгія рукі.
Што паболей заціснуць рупяць.

Называюць людзі спрадвеку
Ілгуноў,
Пляткарак,
Хабарнікаў —
Ка-
ле-
кі.

## ПІСЬМО

Дачушцы Тані

### I

Непагадзь,
Халепа ў крымскіх краях
Разгневалася,
Усхадзілася.
Пісьмо ад дачкі...
Бы крывінка мая
Сама да грудзей прытулілася.

І хоць у дачушчыным
Сціплым пісьме
Пра школьныя справы,

Пра гульні,
Пра студзеньскі мінскі
Бялюткі снег,—
Сэрцу і цёпла,
І ўтульна.

II

«Я цябе люблю!» —
Чытаю зноў я.
Слова лечыць —
Крылы прараслі.
Усемагутны,
Дай ты ёй здароўя,
Шчасця,
Многа сцежак на зямлі,
Мудрасці і гонару
У меру,
Сціпласці
(Мо гэтага найперш!).

Аркуш белай ранішняй паперы,
Ветру спадарожнага,
Даверу,
Маладосці звонкай,
Нібы верш!

## МНЕ ЦЯБЕ НЕ СТАЕ...

Мне цябе не стае, быццам мору прыбою,
Ветру — ветразям,
Ранню — барвовай зары,
Як сасмяглым у дальніх дарогах спакою,
Хуткім стругам прычалу ля роднай зямлі.

Мне цябе не стае, як вясёлкі над полем,
Сэрцу — песні крылатай,
Лугоў — ручаям.
Мне цябе не стае, як вярбы над ракою,
Салаўіных мелодый зялёным гаям.

Мне цябе не стае, нібы промніка ранню,
Як сцюдзёнай крыніцы струменнай вады.
Мне цябе не стае,
Як над стромай дыхання,
Як няўрымслівых мрояў гадам маладым.

Мне цябе не стае, нібы красак узлессю.
Ты патрэбна заўжды,
Як дарозе — прасцяг.
Мне цябе не стае, нібы сонечнай песні,
Мне цябе не стае, як самога жыцця.

## ЦЯРЭШКА

Цярэшка, Цярэшанька,
Мая ты пацешанька.
*(З народнага)*

Толькі-толькі
Новы год
Адшумеў,
як крыгаход,
Ходзіць дзед
як завадны:
— Дзень сягоння —
выхадны.
Ажаніць нягрэшна
Увечары «Цярэшку».
Багата моладзі
У клуб заходзіць.

— Бацьку выбралі?
— Кіньце выбрыкі!
— А дзе сваццЯ?
— Выбралі маці?

Бацькоў памалу —
У цэнтр залы.
Падкінулі на «ура»,
«Лявоніху»
Ян зайграў.

Аж перахапіла дых:
— Трэба сватаць маладых!

Маці ў чарадзе дзяўчатак,
Бацька хлопцам вельмі рады.
Ну, цяпер,
канешне,
Жэняць
«Цярэшку».

Хлопец з дзеўчынай
у круг —
Сарамлівы поціск рук.
— Ат, які дасужы!
«Лявоніху» кружыць.

«Цярэшка, ха-ху, ха-ху,
А што ў цябе ў мяху?..
Цярэшка,
цярэжыла
На печы не ўлежала».

Сталі ў круг цесны
Жаніхі,
нявесты.
Уперадзе маладых,
Як і мае быць,
сваты.

Хата ходзіць хадуном —
Бацька круціцца ўюном.

— Дзе ты, цаца? —
Маці ловіць бацьку.
У хаце —
Ажно дым.

— Цяпер слова маладым.

Стомлены дазвання.
Зноў выпрабаванне:
— Той за ўсіх лаўчэй,
Скочыць хто вышэй.

— Рукі счэплены?
— Хто лаўчэйшы?

Скочыў Ясь:
— Р-раз!
— Два!!!

— Адпачні галава.

— Ну, ты, Ясь,—
Герой.
Танцуй з любой.

Аж расцвіў герой,
Закружыўся з дарагой.

— Ці ж вяселле у вас?
Час даўно пайсці ў вальс.

Сваты закружыліся,
Хлопцы прахапіліся.

«Хоць у хаце цесна,
Запрашу «нявесту».

— Ой, позні час...
— Я праводжу вас...

Аж да пеўняў сяло
Заснуць не магло.

А наранку з любай
Зноў да клуба.

Бацькі дзецям сваім:
— Шчасцейка маладым.

Дзеці зычаць бацькам:
— Здароўечка вам.

— Каб вяселле ўвёсну.
— Ці будзеце хросным?

Грыміць застолле:
— Шчаснай долі!

Пары за аселіцу —
Блізкае вяселле.

Цярэшка, Цярэшка...
Арол
    ці рэшка?

## БАТЛЕЙКА

Сыпануў снежань
З прыпола
        снегу свежага.
Прыцярусіў ляды.
На ганку —
        каляды.
За спіной —
        піліпаўка.
Медавуха выпіта.

Адладзілі скрынку —
Будзе скарынка.
Ад'еліся батлейчыкі
Бульбы з алейчыкам.
Лёку кварту зранку,
Чухаюць патыліцу:
— Не задужа, Янка,
Тут загасцілася?

— Мо ў дарогу кропнуць?

— Каб табе лопнуць!
Ані мачыны.
Чым аддзячыш?

— Пераб'юся і так.
— Чалавек — дзівак.

— Была б дарэчы
Новая сустрэча.

Талент бог не астудзіць.
— Будзе!
— Будзе!

Зноўку дарога
Ад парога
Да парога.

«Дазволь, дазволь, гаспадар,
У новую хату зайсці,
У новую хату зайсці,
Па маснічынках прайсці...»

— Ці ж вы дзёгцем мазаны?
Разам!..

— Разам!..

«Ці не маеш, гаспадар,
Ў хаце лішняга бервяна?
Калі ёсць яно,
Дазволь высекчы яго.
Ці не маеш, гаспадар,
Ў хаце лішняга віна?

Калі ёсць яно,
Дазволь выпіць нам яго».

— У пору трапілі.
Давай святочны трапар!

Несуладны хор
Напаўняе двор.

Хтось з-за хлева:
— Адам і Ева!

— Анёл з мечам
Гоніць прэч іх!

— Бач, ягняткі, пастух
Кланяюцца Хрысту?

— Памаўчы, не гавары —
Вунь выходзяць тры цары.

— Злосны Ірад
У ярусе вырас.

— З малым жанчына...
Плача, магчыма?..

— Вер не вер,
Выйшла Смерць...

Укленчыла дзятва.
— Гату, каб вас...

— Зараз Смерць і Чорт
Возьмуць цара ў абарот.

— Не верыў, Іван!
Бач, далоў галава?

— Пан з паненкай крывабокай
Вунь пусціліся ў скокі.

— Цяпер да рана
Скакаць Цыгану.

«Я цыган — маладзец,
Ні баярын,
Ні купец».

— Філімон з Салохай
Патаўкуцца троху.

— Вунь Васіль з даўбнёй.
Будзе ой-ёй-ёй...

— Вунь Антон Казу вядзець,
А Каза не ідзець.

«Антон плача,
Антоніха скача».

Аж скрынка трасецца —
Рускі з туркам б'ецца.

Дзеці ўскочылі —
Паказ скончаны.

«Многія леты...»

Зноў пайшлі светам.

# ВЯСЕЛЬНЫ КАРАГОД

А над лесам сонейка іграе,
Там мой брацейка коніка сядлае,
У яго мамулька пытае:
— Куды, мой сынку, паедзеш?
— Я ж паеду, мамулька, жаніцца.
— Не выбірай, мой сынку,
у карагодзе,
А выбірай, мой сынку, у агародзе.
*(З народнага)*

## 1. Сугляды

У хаце —
ляда лядам.
— Навошта нам сугляды?
— Патыліцу чухай,
Трымай востра вуха.
Абрус пад настольнік —
Для шчаснай долі.
Каравайны абрус —
З ладам-складам хаўрус.
Каханага да яе,
Як жалезам, прыкуе.

Бацька злосны,
Хмара хмарай:
— Значыць, пара?
— Значыць, пара!
— Ну, давай за стол,
Радня!
Што хадня
Да дня...

## 2. Запоіны

Барышы —
барышамі,
З вусамі
і самі.
Слухаць —
слухаем,
П'ём медавуху.
Піць —
не піць,
Нішчымніцы
не быць.
Не ведаць дзяўчыне
Суму й камлачынкі.
Сукенка шаўковая,
Пяцісценка
новая.

Усё зрабіў
у час
Звеннявой
калгас.
Старшыня ўручыць
даў слова
Тэлевізар каляровы.

— Налівай, сваццця!
— Поўны дом багацця!
— Каб шчаслівыя нашчадкі,
Як антоны,
былі гладкі.

Госці змучаны...

На ганку —
заручыны.

## 3. Заручыны

Лічы —
навекі злучаны:
Як рой,
гудуць заручыны.

— Каб саюз не зачах —
Па руках!

— Абгаворым, як быць.
— Колькі піць?
— Што піць?
— Не смяшыць жа сяло.
— Каб як мае быць было.
— Не па-людску будзе —
Не даруюць людзі.

Кожны пра сваё вядзе.
— А пасядзем дзе?
— А ці хопіць чарак?
— А ці досыць скварак?

Цешча ўзяла слова:
— «Волгу» б старшынёву.
— Не было б той бяды:
Абы добра
Маладым!

## 4. Дзявочнік

Касу сяброўкі
                расплятаюць,
Сяброўкі
        елку завіваюць.
— Як дачакацца ранку
Мне без Янкі?
Ой, наплачуся
У ахвоту
Я у зборную суботу...
Я чакаю,
        як у сне.
Першы промень
                у акне.
Каралавая раніца
Шашэрыцца,
            туманіцца,
Набраклымі пушынкамі,

Асмужаная,
пырскае,
Трывожнымі надзеямі,
Як нядзеля,
надзелена.

## 5. Вяселле

Маўчанне тут
не лічаць золатам.
— За маладога!
— За маладую!
І ўсё ж такі:
— Не соладка! —
Госці лямантуюць.

— Каб жыццё
не зеллем горкім —
Мёдам стала
ўсім на радасць!..
— Горка!
— Горка! —
Ляціць за прысады.

Паспявае
каравай,
Паспявай — налівай!
— Конаўка пустая!

...Каравай падзялілі,
Чаркі асушылі.
Як фіранка,
Шызы дым.

— Добрай ночы
Маладым...

## 6. Пярэзвы

На пад'ём цяжкі,
як звер,
Перазоўны
чацвер.

Ды зноў,
як пір, пярэстыя
Вясельныя
пярэзвы.
Госці лёгкі на пад'ём —
Хоць конаўку нагбом!
Асіпла глотка —
Усё салодка.
Пярэзвы —
перазовы —
Ой ты,
месяц мядовы!
— Будуць жыць
шчасна!..
За шыбай —
дзень ясны.

## КАБ ПАМЯЦЬ НЕ ЗГАНЬБІЦЬ

Чалавек,
Які пасадзіў дрэва
Ці напісаў кнігу,
Не адыдзе ў нябыт,
Як падталая весняя крыга.

Лёсу ўдзячны,
Хацеў бы я кнігу стварыць такую,
Каб не зганьбіць ніколі
Удзячную памяць людскую.

## ПАДКОВА

Дружыннік Усяслава скакаў па палях,—
Падковы звінелі на гулкіх шляхах.
І вось за ўзбалоткам,
Каля пералеску,

У жвір з капыта слізганула жалезка.
Блішчэла, як сонца,
У змроку начы...
Падкову знайшлі мужыкі-крывічы.
Знаходку каваль пакруціў ля агню —
Падкову вярнуў вараному каню.
І зноў камяні,
І пясок,
І балота —
Каня, як і люд,
Дзень паклікаў работны.
То ціха ішоў,
То галопам ён шпарыў,—
Зляцела падкова наранку за ярам...
Не знікла...
Служыла хлапцу талісманам —
На войска французаў ішлі партызаны...
Магілы зладзюг параслі муравой —
За край свой народ падымаўся на бой!
Але пад панамі —
Ні волі,
Ні долі.
І зноўку паклікала ратнае поле.
З сядла паваліўся яшчэ малады
Прапрадзед —
Нястрымны, віхор залаты.
Захроп і памчаў, нібы вецер, канёк
Ад кулі бандыцкай у стромкі лясок.
Іржанне яго не пачуў гаспадар —
Над вёскай курыўся злавесны пажар.
Лясная глушэча —
Туманны світанак.
Каня баявога апошні прыстанак.
Крывавае сонца над лесам іскрыцца,
Нібыта крывёю падкова дыміцца...

Мой бацька дубок на падрубу шукаў
І яблыньку-дзічку ў ляску напаткаў.
Застыў ад здзіўлення вясёлы пагляд:
«Цябе забяру я, красуня, у сад...»
Дзірван утравелы рыдлёўкаю тнуў —
Рыдлёўкай крануты, метал скрыгатнуў!
Падкова?..
Знаходкі няма даражэй!

Хай будзе на шчасце вісець ля дзвярэй.
Вісела нядоўга у хаце падкова —
З ёй бацька кружыў па дарогах жыццёвых.
Ён даўняй вясной не дайшоў да Берліна —
Упаў пад агнём,
Але ў тую хвіліну
Ён сябру-салдату сказаць яшчэ змог:
«Падкову у кайстры
Для сына збярог...
На шчасце...»

## АПОШНІ ДЗЕНЬ СОКАЛА

Над выспаю шалёны вецер свішча.
Гаркавым дымам цягне з-за ракі.
Што ж не чуваць варожае дружыны
І воклічаў да бітвы не чутно?
І ля гармат ужо клююць насамі
Стамлёныя старыя пушкары.
Чаму ж трывожна гэтак на душы,
Хоць непрыступны горды горад Сокал*,
Хоць вежы сочаць пільнымі вачамі
І чорныя, нібыта ў тых сабак,
Паразяўлялі пашчы ўсе гарматы?
Апошні раз драч рыпнуў на узвалку,
Бы хтосьці на маснічыну ступіў.
Лось недзе пратрубіў сігнал трывогі.
У рукі папрасіліся мячы.
Але не лось трубіў за пералескам —
Трубіў трывожны баявы ражок,
І над дарогай пыл узняўся рыжы.
І зазвінелі звонкія падковы.
Салдат перахрысціўся,
Ў неба глянуў,—
Яно такім яму здалося блізкім,
Хоць чарпані далонямі і пі.
Смылела каля вёсачкі быллё,
І шызы дым спаўзаў да паплавоў.

---

* Замак Сокал на Полаччыне пабудаваны ў 1566 годзе і зруйнаваны захопнікамі 11 верасня 1579 года.

Чутно было дыханне чалавека
У чуйнай цішыні за паўвярсты.
І зразумелі ў замку, што бяда
Над горадам павісла, быццам хмара.
Але не пасылаў парламенцёраў
Для перамір'я горды горад Сокал.
Не пасылаў, бо гордым,
Сакалінымь,
Было тады у горада імя,
І гордымі, як сокалы, былі
Яго гаспадары і абаронцы.

...Святая палачанская зямля!
Ніколі галавы ты не схіляла,
Не падала ніколі на калені,
Якім бы грозным вораг твой ні быў.
Без хітрыкаў ішла на чэсны бой,
Каб погань не таптала родных гоняў
І не піла святой вады з Дзвіны!..

Закашлялі ўсе адзінаццаць вежаў
Сухім, траскучым, хваравітым кашлем,
Над ровам дым паплыў парахавы...
Агонь лісой-хітрунняй падпаўзаў
Да сцен.
Ён вуркатаў і грыз бярвенне,
І чорным станавілася яно.
І галасы хрыпелі абаронцаў,
І вочы станавіліся чырвонымі.
І замак Сокал стаў вар'яцкім пеклам.
Не!..
Тут было жахлівей, чым у пекле.
Тут быў агонь.
Тут быў адзін агонь...
Ды не ішлі на вал парламенцёры.
Не!..
Людзі не выходзілі з агню,
Каб літасці у ворага прасіць.

...Святая палачанская зямля!
Ніколі галавы ты не схіляла,
Не падала ніколі на калені,
Якім бы грозным вораг твой ні быў.

## У ПОЛАЦКІМ МУЗЕІ КНІГАДРУКУ

Маўчыць Дзвіна,
Ці злосна трушчыць крыгі,
Ці хоча човен хваляй захліснуць,
Не спяць ў музеі кнігадруку кнігі,—
Свой дыялог з гісторыяй вядуць.

З гісторыяй,
Што не сышла ў адрыну,—
Дух беларуса ставіць на крыло...
І са старонак томікаў Скарыны
Праменіцца свяшчэннае святло.

Яно душу і сэрца наталяе,
Яно дае надзею людзям жыць...
Хоць пустата і глухата гуляе,
Яго не патушыць,
Не засланіць.

Хоць дзікая разбэшчанасць наўкола,
Хоць правіць баль хапуга і ілжэц,
Стаіць,
Нібы мудрэц,
Разважны Полацк —
Памкненняў і высокіх дум вянец.

Пранізліва ўзіраецца у высі,—
Не зразумець старому аднаму,
Як тыя,
Што КПСС кляліся,
Цяпер клянуцца ў вернасці яму.

Цяпер клянуцца ў вернасці народу...
Не помніць іх дрыжачая рука,
Што столькі кніг падводзіла да зводу.
Як гэта даравань былым кручкам?

Іду ў музей.
І на душы — адліга.
Як запавет гучыць ў Сафійцы хор...

Так,
Будзе жыць
Яе Вялікасць Кніга...

Над ёю —
Богаяўленскі Сабор.

## ФРЭСКІ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ

Гады дазволаў межы абкасілі.
Падумаць пра духоўнасць самы час...
І фрэскі прападобнай Ефрасінні
Зірнулі праз імжу вякоў на нас.

І дабрыню пасеялі наўкола,
Бо колькі можна ў прыцемках гібець!
І людзі пачалі на стольны Полацк,
Як на анёла светлага, глядзець.

І згадваць,
Як да баганоснай славы,
У келлю,
Дзе не выпрастаць крыло,
Прыйшла калісьці юная Прадслава,
Каб несці людзям радасць і святло,

Каб над вірліва-плыткай Палатою,
Як немаце-няведанню дакор,
Узняўся,
Нібы сонца маладое,
Над стромай Свята-Спасаўскі сабор.

І каб душа была заўсёды з Богам,
Каб веры ані кроплі не згубіць,
Залатарукі палачанін Богша
Крыж неацэнны для яе зрабіў.

Вякі,
Нібы туман наддзвінскі сіні,

Сплылі за пракаты на спакой...
Крыляе над зямлёю Ефрасіння
Асветніцай,
Пакутніцай,
Святой.

Саборы з рыпам расчынілі брамы,
Змёў павуцінне ранішні прамень,
І атэіст забранзавелы самы
Малітваю вітае існы дзень.

У сцены манастырскія сышліся,
Хто верыць у Хрыстоў свяшчэнны шлях.
Крыжы зазіхацелі ў чыстай высі,
І крыжыкі заззялі на грудзях.

І, трэба спадзявацца,
Што ніколі
Пад стайні іх не будуць зачыняць,
І сэрца працінаць нясцерпным болем,
І на крыжы шурпатым распінаць.

## ГЭТЫМ ТРЭБА ДАРАЖЫЦЬ

Аддадзены мы зямлі сваёй адзінай.
Яна для нас —
І клятва,
І статут.
З усіх святынь няма вышэй
Радзімы,
Цяплей кутка няма,
Чым родны кут.

Усё з Айчынай сэрцам зніцавана
На доўгі век,
Як берагі з ракой:
І радасць стрэч,
І боль пякучай раны,

І горыч страт,
І творчы неспакой.

...Маленечкі кавалачак планеты
Там,
Дзе бруіцца сіняя Дзвіна.
Тваім дыханнем сонечным сагрэты.
Ты для мяне —
Жаданая вясна.

Я за табою
Пільна і раўніва
Сачу,
Нібы за любаю дачкой.
Як выспелі у год залеўны нівы,
Якія гмахі ўсталі над ракой?

Там адплыло гарластае дзяцінства
За плёсы ў лазняку
У дальні край.
Але ў грудзях шчымлівым болем сціснe —
Ты толькі басаногае згадай.

І згадваю,
Калі зірну наўкола
У твары вастравокай дзетвары,
Я сарадаўні
Роўны славе Полацк
З маёй далёкай золкавай пары.

Ад Замчышча віхлясты брук Стралецкай,
Крыжы Сафіі,
Вала цішыня,
Ашчэраныя карпусы Кадзецкага,
Якія не патрушчыла вайна.

Тут зведаў я нішчымніцы багата,
І холаду,
І голаду спазнаў,
А дабрыню старой замшэлай хаты
Ў вандроўках
Ні на міг не забываў.

Не здраджваў ёй,
Няўтульнай,

Аніколі,
Бо разумеў:
Забудуся,
Тады
Мяне забудзе
Мой гасцінны Полацк,—
Горш для мяне
Не можа быць бяды.

Ён для мяне,
Як сонечнае ранне,
Глыток з крыніцы —
Без яго не жыць!

Як ачышчэнне —
Ў родны край вяртанне.
Заўсёды
гэтым
трэба
даражыць!

## ПЁТР І У ПОЛАЦКУ

Ён на жвірысты бераг
выходзіў уранні.
Усміхаліся хвалі
ля самых ног.
Толькі ён не ўсміхаўся —
у прасторах бяскрайніх
Бачыў полымя бітваў,
сувоі дарог.

Лапатала рака
языкатымі хвалямі,
На Сафіі
надрыўна званілі званы,
Па-сірочаму плакалі
жураўліныя далі,
Палачанкі
ратунку прасілі ў Дзвіны.

Ох, як бабы галосяць
балюча і галасна!
Ох, як бабы галосяць
без слоў і без голасу!
Толькі ўсхліпы глухія.
Вочы —
студні сухія...

Пётр цяжка ішоў
брукаванаю вулкаю,
Позірк вогненны
ў холад кідаў людзей.
Над прысадамі
пракацілася гулка:
— Крок цвярдзей!
— Крок цвярдзей!
— Крок цвярдзей!

І ляцелі адчайна ў атаку уланы,
І кіпеў,
як крывавае варыва, бой.

...Уставаў над зямлёю
празрысты ранак.
Сцягі злыдняў
выкідваў на бераг прыбой.

## СЭРЦА ПАЭТА

Не можа быць
Сэрца маўклівым,
Калі ты —
Сапраўдны паэт
І любіш
Дубровы і нівы,
Айчыну,
Як цэлы свет.

Спяваць будзе сэрца —
Ты будзеш

Рабіць
Шчаслівейшым свой век.
Балець —
Бо ты праўдаю судзіш
Усіх,
Хто няпраўдай жыве.

Усе беды,
Старыя і новыя,
На сэрца —
Як чэрвеню град...

Паэты —
Яны не сталёвыя.
Іх лёсы,
Як лёсы салдат.

# V. СВЯТЛО УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ




## З АДНАГО КОРАНЯ

Вячэрняя Прага,
Як россып бурштыну,—
У барвы прыбралася шчодрая восень.
Ды з весняй усмешкай
Шчабеча дзяўчына —
Дыспетчарка аэрапорта:
— Просім!..

Сюды завітаў не да брата
Ці свата —
Дагэтуль у Празе
Не меў сваякоў.
Наш рэйс прыпазніўся.
Бяда.

Ды багата
Паслаў мне выпадак
Сардэчных сяброў.

Пачуўся даверлівы бас Міраслава:
— Дзе суму прычына?
Адкрыйце сакрэт!..
Праблемы мы вырашым хутка і
справўна...

І вось у мяне
Ў Браціславу білет.

«ЯК» лёгка плыве у начным акіяне,
Спакойна мігцяць мірыяды агнёў.
Цяпло пацалункаў пры шчырым
расстанні
Прымножана
Цёплай сустрэчаю зноў.

Лагодна люлялі дунайскія хвалі
За вокнамі дзень
Урачысты і шчасны.

Мне:
— Просім! —
Сябры ў Браціславе казалі.

А чуў беларускае я:
— Калі ласка!

## КАЗКІ ВЕНСКАГА ЛЕСУ

У чарадзейных казках спрэс
Спіць за Дунаем
Венскі лес...

Вунь там
Закуты ў латы рыцар
З супернікам ляціць счапіцца.

Крывавы бой...
Апошні крок...
І ў сэрцы — вогненны клінок.

Вунь там,
На казачнай паляне,
Ў шаўках прынцэса, бы ў тумане.
Кахання вецер не аціх.
Ды дзе ж, дзе казачны жаніх?

А ён ляжыць з клінком ў грудзях,—
Дачасна абарваўся шлях...

Панеслі хуткаплынна хвалі
На грывах
Рэха казак ўдалеч.

Спакойна лес адвечны спіць.
Ён казкі сённяшнія сніць.

Вунь там,
Як казачная ява,
Над стромай ззяе Браціслава.

Была прынцэса.
Рыцар быў...
Дзень даўні са смугою сплыў.

Калі прыйду на бераг сёння,
Мне песні даўніх дзён чуваць:

Распрагайце, хлопцы, коней
Ды лягайце спачываць...

І слёз удзячных не стрымаць.

## КРАКАЎСКАЕ ПРАДМЕСЦЕ

Гром папярхнуўся там,
За Віслай дзесьці,
І промні
Затрымцелі на мурах.
Іду наранку

Кракаўскім прадмесцем —
Святочна-засяроджана ў вачах.

Мне выпала не раз Варшаву бачыць —
І ў дні будоўлі светлай,
І тады,
Калі шляхі хацелі перайначыць
У наркатычным тлуме злыбяды.

Касматыя прыгадваюцца «хіпі»,
Іх плёткі,
Быццам у брыдотным сне.
І —
«Акупанты! Прэч дадому!» —
Ліпла
Паперкай бруднай на маёй спіне.

Ды помніцца,
Сказаў адзін прахожы,
Кульгавы ветэран былой вайны:
— Народ
Ніякі гнюс не пераможа,
Як не стрымаць зіме
Прыход вясны...

І вось ізноў жаданая сустрэча.
У сэрцы —
Цёплай радасці прыліў...

Бялюткія каштан вясновы свечкі
На скрыжаванні шчодра запаліў.

## МАЙСКІ ДОЖДЖ У ВАРШАВЕ 1982-га

Брук, як под,
У твар шугае жарам,
Гром за даляглядам кружыць баль.
Сонныя,

Нахмураныя хмары
Туляцца да ціхай Віслы хваль.

Дзень быў выхадны.
Была субота.
Ў бесклапоцці ж горад не ачах —
У вачах людзей была турбота,
Каб яснеў асмужаны прасцяг.

У вачах людзей была турбота
Пра свой дом,
Сям'ю,
Гасцінны стол,
Каб быў плённы кожны дзень работны,
Зоркі хвалям поўнілі прыпол.

Ды з надхмар'я млява і лянiва
Дождж на Маршалкоўскую прыйшоў.
Водар ён прынёс вясновай нівы,
Пахі рэк,
Гасцінцаў
І лясоў.

Апусцілі ліпы долу вецце,
Пругка ў небе затрымцеў флагшток.
Цёплы майскі дождж!..
І нават дзеці,
Смеючыся, сцішвалі свой крок.

Пыл з асфальту дождждык гнаў заўзята,
Клопатна сталіцу падмятаў
І шматкі аслізлыя плакатаў
У сумёты шэрыя сабраў.

Наталіў паветрам свежым грудзі,
Краскі варшавянкам раздарыў...

Зноўку сонцу
Шчыра ўдзячны людзі,—
Дзень людзей на шчасце блаславіў.

# ЖЭЛЯЗОВА ВОЛЯ

Калі туман схлынае летуценны,
Дзень
Пачынае круг турботны свой,—
Цнатлівая мелодыя Шапэна
Ускрыльвае над прывіднай вадой.

Народжаная ў промнях азалелых,
Народжаная ў ранішняй расе,
Яна імклівай думкай паляцела
І загучала ў велічнай красе.

Яна плыве
Над схаладнелым паркам,
Над пожняй кураслепнаю плыве,—
Жыве яна у сонечных абшарах,
У трапяткой травіначцы жыве.

Яна плыве
Над плыткаю Утратай,
Нібыта светлы позірк з-пад павек,
І робіць аскуднелага багатым,
Няшчаснага —
Шчасліўчыкам навек.

Яна плыве
Пад небасхіл агністы
І засланяе чорны троп бядзе.
Шырока вывяслоўвае над Віслай,
У свет шырокі,
Да усіх людзей...

Калі сціскае крыўда горла болем,
Спустошанасць у сэрцы,
Як агонь,—
Шапэнаўскую Жэлязову Волю
Я згадваю.
Мелодыю Яго.

## ВАРШАЎСКАЯ ВОСЕНЬ

Хоць над хвалямі хмары навіслі,
Што ёй дождждык, разважлівай паве!
Усміхацца красуні-Вісле
Зіхатлівай пявунні-Варшаве.

І сталіца паннай руплівай,
Як у дзень вялікіх агледзін,
Зноў праводзіць таксі імклівыя,
На заводы,
Будоўлі едзе.

Шумам вуліцы напаўняе
І спрачаецца ў аўдыторыях,
Караблі свае выпраўляе
У далёкія акваторыі.

І таропка на золкіх ганках
Прызначаюцца зноў спатканні.
Усміхаюцца варшавянкі
Маладому,
Рабочаму
Ранню,

Бо за хмарамі —
Неба просінь,
Сонцу шчыраму усміхацца...
У варшаўскую шчодрую восень
Проста нельга не закахацца.

## ЛАЗЕНКІ

Пойдзем,
Дружа Яцэк, у Лазенкі
Раніцай пагодлівай гуляць.
Там,
Нібыта залатое зерне,

Промні
Залатыя зіхацяць.

Там
Лясун стаіўся за лясінай,
Моўчкі назірае за табой.
Сонца ў голлі,
Бы ў рагах ласіных,
Вымкнулася строма над зямлёй.

Там
На чыстых аксамітных сцежках,
Быццам бы званочкі,
Галасы.
Там
Дзятвы крыштальныя усмешкі
У кара́лях ранішняй расы.

Там
Нядобры позірк не сустрэне
Хлапчука даверлівы пагляд,—
Час зняверцам не падорыць стрэмя,
Каб галопам наўскапыт
Назад.

Там
Гучыць мелодыя Шапэна,
Там
Гучыць мелодыя
Ж ы ц ц я.

Позіркам пранізлівым Сірэны
Свеціцца асмужаны прасцяг.

Пойдзем,
Любы Яцэк, у Лазенкі,
Раніцай пагодлівай гуляць...

Шлях наш не засееш чорным зернем,
Нашых светлых песень
Не стрымаць.

## ТРАВЕСЦІ

*(маналог варшаўскай актрысы)*

Я — травесці.
Ўскалмачаны малы.
Які жыве
(Які жыве!)
На даху.
Я пра узрост свой думаю са страхам.
Я — травесці.
Ўскалмачаны малы.

Я пра узрост свой думаю са страхам.
І ціснуць шорты.
І парык цяжэй.
А трэба быць падобнай на дзяцей.
Я пра узрост свой думаю са страхам.

А трэба быць падобнай на дзяцей.
Смяяцца,
Плакаць
І скакаць ахвотна.
Я — травесці.
Такая ўжо работа.
А трэба быць падобнай на дзяцей.

Я — травесці.
Такая ўжо работа.
Я — Калабок.
Я — Мятлік.
Я — Хлапчыш...
Чаму ты спачувальна так глядзіш?
Я — травесці.
Такая ўжо работа.

Я — травесці.
Ўскалмачаны малы.
Я пра узрост свой думаю са страхам...
А трэба быць падобнай на дзяцей...
Я — травесці.
Такая ўжо работа...

## ПАБРАЦІМ

Я з прызнаннем не буду таіцца зусім —
Мне суседзяў зямля стала роднаю,
Блізкай.
Блізкім стаў мне і светлы Патсдам,
Пабрацім
Працавітага, мужнага Мінска.

Ён з нямецкай дакладнасцю будзіць гасцей,
Моцным чаем
І кавай гаркавай частуе.
Ледзь над Хафель-ракою пазначыцца дзень,
На заводы, будоўлі, у школы прастуе.

Байкі некалі баяць.
Заняты зусім
Гэты горад зялёны у цэнтры Еўропы.
Калгатлівы турыст курс бярэ ў Сан-Сусі,
У перакладзе
Палац «без клопатаў».

Тут без клопатаў толькі былыя багі
Розных графстваў і царстваў
У мармуры й бронзе.
Прыглядаюся:
Колькі маўклівай тугі
У вачах абчаплянага золатам бонзы.
Колькі шчасця ў Хрысціны агністых вачах
Прачытаў на заводзе я
У Людвігсфельдзе...

Цягавіты Патсдам
Новы вызначыў шлях.
Ён па вопыт у Мінск
Як да сябра едзе!

## У ТРЭПТАЎ ПАРКУ

Шапаціць, быццам час азалелы, залева.
Набрынялай фіранкай
Ухутвае шэрую арку.
То ад гора, відаць,

Вузлаватае голле на дрэвах
У лістападаўскім Трэптаў парку.

Я на дрэвы гляджу.
І здаецца мне:
Рукі маці
Працягнулі з надзеяй
Асеннім суровым нябёсам.
У маўклівых салдатак,
Партызанскай пракуранай хаце,
Вочы выцвілі.
Выцвілі косы.

Не, не вернеш ніколі ні мужа,
Ні сына адзінага...
Трэптаў парк —
Ты вайны гераічная песня.
Краскі польныя шчодра
Прыносіць шторанак Радзіма,
Тым, хто свастыку струшчыў
Часінай далёкаю веснай.

Не, не даўняй часінай,
Бо сэрца пячэ і дагэтуль
Боль святая за гора
І горкія слёзы людскія...
Будзе доўга трывожыць бяссонне
Сумленных паэтаў.
Будуць памятаць вечна
Герояў
Жывыя!

## СІКСЦІНСКАЯ МАДОННА

Без радка б мой дзень быў недарэчны.
Я сябе за гэта дакараю.
А з табою выпала сустрэча —
Крылы для палёту здабываю.

Да карціны падышоў з паклонам —
Колькі сонца ў ёй
І прагі жыць!

Мне й цяпер
«Сіксцінская мадонна»
У спіну
Дакорліва глядзіць.

Штосьці узняло істоту ціха.
Я пайшоў —
З сабой святло панёс...

Свет няўтульны,
Як на стрыжні крыга,
Калі ў ім няпраўда,
Мора слёз,

Калі ў ім
У падзямеллі зносяць
Ад людзей —
Людскую прыгажосць...

А дзяўчына крочыць днём марозным...
А над ёй
З пятлёй —
Нязваны госць.

Горка —
Ласкі весняй не спазнала...
Эх,
Зноў душаць думкі аб вайне,
Бо у сэрцы горычы нямала...

Дрэздэн,
Ты даруеш згадку мне?

## ХЛАПЧУКІ ГУЛЯЮЦЬ У БЕРЛІНЕ

Хлапчукі гуляюць у Берліне
У сваю
Дзіцячую вайну...
А ў мяне
Чамусьці сэрца стыне,—
Я сягоння не змагу заснуць:

Там,
З-за шэрай Брандэнбургскай брамы,
Нема на мяне глядзеў рэйхстаг...

Моўчкі я сачыў за хлапчукамі,—
Вочы пёк крывёй Чырвоны Сцяг,

Той,
Што узвінуўся ў сорак пятым
Над бярлогам цемрашальскіх мар,
Каб ніколі больш над мірнай хатай
Не плыло крыло злавесных хмар,

Не вяла над сінім лесам грозна
Кананада чорны карагод,
Каб дачкі не праліліся слёзы,
Каб сіроцкіх не было турбот...

Гора мы ў вайну зашмат спазналі.
Боль у сэрцы —
Як пякучы жвір...

Не хачу,
Каб вы ў вайну гулялі!
Пагуляйце лепей,
Дзеткі,
Ў мір!

## ШАРМАНШЧЫК З-ПАД ДРЭЗДЭНА

Быў Фрыдрых няшчодры на словы.
З будзённых учынкаў і спраў
Ні дугі не гнуў,
Ні падковы,
Адно —
На шарманцы іграў.

Шарманка у спадчыну дзедам
Яму перададзена:
— Хай,

Хоць крыху пацешыць суседа...
Іграй, мой унучак,
Іграй...

На святы іграў,
На вяселлях,
Нікому свой скарб не прадаў...
Ды ў край,
Дзе снягі каруселяць,
Лёс Фрыдрыха жорсткі загнаў.

Трымціць азалела асіна,
Гайнёю вятры загулі,
І сіпла «Шармант Катарына»
Гучыць на палескай зямлі...

Лясныя салдаты нямала
Страчалі музык на вяку,
Ды гэта —
Душа не прымала.
І —
«Пеўня» яму пад страху...

Бінтамі гады адбялелі,
І згадвае Фрыдрых парой,
Як люты снягамі мяцеліў
За сціплай славянскай гарой,

Як выла надрыўна жанчына
І га́даў кляла,
І зіму,
Як зычылі чорнай адрыны
На землях усходніх яму...

О, як павярнуліся крута
На фронце
І лёс,
І жыццё...

Ён круціць,
І круціць,
І круціць,
І круціць шарманку...
Кульцёй.

## АГНІ ЗАХОДНЯГА БЕРЛІНА

Вокамгненна ліфт узняў у неба,
Дзе вятры на крылах сакаліных.
Бачу я за стужкай Шпрэе срэбнай
Шторм агнёў Заходняга Берліна.

Буйства звар'яцелага неона
Немагчыма сэрцу зразумець.
Хвошча,
Хвошча злосна шторм шалёны,—
Хвалям млосна ў мармуры гібець.

Вымкнуліся над азяблай аркай,
Быццам бы стракаты весні певень...

Хоць былі ў агнях
І моц,
І яркасць,
Згадвалася ціхая няпэўнасць.

## БЕЛГРАДСКІ ДЫЯЛОГ

Будынак зграбны на ўзбярэжжы Савы.
У Слабадана Джурыча я —
Госць.
Расказваю пра край вячыстай славы,—
У дружбы ёсць маршрут,
І мэта ёсць.

Ён слухае пра партызанскія бояў,
Пра гора,
Што спазнала Беларусь...

Сівому ветэрану поле бою
Згадалася.
Ваенны землятрус...

Дзень сакавіцкі сонцам карагодзіў,
Будзіў ваколле
Весні крыгалом.
— Баёў грымоцце ў 41-м годзе
Там,
Пад Масквой,
Тут рэхам прагуло.
Штандар звяруг са свастыкаю пáдаў
На грозную зямлю у небыццё...
Мы партызанскім ужыцкім парадам
Сцвярджалі сваё права на жыццё.
Белград вітаў зару.
Усе Балканы.

## НА БЕРАЗЕ АДРЫЯТЫЧНАГА МОРА

Сакавіцкім ранкам ядраным
Одум стром,
Вяршынь спакой.
Мы прыйшлі на бераг Ядрана* —
Хвалі —
Залатой луской.

Яшчарка іскрынкай пільнаю
Мільгане з зімы ў вясну...
Слухаю калегу Пірнера,—
Ёшка
Згадвае вайну.

Мой калега бачыць раніцу
Той пары —
Жалезны звон,
Як пускалі партызаны тут
Эшалоны
Пад адхон...

Галубоў буркоцце складнае,
Промняў сонечны салют...

---

* Ядран — Адрыятычнае мора.

Ёшку слухаю —
Прыгадваю
Беларускую зямлю.

Яе не струшчаць злыдні
І вякі,
Бо родны нам
Свабоды светлы ранак,—
Мы па крыві
І духу —
Сваякі!

## ТРЫГЛАЎ

Уцёкшы ад будзённых спраў,
Маны,
Ліслівасці,
Паперак,—
Зірні спакойна на Трыглаў
Пазычыць мудрасці
І веры.

Юлійскіх Альпаў цішыня
Напятая,
Нібы спружына,
І схаладнелая да дня
З вяршынь Славеніі вяршыня.

Сутонне,
Нібы шэры кот,
Цяснінай ціснецца крутою.
Апошні сонца абарот
І —
Сонца дзесьці за гарою.

Над стромамі савіны крык —
Дзіцёнак захлынуўся слёзна.
Глядзеў з прыжмурам маладзік
На шлях пустынны і марозны.

Ляцелі цёмныя лясы,
Бы з анямелага экрана.
І шэрань ледзь прыцерусіў
Струмень азяблы аўтабана.

Над маёй калыскай бітваю
Дзень гудзеў,
Як авадзень...
Так,
Як гонар свой,
Прывыклі мы
Берагчы свой мірны дзень!

## ДЗІЦЯЧЫ ФЕСТЫВАЛЬ У ШЫБЕНІКУ

Ужо вясну не птушкі,
А турысты
Нясуць на Адрыятыку даўно.
Апанавалі стылы пляж нудысткі,
З убрання іх —
Паперчына на нос.

Замнога іншым гэта.
Бляклай кралі,—
І фарсануць —
Адно —
Застаўся нос.
Бурштынавыя цёплыя каралі
На шыю кінуў
Ёй няўмольны лёс.

У Шыбеніку фестываль віруе
Дзіцячы...
Неба —
Нібы феерверк.
Сабе спагадных юныя цікуюць
І прыгарнуць гатовы напавер.

На катэры асіплы Чэлентана
Да слёз даярку з Брэстчыны крануў.

А вечар зоркі высыпаў старанна,
Каб лірыкам
І музам не заснуць.

Фантан у неба вогненна ударыў,
Здзівіў стракаты галасны натоўп.
І гарадок гасцінічны «Салярыс»
У ноч глядзеў эскадрай караблёў.

Дзятва спачыла —
Вернісажаў яркіх
Стамляе несканчоны карагод.
Піскпявая кабетка,
Як цацарка,
Лапоча госцю:
— Стрэнемся праз год?..

Па вулках куралесіла ўрачыстасць,
З заліва золак крочыў напрасткі,
А з пляжа пасінелыя нудысткі
Самотна пазіралі з-пад рукі.

## РАБІНЫ СУОМІ

Валатоўкі не палаюць верасам,
Ды ў вачах —
Сяброўская гасціннасць...

Наталіў барвовым сокам верасень
Хельсінскія стромкія рабіны.

Іх вітаю,
Як сваіх знаёмых,
Шчыра аддаю цяпло далоняў.
Мне пажар рабін у Мінску,
Дома
Прыгадаўся раніцай сягоння.

Мо таму,
Што змучыла расстанне,
Што вакол гудзе машын гайня...

Так,
Без настальгіі мы не ў стане
Без Радзімы шчасна жыць і дня.

Без яе
З калыскі чутай песні,
Без яе
Дасціпнай прастаты,
Без яе
Усмешкі шчодра-весняй,
Без яе
Былiннай пекнаты.
Без яе вяршынь,
Яе прастораў,
Без яе крыніц,
Яе нябёс,
Без вялікіх радасцей
І гора,
Усяго,
Што ёй прызначыў лёс...

Журавы вяслуюць...
Дзень залеўны
Поўняць песняй шчырай іх шнурочкі.
Я гляджу на птушак
І на дрэвы...

Толькі слёзы засцілаюць вочы.

## У ДОМЕ-МУЗЕІ АЛЕКСІСА КІВІ

За сцяною —
Лес.
Люстэрка-возера.
Ціха,
Насцярожана ў хаціне.
І чутно:
Галінка пала вобзем,
І шапоча вецер вершаліне

Пра дамок над берагам пукатым,
Пра чараўніка
Жывога слова,—
Ён,
На цвік накінуўшы кульбаку,
Сцежкай да людзей пайшоў вясновай.

Травы нахіляюцца у пояс,
Лес наструніў лёгкае крыло,
І струменіць пераспелы колас
Залатое,
Чыстае святло.

Так,
Яму адкрыюць сэрцы людзі.
Ён спазнае радасць,
Бед асцё,
І ў радку яго ным кожным будзе
Біцца,
Нібы ў жылах кроў,
Жыццё.

Я стаіў трывожнае дыханне —
Падалося мне,
Што зараз зноў
ПрыйдзеКіві ў хатку
Сінім раннем
Ў чарадзе сваіх «Сямі братоў»*.

## АЙНОЛА

Шэрань на узвалках —
Белай беллю,
Вецер узвінае пругка крылы.
Ці мо дакрануўся Ян Сібеліус
Пальцамі да клавішаў настылых?

---

* Класічны раман заснавальніка сучаснай фінскай літаратуры АлексісаКіві.

Гэта Ён —
Пайшоў сцяжынкай жвірыстай
Адпачыць пад восеньскія шаты,
Покуль праміне турыстаў жылістых
Плойма
Праз утульнасць светлай хаты.

Хай лунае над прасторай тайна —
Гукі,
Фарбы,
Думка трапяткая...
Гэта Ён
Сваёй жаданай Айне
Лепшыя старонкі прысвячае.

Гэта Ён
Ад возера няспешна
Зноўку падышоў да ціхіх клёнаў...
Зноў мелодый акіян бязмежны
Над абрусам вод шэра-зялёных.

Дысанансам завурчэла «Вольва»,
Гыркнула імклівая «Таёта»...
Знікла раптам тое,
Што міжволі
У душы згадалася прыроды...

Мармур груша грэе голлем голым.
Над зямлёй
Гудзець вятрам вякамі...

Я адчуў:
Ад ганка у Айноле* —
Вечнасць памяркоўная над намі.

* Музей Яна Сібеліуса, непадалёку ад Хельсінкі, названы імем жонкі выдатнага фінскага кампазітара.

# РЫБНЫ КІРМАШ У ХЕЛЬСІНКІ

Сонца луской іскрыцца
У неразяблай прасторы.
Плошча фінскай сталіцы —
Дачкі Балтыйскага мора.

З самага рання плошчу,
Шэры настылы камень,
У дзікай агоніі хвошча
Рыба тугімі хвастамі.

Рыба на суднах ветлых
У цюбарах і кашолках
Пераліваецца светла
Колерамі вясёлкі.

Морам дыхаюць дошкі
Ветрам надраенай палубы.
Салака —
Агеньчык плошкі.
Буры таптыгін —
Палтус.

Не плошча мяне залюляла,
Не гэты кірмаш гарачы.
Таропка іду да прычала
Да самай юнай рыбачкі.

Год чатырнаццаць, пэўна,
Гэтай дзяўчынцы кволай.
Тавар шпурляе упэўнена,
Кроплі падаюць долу.

Рукі яе пабачыў —
Сэрца болем сціскае.
Рукі — вуголле гарачае,
Жорсткая соль раз'ядае.

Сонца ў зеніт бярэцца,
Зноўку у мора трэба...

Нялёгка дзяўчынцы даецца
Кавалак існага хлеба.

# НАЧНАЯ ТАВЕРНА

Усіх,
Хто працу страціў,
Страціў веру,
Каханне страціў
І гасцінны дом,
Начная таямнічая таверна
Сваім атуліць прывідным святлом.

Гаркавы прысмак кавы,
Шум вясёлы —
Уяўны дабрабыт.
І бляск вачэй
Умольна просіць
Не,
Не кока-колы,—
Напоўні келіх чым пагарачэй.

Напоўні —
Раўчуком памкнецца споведзь
Пра чорны
І зусім кульгавы лёс,
Пра сэнс жыцця
І што яго аснова —
Зіхоткі дым,
Што вочы есць да слёз.

Напоўні —
І ракой вірыцца марам,
Туман ружовы ў сэрцы затрымціць,
На момант адплыве цяжкая хмара,
Захочацца шчымліва жыць
І жыць!

Напоўні —
І ліхтар —
Нібыта поўня,
І ў меламане —
Песні салаўя,
Як толькі віхляне грудзямі поўнымі
Адна.
І прашапоча:

«Я —
Твая!»

А ранкам зноў скразняк абрыдлай біржы,
Блуканні-спадзяванні,
Нібы ў сне,
І толькі успамін
Паўзмрочным брызам
Па сэрцы
Жорсткім болем хвастане.

## НА ХЕЛЬСІНСКІМ ВАКЗАЛЕ

Аціхла вакзальная калатнеча,
Скразняк піліпаўкай вые.
І золкі асенні хельсінскі вечар
Хавае ў каўнерык шыю.

Нібыта з забытага сметніку подых,
Як з чорных скляпенняў вецер,
Юнак падкаціўся на вузкіх сходках:
— Вось —
Панацэя ад смерці!..

Апоены сінябрухаўскім півам,
Боскі служка старанна
Распіхваў па кішэнях пачціва
«Евангелле ад Іаана».

Драбнюткія,
Проста з мачыну, кнігі
Пад пошчак паспешлівых крокаў
Стайвалі хутка,
Як веснія крыгі,
У джынсах,
У зморшчках штроксаў...

Умольна пазіркваў п'янюткі служка,
Натоўп праплываў ракою
І кніжачкі неяк няўклюдна гушкаў,
Нібыта дзіця чужое.

Чакалі сустрэчы мяне,
Дарога...
У службі ў вачах —
Нярадасць...

Напэўна,
Не ўсё ў канцылярыі Бога
На сённяшні дзень ладам-складам?

## У РЫМСКІМ КАЛІЗЕІ

Сутонее...
Неонам пунсавее,
Лускою фар іскрыцца цесны Рым.
Прыпынімся у гулкім Калізеі,
Сярод муроў настылых памаўчым.

Уявіць кожны
Быццам бы наяве,
Як гладыятар-раб канчаўся тут
І як тыран,
Што роўны богу ў славе,
Не заўважаў жывых людскіх пакут.

А са скляпенняў тыгры і мядзведзі
Ірваліся да сонца,
Да святла...
Убачыўшы часцінку неба ледзьве,
Кроў па арэне чорная цякла.

Звер адчуваў:
Пакуль ёсць сіла ў целе,
Памерці лепш у жорсткай барацьбе,
Чым зведаць голад,
Холад,
Страх
І цемру,
Чым век у падзямеллі прагібець.

І ведаў гладыятар:
Не загіне,
Зноў атрымае рабскае жыццё,
Калі глядач угору рукі ўскіне
І сэрца не кране мяча асцё...

У клопатах адвечных
«Вечны горад».
Яны —
Трывогай у вачах людзей,
Заручаных з капрызным лёсам,
Горам,
З усім,
Што ім нясе наступны дзень.

## КАРОЦА!

Кароца!
Кароца!
Кароца! —
Гукаюць рыпучы вазок.
Туз лічыць прагулкай каронпай
Па Рыме.
Ну,
Хоць бы разок!

Каняка,
Пастрыгшы вушамі,
Праз вір
Ашалелых машын
Шыбуе.
Зялёная замець
Вітае яго з каляін.

І чуецца пах канюшыны,
Расянай,
Крамянай травы.
Ад рэзкага паху бензіну
Ужо не стрымаць галавы.

Каняка прастуе на ўзгорак,
І сіл ужо мала зусім...
А дзесьці удалечы —
Мора.
А дзесьці —
Буяюць аўсы.

Ад смогу аслеплыя вочы,
У кожным суставе баліць.
Конь,
Бы гараджанін,—
Штоночы
Адзіную вёсачку сніць.

Вясковая сніцца дарога,
Вясновая сніцца ралля...

Кароца!
Кароца!
Кароца!

І зноў выпраўляцца у шлях.

## ВАТЫКАН

Вось так і ў даўняй вёсцы:
Пан —
Палац на ўзвалак,
Дзе вышэй...

Навіс над Рымам
Ватыкан —
Да Бога,
Бач,
З гары бліжэй!

Карэнні ў дол —
Ні даць
Ні ўзяць
Здзіўляе гмахамі сваімі.

А Цібр,
Як брудная сляза,
Бяжыць па шкле блакітным Рыма.

Вакол —
Маўклівая сцяна
Ды брама для турысцкіх плоймаў.
Як чорны жук, паўзе манах
Служыць у папскую абойму.

Там
Нератоў таемны кут,
Там
І самім ўсявышнім правяць...

Там
Дзівіцца турысцкі люд
На гульні цацачнай дзяржавы.

Умлелы дрэмле надвячорак,
Стамлёна небакрай зіхціць...

І Ватыкан,
Як айсберг чорны,
Імкнецца сонца засланіць.

## ЛА СКА́ЛА

Міланскі ранак светлы і ласкавы
Дзень пасадзіў, як птушку,
На карніз.
Стаіць узнёсла-велічна Ла Скала,
Бы выканаўшы оперу на «біс».

У камяніцах ціха дрэмлюць гукі,
Азяблыя,
Настылыя ушчэнт.
Натруджаныя музыканта рукі
Мазоль да рэпетыцыі пячэ.

Спявак спрабуе голас,
Нібы певень,
Ад роднага тэатра за квартал.
Пупышкі набрынялыя на дрэвах
Вясна няўмольна кідае у шал.

Але за поўдзень,
Як пачне сутонець,
Скіруе да тэатра шчыра люд,
Каб чысціню душэўную патроіць,
Пазбавіцца ад тлуму і пакут.

Не ведаю,
Ці трапіць толькі хлопчык
У залу,
Дзе буяе прыгажосць,
З якой сустрэцца вельмі-вельмі хоча
І моліць:
— О, падайце, колькі ёсць!

Аб словы чэрствасць б'ецца,
Як аб скалы,
За лірай ліра ў капялюш бяжыць...

І, можа, гэтым вечарам Ла Скала
Прэм'ерай будзе для яго душы.

## ЛЯ ПОМНІКА АХВЯРАМ ВЫБУХУ НА ЧЫГУНАЧНЫМ ВАКЗАЛЕ Ў БАЛОННІ

Так,
Майстры забойстваў робяць чыста —
Кроў ад стрэлаў іх,
Таемных мін...
У старых
І сённяшніх фашыстаў
Почырк для злавесных спраў адзін.

Я стаю на ранішнім пероне.
Цешыцца Балоння

Ў ціхім сне...
Можа, заўтра,
Можа, нават сёння
Тут фугас варожа ірване?

І тады
Ў канвульсіі смяротнай
Схамянецца спуджана вакзал.
Быццам бы вачніцы, стануць вокны,
А муры,
Як друз струхнелых скал.

І тады
На дошках мармуровых
Побач з тымі,
Што з ваенных год,
Прозвішчы ахвяр накрэсляць новых —
Справіць смерць
Свой чорны карагод.

Толькі я
Ў трагедыю не веру,
Не рыдаць пакутлівай бядзе:
Сонцу і Даверу
Насцеж дзверы,—
Чыстым дзіцем новы дзень ідзе!

## МОГІЛЬНІК МАШЫН У МІЛАНЕ

І дзе іх бляск,
І дзе іх пыха?..
Праз рэбры хвошчуць мурагі.
Насы машыны у дол,
Бы крыгі,
Вясною трушчаць берагі.

«Фіяты»,
«Сімкі»
І «Таёты»

На могільнік адзін прыйшлі.
За брамай —
Трасы і турботы,
Ўсе беды,
Радасці зямлі.

Цяпер машынам больш ніколі
Па магістралях не прамчаць.
Якім нясцерпна-лютым болем
Іх фары мёртвыя крычаць!

Ў салонах «Фіджаў»
Апантаных
Не выветрыўся мяккі пах,
І позірк вогненны путаны,
І пацалунак на губах.

Кароткі век усіх лягцовак
У век касмічных караблёў...
Па трасах вокамгненных
Новых
Машын імчыцца статак зноў.

Тут скрыгату металалому
Даўно ніхто не замінаў...

Патрушчаны «Фіят»
Бяздомны
Пад вечар для жытла прыдбаў.

## МАДОННАРЫ

### 1

Мастак —
Пад хіпі —
На бетоне
Угоднікаў малюе лікі.
Дзень умалотны будзе сёння.
На мёртвых ліках —
Сонца блікі.

Натоўп плыве,
Плыве ракою,
Ў бляшанку,
Нібы кроплі,—
Ліры.
Мастак вылузвае спакойна
Манеткі.
Раз...
Два...
Тры...
Чатыры...

Святы угоднік адхінае
Рыззё.
Адкрыў худыя грудзі.
З хітрынкай мастаку міргае —
Святым,
Як чарку возьмеш,
Будзеш.

Вясновы дзень на Апенінах
Бывае шчодры на дажджы.

Дождж заструменіў па галінах,
Дождж па бетонцы ўжо бяжыць,

Далоняй мокрай з тратуару
Сцёр порстка крэйдавых святых
І зноў на стромы,
На абшары
Памчаў на крылах веснавых.

У паднябессі пасвятлела.
Чароды хмар
Сплылі назад...

На дне бляшанкі заблішчэла
Скупая дробязь,
Як сляза.

2

Пакуль з-за Апенін не хлынуць хмары
На горад нескапчонай талакой,—

На вуліцы выходзяць мадоннары —
Душу вярэдзіць творчы неспакой.

Майстэрня іх на тратуары гулкім,
Асфальт надзейным служыць палатном.
Хоць голадна,
І холадна,
І мулка,—
Мастак жыве пасланым богам днём.

Высозная гранітная калона
Ля мастака наструнена маўчыць,—
Цнатліва-таямнічая мадонна
З сутоння на калону паглядзіць...

Мялкі ушчэнт спісаліся.
Неонам
Успыхне зараз вечны горад Рым.
І нанач зябка-прывідна мадонна
На тратуары сцішыцца сваім.

Турысты пройдуць і карабінеры
У цемрыве таропкія па ёй...
Але мастак адзінай зорцы верыць,—
Наранку зноў куточак займе свой.

Мялкамі зноў сваю душу раскажа
Пад тупат ног
І пад сірэн выццё...

Вось на такім бясконцым вернісажы
Усё яго пакутнае жыццё.

Ён ні кала
І ні двара не мае,
Ды сэрца радасць поўніць ад таго,
Што ўпотай цэлы тыдзень назірае
Хлапчук
За ціхай творчасцю яго.

Мастак ні лёсу,
Ні багам не верыць.
Адзінаму давер —

Майстэрству рук,
І што хлапчук той стане
«Сынам ветру» —
Што будзе мадоннары той хлапчук.

Таемным думкам усміхнецца шчыра
Мастак.
Жыццё згадае
І багоў...

І конікамі азавуцца ліры
Ў кішэнях замусоленых яго.

## ПЫТАННЕ

Адольф сумуе
У Франкфурце-на-Майне.
Ён для дзядка
Не дзіва-адкрыццё.
Тут сціплае жытло
І жонку мае,
І неахвотна згадвае жыццё.

Ён абмінае тлумныя кварталы —
Не даспадобы металічны шум,
Бо за гады ўсе нервы пашматала,
Пакінуўшы у сэрцы мора дум.

Трамвай здаецца
Міні-землятрусам,
Неон,
Як вар, у сагане кіпіць...
Аднойчы,
Напаткаўшы беларуса,
На тыдзень пагадзіўся прытуліць,—

З капейчынай напружана, напэўна,
З перабудовай, кажуць,—
Цемната...

Ў кватэрку ўпырхнуў ён увішным пеўнем:
— Ну, жонка,
Што ў тваіх запасах там?..

А потым пасля скваркі
Ў пары з чаркай,
Расчырванелы так распавядаў:
— Не меў у вас я за паўвеку сваркі,
Быў з беларусам,
Як адна вада.
Вырошчваў жыта на Палессі дбайна,
Старанна песціў прысядзібны сад,
І шмат гадоў трымаў штурвал камбайна,
І гушкаў сваіх дзетак-пестанят,
Ды некаму скрышыць карцела долю,
Ў душу залезці бруднаю рукой:
«Паехаў бы ў Нямеччыну,
Адольфік,
Зрабі дэмакратычны выбар свой...»

І ён зрабіў...
Хаця няўцям дагэтуль:
Навошта драць з зямліцы карані?
Было ўсё добрай любасцю сагрэта,
Цяпер разборкі чыняць
Дзень пры дні.

## ГОРАД, ЯКІ БУДУЕЦЦА ВЕЧНА

Кожную восень
Глухою поўначчу
З возера Юлемістэ выходзіць дзядок
Дакладна, як поўня.
Дзядок Ярвенан
Апускаецца да гарадскіх варот
І вартаўніка
Бярэ ў абарот:
— Ці гатовы ўжо горад?..
Ці там яшчэ штосьці будуецца?..

Вартаўнік ведае,
Што адказаць,
Але шчыра хвалюецца:
— Куды там...
Спатрэбіцца многа год нам,
Каб скончыць усю работу...

Дзядок незадаволена
Пахітвае галавой,
І зноў у возеры
Знікае пад вадой.

Калі б Ярвенану,
Што горад гатовы, сказалі —
У тую ж хвіліну
Прапаў бы Талін:
Бо кінуцца
Воды возера Юлемістэ
З Ласнамягі ў даліну
І горад
Разам з жыхарамі загіне...

Вось чаму
Вечна
Будзе
Сонца ў рыштаваннях іскрыцца.

Вось чаму
Ніколі
Не будзе дабудавана
Эстонская сталіца.

# VI. ПАД КРЫЛОМ ЕГІПЕЦКІХ ПІРАМІД



## САХАРА

Гарачы вецер хвастануў па твары.
Пяскі,
Пяскі...
Дарога, бы страла.
Бясконцая, як белы свет, Сахара
На кантыненце вечнасцю лягла.

Я лёс за спёку дакараць не буду —
Уражанням няма зямной цаны...
Узнёсла-засяроджана вярблюды
Шнуруюць жоўць пустыннай цаліны.

Прастора адкрываецца двухгорбым,
Няма ў вачах разгубленай тугі,—

Ім невядома,
Як Міжземнамор'е
Люляе лёгкай хваляй берагі.

Іх,
Караванных волатаў,
Не ўразіць
Машын стракатых велічны паток.
Хутчэй бы выплыў з міражоў аазіс,
А там —
Вады гаючае глыток.

Ім брыдкі пах цяжкі у дэльце Ніла,
Ім па душы бясконцы гэты шлях,
Бо сілаю стожыльнай наталіла
Гарачая
Нішчымная зямля.

Трымціць шаша суканай шэрай ніткай.
Над ёю маладзік,
Як ятаган.
І скарабей,
Нібы заціяты крытык,
Штурхае шарык гною на бархан.

## КАІРСКАЯ РАНІЦА

Кто не видел Каира —
Не видел мира.

Сказки
«Тысяча и одна ночь»

Адплыў на хвалях Ніла шэры морак,
Агні патухлі дружнай талакой.
І вось натужна загулі маторы,
Машыны з эстакад імчаць ракой.

Крануў прамень настылыя карнізы,
Святлее,
Смог пякучы не імжыць.
Гляджу —
Па аўтастрадзе з боку Гізы
Ішак з вазком духмяным церусіць.

Яго сустрэне служка «Шэратона»
Ці іншы прыгарне гігант-атэль,
І пакаштуе дар зялёнай кроны
Бар,
Што гудзе,
Нібы вясновы чмель.

Зірнула сонца тысячай каратаў,
Таксі вядуць надрыўны перагуд.
Ад шумнай метрастанцыі заўзята
Спяшаецца да рознай справы люд.

Бос і юнак з абдымкаў цёплых любай,
Пыхлівы дыпламат,
Як быццам цар.
Вось рукі ўзняў,
Нібыта певень дзюбу —
Дзень павітаў пранырлівы гандляр.

Ён крамкі адчыніў гасцінна дзверы,
Хвалу Алаху ціха прашаптаў
І першую фунтовую паперку,
Як любую сваю
Расцалаваў.

## ВЕЧАРАМ ЛЯ ПІРАМІДЫ ХЕОПСА

Сляды таропкіх капытоў астылі,
Ні мітусні,
Ні лёгкай гаманы.
На звечарэлых выганах пустыні
Вярблюджыя
Вярблюд каўтае сны.

Ён цэлы дзень пазіраваў турыстам,
З каленяў на гарбы браў дзецюкоў,
Каб гаспадар хадзіў з наварам чыстым,
Да пірамід ізноў
Яго прывёў.

Вітаў ён столькі чорных,
Жоўтых,

Белых!
Катаць іх налаўчыўся на спіне,
Няўклюдных
І, як правіла, нясмелых.
Цяпер турыст яго не абміне.

Цямнюткія егіпецкія ночы! —
Калісьці трапна вызначыў паэт.
Ды госць на піраміды вельмі хоча
Зірнуць,—
На іх сышоўся белы свет!

Пясок гарачы прыдушылі шыны,
І вось лапочуць шчыра пад віно
Пра дзівы Гізы шчодрыя мужчыны,
Хоць дзіваў ім з машыны не відно.

Гучыць ля Сфінкса дружны хор з «Аіды».
З каменных стром —
Танклявы птушкі крык...

А на вяршыні вострай піраміды
Сядзіць,
Нібыта блазан,
Маладзік.

## СФІНКС У ГІЗЕ

Пад зоркамі жыве Саід.
Дакладны адрас —
Каля Сфінкса.
Гады пад ценем пірамід
Змянілі зубы ўсе на фіксы.

Незацугляным хлапчуком
Пабег шукаць скарынку хлеба.
Пад небам —
Лёс яго
І дом.
Раднёю —
Сфінкс
І гэта неба.

Туриста бачыць за вярсту
І цягне за крысо упарта.
Калі ў душы імпэт патух,
Чаго ты,
Гід мясцовы,
Варты?

Лапоча ён пра даўні час,
У час адважвае паклоны,
І адкрываецца для вас,
Як лепшы друг Тутанхамона.

Ён фунту ведае цану.
Ён ведае:
Вячэра будзе.
А за драбнюткую ману
Алах, напэўна, не асудзіць.

Аціх машын загнаных віск,
І сонца курс бярэ на вечар.
Іх двое:
Гэты вечны Сфінкс,
Саіда нерушная вечнасць.

Дзень клопатны даўно спачыў,
Гід чуйна задрамаў да рання...

А Сфінкс
Глядзіць удалячынь,
І ў позірку яго —
Пытанне.

## ХАНХАЛІЛЬ

Таўчэ вазок з натужным рыпам
Дарог шматвекавую быль.
Каб ведаць,—
Кажа друг,—
Егіпет,
Ты завітай на Ханхаліль.

О Ханхаліль!
Усходні рынак —
Адно з дзівосаў на зямлі.
Тут ад струхнелае старызны
Да суперрэчы
Вы б знайшлі.

Тут ад Парыжа да Ганконга
Асартымент ва ўсёй красе.
Гандляр нырае лёгкай стронгай,
«Навар» збірае пакрысе.

Не,
Не купляй тавар адразу,
Круці цану разы са тры,
Інакш ты гандляра абразіш,—
З ім неабходна гаварыць.

Зіхцяць пярсцёнкі залатыя
І мішура «пад серабро».
Не крамку —
Сэрца ён адкрые,
Калі кранеш яго нутро.

Загорне твой пакунак лоўка,
І з твару знікне сумны цень,
Нібыта ў дзядзькі з Камароўкі,
Калі выключны выпаў дзень.

## МЁРТВЫ ГОРАД

Спазнаўшы шчасця
І спазнаўшы гора,
Прайшоўшы да канца жыццёвы круг,
Пакліча чалавека «мёртвы горад»
Ці могільнік,
Як самы даўні друг.

Муры стаяць з развагаю,
З размахам,
Не меў кутка —

Тут можаш атрымаць.
І дом,
Як дом,
Не мае толькі даху —
Душы зручней да Бога адлятаць.

Смуродзіць аўтастрада за мурамі,
З афішы ўсмешкай пырскае кумір...

Падаць рукою —
Побач з мерцвякамі
Бетонны і неонавы Каір.

Тут напаткаеш пыхі шмат
І шыку,
Ад тлустых босаў мітусня ў вачах,
І мітусня ад беднаты,
Што звыкла
Праходзіць сумна
Свой жабрацкі шлях.

А юныя, зняверапыя людзі,
Без працы і жытла,
Хоць трэба жыць?

І нанач хлопца ў свята
Ці то ў будзень
У стане «мёртвы горад» прытуліць.

Там мулкі камень —
Ложак лепшы ў свеце.
Маліся за свой лёс,
За ўсіх багоў.
Як певень,
На высозным мінарэце
Мула разбудзіць досвіткам яго.

Пацягнецца падлетак зябкім раннем,
Зірне лагодна
На магільны кут,—

Пачаць ізноў дарэмныя блуканні
Ці, можа, назаўжды застацца тут?

## ЗАМАЛЕК

Жывы калос з бетону,
Шкла
І сталі —
Здзяйсненне спраў
І запаветных сноў.
Наструніўся,
Як юны клерк,
Замалек,—
Адзін з шыкоўных нільскіх астравоў.

Тут гаспадарань босы і куміры.
Шкло офісаў —
Люстэркамі крыніц.
У іх —
Суквецце слыннага Каіра
Адбілася,
Як сполах навальніц.

І,
Як належыць дзелавым кварталам,
Зніто ўвае ён з дзіўнай казкай быль.
Сюды мая дарога завітала —
Спяшаюся на вуліцу Бразіль.

Мчаць «мерседэсы»,
Як Дзвіною крыгі.
О колькі тут блішчастых гэтых крыг!
Не абмінуць мне краму роднай кнігі,—
Тут томікі,
Як чыстыя сябры.

Іх позіркам не ахапіць адразу.
— Купіце, місіс!
— Вось — для вас, джэнтльмен!..

Зірнуў у вочы мне Мамдух Абаза,
Наш шчыры друг,
Славуты бізнесмен.

І хоць ад кніг няважкія прыварні,
А клопатаў
Хоць ты касі касой,

Ён прыкіпеў душою да «Аш Шарка»
І крыж нясе,
Як лёс нялёгкі свой.

Юнак з Хартума
Ці мо з Касабланкі
Стаў ля паліцы —
Светлая душа.
Купіў, відаць, для брата,
Казку Танка
Пра зорныя вандроўкі Мураша.

Магчыма, праз гады хлапчук віхрасты,
Сардэчна развітаўшыся з Зямлёй,
Прамчыць на караблі па новых трасах...
Пачатак іх —
Старонкі кніжкі той.

## ЗОЛАТА ГРАБНІЦЫ ТУТАНХАМОНА

Каірскі поўдзень, як патэльня,
У скроні б'е гарачынёй.
І спёка,
Нібы келіх хмельны,
У цень штурхае на спакой.

Дзе той спакой,
Калі папірус,
Каб бед не ведаць і тугі,
Гандляр,
Што з-пад асфальту вырас,
Падсунуў...
Там —
Адны багі.

Напяўшы шыю, Неферціці
Глядзіць на вас
Ці фараон...
Хутчэй купляйце,

Не круціце,—
Гандляр няўмольны,
Нібы стогн.

Кардон гандлярскі толькі штурмам
Адолець можна.
Больш ніяк.
Інакш гандляр здзярэ тры скуры,
Калі зусім ты не жабрак.

Бяжы ў музей,
У тлум штодзённы,
Пакуль на сонцы не зачах,—
Бляск золата Тутанхамона
Балюча хвошча па вачах.

Я думаю:
Каб прыбывала
Казна валадара заўжды,
І поту,
І крыві нямала
Патрэбна.
І людской бяды.

Бяда з багаццем крочыць поруч,
І як сабе ні варажы,
Калі адзін —
Вышэй за горы,
Другі —
Ў цясніне гор дрыжыць.

Сатлела тых,
Другіх,
Нямала,
Каб фараону дагадзіць...

За залаю
Мінае зала,
А золата зіхціць,
Зіхціць.

І ў гэтым мроіве зіхоткім
Мне жыва бачны палюсы:
Адзін —

У золаце па глотку,
Другі —
Па пяты у рыззі.

Музей нядзельна каруселіць,
Іду на выхад пакрысе...

Усё-ткі Бог
Няроўна дзеліць,
Хоць Богу моляцца усе.

## ФАРАОН РАМЗЕС ДРУГІ

Дасвецце ледзь
Паспела выспець
Без аблачынкі і смугі,
На плошчы,
Як сляпы на выспе,
Стаў фараон Рамзес Другі.

Нібы з мурашніка,
З вакзала
Цячэ ў Каір натоўп людскі...
Пабачыў фараон нямала
На гэтым свеце за вякі.

Ён бачыў мір,
Ён бачыў войны,
Жыццём рабоў не даражыў.
Было заўсёды неспакойна
У фараона на душы.

Бо адчуваў, напэўна, скурай
Навокал акіян пакут,
Як грудзі помсліваю бурай
Напоўніў паднявольны люд.

Якому цяжка разагнуцца
Пад цяжкай ношаю сваёй,

Якому цяжка адгукнуцца
На дзікі крык душы нямой.
У гэтай мітусні спрадвечнай,
Рамзес згадаў у вечным сне:
Народ,
Нібыта памяць,—
Вечны,
А фараон,
Як горка,—
Не!

## ХАМСІН У ПОРТ-САІДЗЕ

Світальны промнік чыста і імкліва
Пазначыў у паднеб'і ранні час.
І цяжка уявіць было,
Што дзіва
Рыхтуе афрыканскі дзень для нас.

Плыў гарызонт празрысты над Сінаем,
Квартал гандлёвы увайшоў у раж,
І хваля —
Крутабокая Даная —
Насунулася на азяблы пляж.

Чародкай да Суэцкага канала
Ішлі з марской сінечы караблі.
Над пірсам чайка голасна канала,
Бурштынам шчодра пыркі зацвілі.

І раптам,
Нібы чорны подых джына,
З пустыні соннай выбухнуў хамсін,
Залыпалі,
Нібы ад шклянкі джына,
Няўклюдна фары жоўтыя машын.

Скруціў палатку гаспадар таверны —
У непагадзь не завітае госць,

Пакуль пякельны вецер не паверне
Упарты,
Як пушчанскі дзікі лось.

Смактаў жуду сухотную кальяна,
Як панацэю, вулічны жабрак.
Над шыльдай заіскрыўся рэстарана
Ліхтар,
Нібы надраены мядзяк.

Бархан да трасы сунуўся грываcты,
Пясок у вочы —
Быццам бы асцё...

Такія незабыўныя кантрасты
Прырода падарыла
І жыццё.

## ДОЖДЖ У ЛІВІЙСКАЙ ПУСТЫНІ

Яшчэ апоўдні
Віраваў хамсін,
Было з аўчынку
Неба над Сінаем,
І фары
Слепаватыя машын
Бездапаможна ў цемрыве міргалі.

Рыпеў пясок
Пракляты на зубах,
Скуголіў на пустэчах нема вецер,
Кружылася,
Шалела у дварах
І скручвалася гурбінамі смецце.

Але спачатку кропляю адной
Дождж аб сабе напомніў сарамліва.
Мы Порт-Саід пакінулі...
Ракой
На шкле хвастаў ужо зімовы лівень.

Лівійская пустыня,
Нібы ў сне,
Сасмяглая,
Лавіла прагна кроплі.
А дождж шумеў.
І падалося мне,—
Струмень цаляе у гарачы попел.

Дождж не пагнаў па хатах жыхароў —
Служыў
Сваю
Прызначаную месу...
Я кроплю на далонь злавіў ізноў,—
Яна
Грыбным дыхнула мінскім лесам.

## РЫМСКІ ТЭАТР У АЛЕКСАНДРЫІ

Дзень сходкі мармуровыя цяплом
Ашчодрыў,
Як палок аслізлы лазня.
Яшчэ хвіліна...
І гучыць пралог.
Таемнасць дзеі гледача уразіць.

Да каменя я вуха прытулю,—
Мне рэха перадасць настылы камень.
І я пачую споведзь пра зямлю,
Якую выпрабоўвалі вякамі.

Прымружу вочы
І пачую хор,
Выдатны хор той старажытнай драмы,
Дзе хіжасць падпаўзае,
Нібы тхор,
І дзе шматлікасць —
Лік надзейны самы.

Дзе вернасцю гандлююць,
Як вінам,

Дзе годнасць,
Як прадажная жанчына...

Там,
Дзе жылі адным-адзіным днём,
У гібелі карон была прычына.

Бо вераю бязвер'е пакарыць
У стане толькі моцная дзяржава,
Якая сваім лёсам даражыць,
Не кідае ў нябыт былую славу...

На сцэне старадаўняй я стаю.
Калоны —
Немтурамі,—
Як святыя...

Герой адкрыў спаўна душу сваю.
Вякі прайшлі...
Праблемы —
Усё тыя ж.

## КАЛОНА АЛЯКСАНДРА МАКЕДОНСКАГА

Ёсць у калосаў клопат свой будзённы —
Сцвярджаць жывою явай дзіва-сны...
Паднеб'е
Македонскага калона
Упэўнена трымае з даўніны.

Пры беразе гудзе Александрыя,
І шум калона ловіць спакваля.
Падставіўшы вятрам бакі крутыя,
За плыццю дзён
Пазірквае здаля.

Ёй сузіраць спакон вякоў хапала
Трагедый цемру,
Гвалт,

І мітусню,
І жорскі звон халоднага металу,
І пацалункаў шпаркіх цеплыню.

Міжземнамор'е воды коціць жвава,
Насамі хвалі б'юцца ў парапет...

У мармуры калоны столькі славы,
Што можна адарыць ёй белы свет.

У ёй трыумф паходаў
І баталій
І палкаводца векапомны шлях,
Які бясстрашна вояў вёў удалеч
І кожнага бясстрашшам акрыляў.

Таму,
Калі патухнуць сонца блікі
І ноч зямлю атуліць паранджой,
Праглядваюцца прывідныя лікі
Непераможных воінаў на ёй...

## МЕНАДЗІ

Праскочыўшы стралой па эстакадзе,
Калі глыне правулак пошум шын,—
Вас апануюць жвавыя менадзі —
Руплівыя
Паркоўшчыкі машын.

Пра дах над галавой і хлеб
Іх мары,
Бо чашу лёсу выпілі нагбом...
Валодаюць машынамі ўсіх марак,
Як знакаміты віртуоз смычком.

І ставяць іх выключна днём і ноччу,
Звышшчыльна,
Без прымерак і прамоў.

Камар балотны носа не праточыць
Паміж блішчаста-вымытых бакоў.

Ім вуліцы каірскія законы
Далі.
Яны — іх дом
І шчасце іх.
У калгатлівых клопатах будзённых
Зрок не юнацкі,
Не юнацкі слых.

Затое — як камп'ютэр жвавы, памяць.
Не дай гасподзь не разлічыцца з кім!
Ён не забудзе легкавік з гадамі,
Адпомсціць,
Нібы ворагам сваім.

Патрушчыць шкло
І пакрамсае колы
Ўпотай.
Не ўпільнуеш,
Каб хацеў,—
Свая у аўтамафіёзі школа
І свой адметна-невымерны гнеў...

Я згадваю хвалююча і шчыра,
Нібы фрагменты гарадскіх карцін,—
На вуліцах прашумленых Каіра
Прадымленых паркоўшчыкаў машын.

## САМУМ

Апоўдні у таверне — ні душы.
Тут свой ад'езд мы сціпла адзначалі,—
Перахапілі шаурмы з туршы*,
Запілі каркадэ — дзівосным чаем.

Быў чай, нібы чырвонае віно,
З гранатавых пялёсткаў чыстых, строгіх.

---

* Егіпецкія стравы.

Той, калі стома вас валіла з ног,
Настройваў на наступныя дарогі.

Мы пакідалі слынны Порт-Саід,
Калі вясновы дзень спалаў дазвання,
І сонца пад аховай пірамід
Даверліва заснула да світання.

Машына ірванула на Каір,
Ды раптам у прыцішанай Сахары
Разгневаны, як сто чарцей, факір
Са ста гармат пяском па нас ударыў.

То ўладарна баль спраўляў самум,
І ажыла знямелая пустыня.
Закутая мільёнам тайных дум,
Стагнала,
Ажно кроў у жылах стыне.

Дарогу спорна засыпаў пясок,
Здзіраў з машыны фарбу з дзікім гулам.
Тут толькі крок адзін зрабі ўбок
І на шкілет напнешся саксаула.

Мы ехалі памалу шмат гадзін,
Ды не знялі напружання гадзіны,—
Не вывелася якасць у мужчын
Захоўваць палахлівасць без прычыны.

Каірскіх гмахаў выблісну́ў прамень,
Салон напоўніў смог атрутна-горкі,—
Назаўтра абяцалі светлы дзень
Скрозь паранджу пяску зіхотка зоркі.

## НА НАБЯРЭЖНАЙ АЛЕКСАНДРЫІ

Не для яго тэатр эпохі рымскай,
Калоны Македонскага граніт,
І катакомбы...
Гэта —
Для турыстаў.

Яму —
Прасторы сінь і аксаміт.

Халодны вецер хмары раскудзеліў,
Павёз турыстаў белы параход...
Для хлапчука нядзеля —
Не нядзеля,—
Заняты сціплай працай круглы год.

Хоць лёска не гудзе струной напятай,
У бераг метраномам б'е прыбой.
Стаіць малы з уловам небагатым,
У вачанятах —
Горкі неспакой.

Магчыма, мроіць зараз смачнай юшкай,
Калі з глыбінь падчэпіць акуня.
Ды хвалям паплавок прывычна гушкаць,
Набраклае вудзільна не падняць.

Не радуе Міжземнамор'е сёння,
Але рыбак здавацца не прывык,
Бо голад,
Нібы злая цётка, гоніць
Да пірса,
Дзе надрыўны чаек крык.

Хлапчук застыў над безданню марскою.
Хоць анямела кволая рука,
Бы на Дзвіне я
Золкавай парою,
Ён тройчы папляваў на чарвяка.

## СУЭЦКІ КАНАЛ

Дзень тлумны за барханамі сканаў.
Паркаль нябесны знічкамі міргае.
Суэцкі шумны працаўнік-канал
Пазначыўся,
Як вуліца начная.

Глядзяць у цемру нема ліхтары,
Дакладна вызначаючы фарватэр,
А месяц меч ускінуў дагары,
Як самы бессардэчны пракуратар.

Святлом халодным пырснуў Млечны
Шлях,
Бархан застыў няўклюдным драмадэрам,
І мрояцца анёлкамі ў вачах
Азяблыя сахарскія хімеры.
Вось заскуголіў ашалелы джаз,

Дыхнула у пустыню дымам горкім,—
То у канал
Пасунуўся якраз
Трохпалубны
Сваёй істотай горды.

Прастуе лайнер важна праз пяскі,
Дзе міражы паснулі,
Як святыя...

І хрысцяцца таропка хлапчукі
На прывіды дзівосныя марскія.

## ААЗІС

У чэраве раз'ятранай Сахары,
Дзе баль хамсін спраўляе давідна
І сонца засланяе чорнай хмарай,
Аазіс трызніць у дрымотных снах.

Сюды не завярнула аўтастрада,
Шлях караванны з ганка не відзён,
Гасцей не кліча полымная радасць,—
Знямелы да трывогі гарызонт.

Ноч параджой ухутвае барханы,
Крыштальных зор халоднае святло,—

Нібы ляціць са стромы аўтабана
Патрушчанае камянюгай шкло.

Сасмяглыя пяскі ляжаць маўкліва,
Паветра стогне,
Нібы муэдзін,
Калі барханаў вогненныя грывы
Ускалашмаціць вогненны хамсін.

Сюды не залятаюць верталёты,—
Ў пустыні драмадэр не падвядзе,—
Хоць зрэдку гаспадарская «Таёта»
Па цаліку умлелым прапаўзе.

І зноў аціхне шчодрая даліна,
Зноў скарабеі шлях адвечны ткуць...
Гаспадары —
Хрыстос і Магдаліна —
Тут,
Як святыя,
Шмат гадоў жывуць.

Яны гасцей, напэўна ж, не чакалі,
Ды праз хвіліну балбатаў агонь,—
Нас чаем на дарогу частавалі,
Нібы нектарам сонечным багоў.

## САВАННА

Хавацъ сябе ў пясках яшчэ зарана,
Хоць патыхае пеклам гарызонт.
Ашчэрылася дрэвамі саванна,
Нібыта патрывожаны бізон.

Хмызняк касцісты,
Нібы крушні крабаў...
Глядзяць з пагардай на сяброў сваіх
Валадарамі дзіва-баабабы,
Вады каўтнуўшы з нетраў векавых.

А толькі залапоча першы дождж<br>ык,
Асілкі адхінаюць одум дзён
І па масластым голлі,
Нібы дрожджы,
Памкнецца аксаміт па рэбрах крон.

Наструніцца галіна —
Мускул пругкі,
Надзьмецца,
Як да ежы прагны госць,
І думаецца:
Ўпрысядкі папнуцца
Злагодненыя таўстуны вось-вось.

І будзе сонца ветла усміхацца,
І слухаць гімн удзячнага жыцця.
Закарагодзяць велічна акацыі,
Дыхне на грудзі поўныя прасцяг.

З зямлі знямелай смела стрэляць травы
У жоўтую сахарскую імжу.
Саванна заспявае шчыра славу
Святому
Жыццядайнаму
Дажджу.

## ДРАМАДЭР

Пакуль хамсін,
Нібы драпежны звер,
Не справіў над Сахараю улазін,
Нясі мяне,
Удумны драмадэр,
За міражы,
Дзе прывідны аазіс.

Нясі,
Мой аднагорбы,

Белы друг,
Ты шляхам караванным праз барханы,
Дзе саксаул сагнуўся,
Нібы крук,
Дзе кропляю расянай трызніць ранак.

Я ведаю:
Вярблюд,
Нібыта маг,
У стане здзейсніць розныя дзівосы,—
Імёнаў мае столькі ж,
Як Алах...
Алах,
Злічылі,
Сто імёнаў носіць.

Стварыўшы чалавека,
Пэўна,
Бог
Падумаў:
Чалавеку цяжка будзе,
Калі адкінуць рэшткі гліны ўбок...

Ён пальму і вярблюда
Дорыць людзям.

Мне прызнаваўся згорблены фелах:
Бакі вярблюда —
Існае багацце.
Святая міласэрнасць —
У нагах,
А на хвасце,
Як летуценнасць —
Шчасце.

І хоць шнуруюць сёння далячынь
«Таёты»,
«Кадылакі»,
«Мазды»,
«Нівы»,
Яму не давяраць няма прычын,—
Без драмадэра б
Люд не быў шчаслівы.

Таму
Яму павага і давер
Наканаваны на зямлі адразу...

Нясі мяне,
Удумны драмадэр,
За міражы,
Дзе прывідны аазіс.

## СКАРАБЕЙ

Фелах вітае шчыра санцавей,—
Алаху дзякуй за празрысты ранак.
І моліцца...
Свяшчэнны скарабей
Матляецца у такт радкам Карана.

Жук ведае:
Пакуль зямля жыве,
Яму павага і спагада будзе,
Бо колькі існуе паднебны свет,—
Свяціла ўвасабляе верна людзям,

Калі на брудным матузу вісіць,
На шыі самым важкім талісманам,
Калі Сахарай вогненнай бяжыць
Ці шарык гною валачэ старанна.

Фелах засвоіў:
Там,
У даўніне,
За туманамі ніцымі стагоддзяў
Штовечар Сонца на сваёй спіне
Адносіў жук.
А ранкам —
Зноў прыводзіў.

Таму,
Што з Сонцам ён здаўна на «ты»,—
А хто паставіць гэта пад сумненне? —

На ім пакінуў Бог,
Як німб святым,
Святыя жыватворныя прамені.

Вось блікі ў сухадрэвінах ляглі
І залатыя выткалі красёнцы.
І скарабей уцяміў:
На зямлі
Цяпер ён для людзей —
Намеснік Сонца.

Ноч паранджой ухутвае ямчэй
Цнатлівую Сахары цёплай роўнядзь,—
То Сонца за барханы скарабей
Скаціў.
На галаве —
Пялёсткі промняў.

## МІРАЖЫ

Калі пясок і ветры,
Як нажы,
Наздзекуюцца,
Нібы кат,
Над тварам,
З Сахары
Выплываюць міражы,
Бы прывідна-нязджейсненыя мары.

Здарожыўшыся,
Стома валіць з ног,
Нібы пітво зашчодраных углазін.
І раптам
За барханам дорыць бог
Зялёны
І струменісты аазіс.

Прыгледзішся:
Ні больш
Ні менш —

Эдэм!
Напоўнены цяплом,
Дабром
І ласкай.
Аглоблю пасадзі тут —
Дзён праз сем
Па ўсёй аглоблі забуяюць краскі.

Прыгледзішся:
Палацы да нябёс
Стаяць,
Нібы саскочыўшы з паштоўкі.
Ачнешся:
Гэта цягне цяжкі воз
Ішак,
Адно —
Пабліскваюць падкоўкі.

Ачнешся:
І зусім няма красы,
Блакіту і зялeніва —
Ні кроплі.
Пагоншчыкаў глухія галасы,
Нібыта перамоўка далакопаў.

Падманлівы бязмежны белы свет.
Здаля —
Цнатлівы аркушык паперы...

Суквецце зор
І карагод планет —
Да самага нязведанага дзверы.

## ЭЦЮД

Прачнулася Александрыя —
Суладдзе мора
І зары,
Бы завялі «Александрыну»
На сцэне дружна
«Песняры».

Дасвецце сонца не апаліць,
Свой пачынаючы дазор,
І, быццам на вяселле,
Пальмы
Надзелі з фінікаў убор.

## ПІРАМІДЫ САКАРЫ

Разамлелаю птушкай пад дахам бясхмарным
Пазірае Сахара ў глыбіні нябёс.
Нямтурамі сівымі грабніцы Сакары,
Нібы сфінксы, свідруюць прадонне да слёз.

Іх няйначай трымае сусветная сіла,
Іх не струшчаць глухія стагоддзі ані.
На плато скамянелым
Над сонечным Нілам
Піраміды, як вечнасць,
Стаяць дзень пры дні.

Ад цяжару часоў
Мемфіс урос у зямліцу,
Знёс з сабою і радасць,
І горыч пакут...
Старажытнай егіпецкай дзіва-сталіцай
Выпадковы сягоння здзіўляецца люд.

Моладзь болей не вабяць былога руіны,—
Што пазначана друзам,
У Лету сплыло...
А пры беразе недзе у нільскай даліне
Ібіс ставіць сваіх птушанят на крыло.

Юны птах над сасмяглай зямлёй праплывае,
Азірае кварталы сталіцы былой...
Зноў руіны нястомна пяском засыпае,
Калгацяцца турысты,
Як спуджаны рой.

І калі звечарэе зусім над пустыняй,
І барханы ырнуць у дзівосныя сны,
На каменных прыступках
У прывіднай стыні
Крокі даўніх часоў —
Як выразны яны!

Галасы пакаленняў мінулых пачую,
Прыгадаю разбэрсаны сённяшні дзень...

Людзі робяць спрадвечную справу святую
І ў сутонні гадоў патанаюць,
Як цень...

## ІБІС — ПТУШКА СВЯШЧЭННАЯ

Сутонне ночы сцерлі хвалі Ніла,
Абрысы піраміды набылі.
Бялюткія расправіў ібіс крылы —
Свяшчэнны птах егіпецкай зямлі.

Ён ускрыліў над ціхай соннай вёскай.
Пры беразе знясіленай ракі,—
Здалося,
Дружна падхапілі вёслы
На ранішняй рыбалцы дружбакі.

Ды ў нільскім рукаве не упалюеш,—
Трымціць атрутна-шэрая рака,
Нібыта ветэран вайны шчыруе
Схаваць кульцю пасохлую ў рукаў...

Павысыхалі рэкі ўсе
І рукі...
І варта толькі зорны час праспаць,
Сагнецца чалавецтва чорным крукам.
Каму ж тады нябожчыкаў хаваць?

Ідзе усепланетная пагібель,
Усепланетны дыхае пажар...

Ці ж выратуе чорна-белы ібіс,
Ці выратуе птушка — санітар?..

Наўрад ці ёй падняць бяду такую,
Што Бог наслаў за невуцтва і грэх,
Пакуль дзяржавай людзі каралююць,
Якіх народ даўно падняў на смех.

Смех гэты называецца скрозь слёзы,
Крывавыя,—
Іх да адрыны ліц...
Над вёскай,
над ракой,
над вербалозам
Свяшчэнны ібіс,
Як анёл, ляціць.

# VII. ЗАЎЖДЫ ЗАГАДКАВЫ УСХОД



## НАД ГІМАЛАЯМІ

Масква залела у снягах настылых
Без мітусні гатовая заснуць.
Наструніў серабрысты лайнер крылы,—
У прыцемкі азяблыя нырнуць.

Зямля у чорнай бездані ляжала
Пад хмарнай коўдрай,—
Ні табе агню! —
Але на ўсходзе
Неба запалала
І —
Промні наўскапыт насустрач дню.

І цяжка кволым досвіткам паверыць,
Што казка залатая ажыве,—
Нібы з палотнаў Мікалая Рэрыха,
Зірнулі Гімалаі з-пад павек.

Пад пенай схаладнелай снегавою
Стаялі горы
Быццам бы у сне.
І стромкія бялюткія сувоі
Лясныя сцежкі нагадалі мне,

Дзе у сумёт нырае курапатка,
Дзе у Прыддзвінні —
Петлі шаракоў,
І дзяцел стракаценнем аўтаматным
Страсае шапкі снежныя з сукоў...

Відовішча спакоем наталіла,
Наперад клікаў невядомы шлях...
Упоравень з крылом блішчастым «ІЛа»
Плыў бляклы Месяц,
Быццам НЛА.

## СВЯШЧЭННАЯ КАРОВА

Сутонне і цяжкі дэлійскі смог
Аселі...
Знічкам самы час заняцца.
Скубе карова лютаўскі мурог
Узбоч ад прэзідэнцкага палаца.

Скубе сасмяглы жорсткі аксаміт,—
На пашу голад,
А не звычка гоніць,—
Не ў рэчку углядаецца —
Граніт,
Асмужаны і ашалелы горад.

Скубе, зусім змарнелая, траву,
І ледзь трымаюць стомленыя ногі,

І сіл няма ускінуць галаву,
І зыркі месяц падхапіць на рогі.

Каб вуліцай вясковаю прайсці
За дзень угрэтай шчодра,
Нібы прысак...
Наўрад ці давядзецца у жыцці
За тую трапіць прывідную рысу.

Свяшчэнную карову жыхары
Шануюць моўчкі,
Бо яна ж —
Святая...
А ёй здаецца:
Ранкам, на зары,
Яна ваду празрыстую каўтае.

У вёсцы
Там,
Скруглелая з бакоў,
Магла б абсягам пахкім любавацца.
І клікаць ва ўсё горла зноў і зноў
Сваё да болю роднае цяляці.

І пахкім малаком пачаставаць,
І залаты сустрэць настылы ранак...

Як соладка і светла прыгадаць
Даўно забыты ўжо мурог расяны.

## ЗАКЛІНАЛЬНІК ЗМЕЙ

На скрыжаванні ўладкаваўся добра
І выцер шпарка ўзмакрэлы лоб,—
У лахманах наструнілася кобра
Ўзвінуцца,
Як з падлодкі перыскоп.

Прыкрэкне,
Бо спіна не будзе гнуткай,

Апусціцца на ранішні бетон.
І загугнявіць аднатонна дудка,
І спрытна адхіне прасціну ён.

І выпырхне,
Як пругкая спружына,
На трантах заляжалая змяя.
І роблена ўсміхнецца ёй мужчына,
Нібы фіктыўны,
Куплены сваяк.

Падсунецца сюды натоўп турыстаў.
Змяя і чалавек —
Адно:
Нуда...
І кобра схаладзелым абеліскам
Глядзіць:
Яе ўладар, на жаль,—
Жабрак.

Хоць гаспадар прытуліць і прыкорміць,—
Больш прытуліць і прыкарміць каго? —
І зноўку панясе у зрэбнай торбе,
Бо кобра —
То ж карміцелька яго.

Яна —
Яго надзея і парука,
Пакуль не знік зусім і не зачах...

Люляе заклінальнік змей не ўнука,
А кобру
На натруджаных руках.

## РЫКША

Быў прадзед Рама хуткі і увішны,
Заўжды кавалак хлеба зарабляў,
І сорак год у Дэлі бегаў рыкшам,—
За тыдзень тлумны горад пралятаў.

І Рама-дзед быў рамяству адданы,
Служыў сваёй дынастыі
Як след,
І за жыццё сабраў самааддана
На порсткі, як агонь, веласіпед.

Мільгалі, нібы промні сонца, спіцы,
Цюрбан іскрыўся ружай агнявой,
І вуліцы агромністай сталіцы
Як прывіды знікалі за спіной.

Але народ нястрымным плыў арыкам,
І каб на сонцы шчодрым не гібець,
Адзіны
Жоўта-чорны мотарыкша
У горадзе сучасным мог паспець.

І бацька Рама сеў на мотаролер,—
Не адшукаць імклівай пекнаты!..
Але згубіўся бацька,
Нібы тролі,
У прыцемках кварталаў беднаты...

Турыста стома долу нахіляе,
І каб не назаляць сваім сябрам,
Настойліва:
— Таксі! Таксі! —
Гукае.

І падганяе «Хонду» юны Рам.

Яму — машына,
Ён — машыне служыць,
Яна —
Яго жыццё і лёс яго...
І па паўсонным Дэлі шпарка кружыць,
Няма калі сустрэцца з дарагой.

Ён літасці упарта просіць Бога,
Каб Бог
Жыццё адолець дапамог...

Кароткая у горадзе дарога,
Кароткая,
Як і жыццё само.

# ФОТАГЕНІЧНЫ ЎДАЎ

Каб выжыць,
Каб свае паправіць справы,
Каб жорсткае жыццё не гнула ў крук,
На шыі двухметровага удава
На плошчу вынес стомлены хлапчук.

Ён зарабіць на хлеб гаротны рупіць.
Натоўп вірыць,
Нібыта карусель,
Ён прапануе вам за пару рупій
З удавам зняцца,—
Расхінай кашэль!

Удаў скруціўся пругкаю пятлёю,
У позірку застыў нямы дакор,
І дзівіцца людскою гаманою,
Пакуль увішна шчоўкае затвор.

Пакуль з плячэй пасунецца на шыю,
Каб выбраць ракурс,
Каб удаўся кадр,
Каб пачастункі вылузаў скупыя
З кішэняў недарослы гаспадар.

Яму б ляжаць на сонечным узмежку
Ці за здабычай лезці напрасткі,
А не дарыць змяіныя усмешкі
Турыстам узмакрэлым,
Гаманкім.

Яму б нырнуць хутчэй у прахалоду,
Нібы раўчук шалёны у пясок...
Застыў на мінарэтах лёгкі одум,
У скронях кроў звініць,
Нібы званок.

Сасмяглае нырнула сонца ў рэчку,
Да раніцы нагбом ваду каўтаць...

Такі ўжо лёс бязрадасны хлапечы —
У катуху глухім з удавам спаць.

## ЧАЎКІДАРАМІ

Дыхнуў на Дэлі вецер з Гімалаяў,
Апёк павевам вогненных снягоў,
І вось з сутоння касцяркі міргаюць
Чаўкідарамі,
Ці вартаўнікоў.

Начным вартаўнікам вялізны горад
Адной здаецца з прывідных планет,
Дзе месца больш для шчасця,
Чым для гора,
Дзе іх аціхлы Дэлі,
Як Сусвет.

Яны глядзяць на полымя
І бачаць,—
Трымціць дрыготка на асфальце цень,
І згадваецца тлумны і гарачы
На слёзы шчодры
І удачу дзень.

Яны прымружаць вочы і згадаюць,—
Іх вуліца,
Як плыткая рака...

І голле азалелае шпурляе
У полымя знямелая рука.

Не адганяе сон і шклянка чаю.
Гамоніць нетаропка касцярок,
Нібы ў маленства шчыра запрашае
Бацькоўскі пашчарбачаны парог.

Дзе ўсё было і бедна,
І нішчымна,
І лёс не мог нічым дапамагчы,
Шчымлівая,
Маленькая Айчына
Заўжды руку трымала на плячы.

Не шчодрыла,
Нібы ў святочнай краме,
Ды хлеб і соль давала для сыноў...

Прыцмокваюць сабе чаўкідарамі,
Нырнуўшы пад крыло
Салодкіх сноў.

## ТАДЖ-МАХАЛ

Калі начная траса адшумела
І захлынуўся фар зіркастых шал,
Уранні над ракой,
Як лебедзь белы,
Устаў жывою казкай Тадж-Махал.

Раса скупая астуджала ранак,
Сцякала сонца плошкай залатой
За горкаю слязою Шах-Джахана
Над жонкай незваротнаю сваёй,

Над прыгажосцю незямною чыстай
І сэрца незямною цеплынёй...
І купалы жалобна-урачыста
Схіліў світальны маўзалей над ёй.

Застылі мінарэты немтурамі
У ганаровай варце на вякі...

Ужо мяцеліць кветкавая замець,
Над Рынай хмары пнуцца напраскі.

Вячэліць лісце у прыціхлым садзе,
Бурундукі —
Нібыта жабракі,
Не могуць з пачастункамі паладзіць,
У голлі мільгацяць,
Як светлячкі.

Высокі голас драмы чалавечай
У камені застылы назаўжды...

Пакуль каханню быць на свеце вечным,
То чалавецтву
Не спазнаць бяды.

## КОЛА ЧАКРЫ

Трапічны дзень,
Як біруза прычала,
Пакуль не напаўзе атрутны дым.
Над Дэлі сцяг.
Святое кола чакры,
Як часу і жыцця палёт на ім.

Жыцця і часу ва усіх праявах...
Вірыць паводкай весняю жыццё,
І зіркае трагедыяй
І славай
У сёння немтурова небыццё.

Слон цыркавы вяртаецца паважна
З гастроляў у правінцыю дамоў.
Чародкі малпаў пнуцца безразважна
Праз плыткую дарогу стрымгалоў.

Мільгаюць дхоці,
І мільгаюць сары —
Вясёлкамі з прадымленых нябёс,
І нібы макіяж кладзе на твары
Свае штрыхі непрадказальны лёс.

Той лёс у лахманах вяшчун трымае,
І, варта раскашэліцца
Табе,
Ён прывіднае шчасце нагадае,—
Навошта у няведанні гібець?

Ды міражам не варта паддавацца —
У сэрцы ажываюць зноў і зноў

І веліч прэзідэнцкага палаца,
І позіркі нямыя жабракоў...

У стылай Джамне хвалі каламуцяцца,
Ля руж пунсовых —
Вострае асцё...

А кола чакры круціцца і круціцца,
І не спыніць яго,
Як і жыццё.

## ПРАДАВЕЦ БЕТЭЛЮ

Па Джамне ноч сплыла за гарызонт,
Зняў Дэлі
Вэлюм прывідны туманаў,—
Ля аўтастрады разгарнулі фронт
Уладары бетэлю або пана.

А той бетэль смачнейшы за віно.
Бетэль,—
Простанародная спакуса,—
Перавярэдзіў шмат мільёнаў сноў
Даверлівых, як немаўля, індусаў.

Вясёлкай на прыземістых сталах
Зіхцяць пакункі,
Скляначкі
І склянкі.
Прыправў да мільгацення у вачах
Гандляр старанна падабраў наранку.

Не,
Нельга не прыняць за мастакоў
Худых,
Гарластых прадаўцоў бетэлю.
Зірніце толькі,
Як віхор мазкоў,
Прыправў па лісці цвёрдым каруселіць.

Сіроп плыве,
Бы застарэлы ром,
Кладуцца сухафрукты,
Як барханы...
А зверху ліст сусальным серабром
Для вас аздобіць прадавец старанна.

Свой згорне твор адметным галубцом
І ветліва падасць тавар рукою,
Прыцмокне з асалодай языком —
Дзе знойдзеце вы смакаццё такое?!

І пацячэ па жылах цеплыня,
І сэрца перапоўніцца даверам
Да трапяткога сонечнага дня,
Які не скруцяць шэрыя хімеры.

## ЛОТАС

Калі руплівы дзень свае турботы
На сэрца возьме шчыра,
Як паэт,
Праклюнецца з вады цнатлівы лотас,
Зірне, як немаўля, на белы свет.

Ля копанкі гразюка, непралаззе,
Ні прытуліцца,
Ні спачыць душой...
А ён ваколле сціплае уразіць
Сваёю непадробнай чысцінёй.

Ён досвіткавым полымем асвеціць
Будзённасць,
Што Эдэм далёкі сніць,
І здзівіцца,
Што у паднебным свеце
Багата зла
І мала дабрыні.

Што брандахлыст дзяўчыне кволай строфы
Гудзе,

Нібы на лузе авадзень,
І моўчкі на сусветную Галгофу
Ўсё чалавецтва талакой ідзе.

А за плячыма —
Крыж усеатрутны
За здзейсненае на нямой зямлі.
Страшэнныя абранніка пакуты
Да кожнага смяротнага прыйшлі.

За хіжае маўчанне
І за здраду,
За подласць
І за танную ману...
Так,
Грэшнікаў не напаткае радасць,
Спакойна ім не выпадзе заснуць.

Бо ёсць на свеце суд
Святла і неба.
Ён Каінаў зямных не абміне...

Відаць,
Каб бруд разгледзець, вельмі трэба
На дзіва-лотас падзівіцца мне.

## ХОЛІ

Убраннем новым стракацець даволі,
Кашулям,
Сары адпачынак дай,—
Прыйшло у шумны Дэлі
Свята холі,
Рыззё з шуфляд рыпучых падавай.

Фантазіі і гумару багата
Індусы назапасілі за год,
Каб пырснула
Вясёлкай спелай свята,
Каб сакавік выкручваў карагод.

Каб песняй абудзіўся светлы ранак,
Каб з радасцю ішло паняцце жыць,—
Прахожага вадой падфарбаванай
І фарбай неабходна адарыць.

Прахожы грозны вуліцай імкнецца,
Да крамачкі —
Карміцелькі сваёй,
І раптам бомба на плячы ўзарвецца
З чырвонаю
Ці сіняю вадой.

І бліснуць вачаняты за фіранкай,
Рассыпецца,
Нібы званочак, смех.
Насупленасць прахожага наранку
Адрыне свята холі пад арэх.

Плыве жыццё,
Як вызначыў ўсявышні.
Каму — Эдэм,
Каму — глыток бяды...
Ды свята,
Што прыйшло ад Бога Крышны,
Заўсёды застаецца маладым.

## ХВАЛІ ЦІХАГА АКІЯНА

Зіркаста цемру пaласнулі фары,—
Мне на Дананг за перавалы мчаць...
Вунь каганцы запозненых гандлярак
На разамлелых вуліцах мігцяць.

Тут суп і каву рэкламуюць палка,
Гасцінна запрашаюць пакурыць.
Адну запалку,
Нават паўзапалкі
Гандлярка прапануе вам набыць.

Сон спуджаны...
Спякотна сушыць смага.
На досвітных абшарах —
Ні душы.
Як родныя бярозкі, дрэвы манга
У промнях фар бялеюць ля шашы.

Асмужаныя шызай дымкай горы,
Нібы азяблы прывідны сампан.
І хвалі,
Быццам казачныя жорны,
Упарта круціць Ціхі акіян.

Вада,
Як цёплы сырадой вячэрні,
Удалечы, бы дзіўны самаград.
З вымоіны злавесна бок ашчэрыць,
Як напамінак грозных год снарад.

Пляж залаты лагодна сонца лашчыць,
Гандляркі падаюць в'етнамскі чай.
Каўтае чай схуднелы рыкша нашча
Адным глытком,
Нібыта джын «джы-ай».

А хвалі раскашуюцца утомна,
І асалода сэрца не міне,
Але шчымліва хочацца дадому
На Беларусь,
На родны бераг, мне.

## ЛАСТАЎЧЫНЫ ГНЁЗДЫ

Бос з Сінгапура
І гурман з Ганконга,
Каб самалюбству неяк дагадзіць,
За ластаўчыны гнёзды
Сотні донгаў
Гатовы ў рэстаране заплаціць.

Калісьці каштаваў іх імператар,—
Раз служка боскі,
Значыць,
Харч багоў!
А смертны пакаштуе,
І —
За краты,
Ці грэшную галованьку далоў.

Той харч даваў і маладосць,
І сілу,
Каб бонзы суд вяршылі на зямлі.
А смертнаму,
Яму навошта крылы?
Яму —
Каб рыс і гляк вады былі.

І рынуліся да паднеб'я людзі
Па стромах скал, злавесных і крутых.
Хай літасцівы Божа не асудзіць!
Малілі Бога
І усіх святых.

І ластаўкі,
Якім гняздо крутое
І ежай,
І жытлом было заўжды,
Канаді
І стагналі неспакойна,
Не ў стане засланіцца ад бяды.

І птушаняты гінулі,
Як цені,—
Не бачыць ім блакітнай вышыні.
У мары трапяткой і летуценнай
Ужо дарэшты вычарпаны дні.

Калі такой экзотыкай частуюць
Мяне за морам шчырыя сябры,
Я чарку перакульваю пустую
І з-за стала,
Бо ў сэрцы —
Птушак крык.

# ДЖУНГЛІ

Здалося,
Што прарвала паднябессе,
Што Ной каўчэг да сініг гор вядзе,—
Дождж уладарыў у трапічным лесе
Не першы дзень
І не дзесяты дзень.

І чуйныя,
Нібыта рукі Джуны,
Схавалі хіжых кіпцюроў асцё,
І роспачна прыцішыліся джунглі:
Ідзе трапічны дождж —
Ідзе жыццё!

Пітон стаіўся пругкаю ліянай,
З разгаліны яму усё відно.
Не ведае:
Патэльня рэстарана
Па ім сумуе і вішчыць даўно.

Тыгр пацягнуўся уладарна,
Слынна
І пазяхнуў:
Ён сэнс жыцця спасціг,—
У мірны час і сцежкай Хо Шы Міна
Ён можа ноччу цёмнаю прайсці.

І, як святочных феерверкаў залпы,
Праз буйную расліннасць напраскі
Выпырхваюць апуджаныя малпы,
Глядзяць на нас, нібыта дружбакі.

Няўклюдна дзікі слон да вадапою
Ідзе,
Бы варухнуўся землятрус...
І разаслаў В'етнам перада мною
Шыкоўны самаградавы абрус.

Са стромай пальмы пакаштуй какосы,
Налiты сонцам важкі ананас.
Падзякуем святой зямлі,

Нябёсам,
Што гэтак шчыра частавалі нас.

У лапушыстым калаўроце кроны,
Дзе уладарыць векавечны цень,
Крычаць патрабавальныя гібоны,
Каб пасвятлеў хаця на хвілю дзень.

А ля хацін мунтжак брахаў,
Хімеры
Панёс у джунглі на рагах алень.
У гушчары заенчыла вівера,—
І выбліснуў, як парастак, прамень.

І праз імжу,
Праз цьмяны шлейф туману,
Праз непрагляддзе азалелых хмар,
Заззяла сонца залатым сампанам,—
Умомант залацістым стаў абшар...

Мы пакідалі прывідныя горы,
Ў даліне —
Ветлых аганькоў разліў...

У джунглях хтосьці сярэбраныя горны
Настроіў
І трубіў...
І ўсё трубіў...

## САМПАН НА ДУХМЯНАЙ РАЦЭ

Узрушыць і здзівіць ужо не ў стане
Лёс,
Што трымаеш моцна у руцэ.
А ці плылі вы часам на сампане
Па звечарэлай прывіднай рацэ?..

Тым,
Змайстраваным з хіжага «Фантома»,
Што колісь смерць над чэкамі насіў,
Чый гаспадар,—

Ва ўсім Хюэ вядомы,—
Гасцінна ў падарожжа запрасіў?..

Апошні промень у расе іскрыцца,—
Свяціла адыходзіць на спакой.
Былая каралеўская сталіца
Шырокай перакрэслена кармой.

Матор суладна тахкаў у сутонні,
Цямнелі воды плыткія ракі.
Пазначыліся сціпла у прадонні
Будысцкіх пагад кроплі-светлячкі.

Суладна у барты хвасталі хвалі,
Дыміўся на цыноўках пахкі чай.
Матор замоўк.
І ціха заспявалі
В'етнамскія калегі пра свой край.

Пра цішыню,
Якой было так мала,
Каб пасадзіць, дагледзець шчодры рыс...
Духмяная рака сампан люляла
І несла нас да акіяна ўніз.

Праклюнуліся у Сусвеце зоры,
Як зерне днём вясновым на раллі.
Мы не ракой,
Здалося,
А пр асторай
Нябеснаю удалячынь плылі.

## ДЫХАННЕ МУСОНА

Прадоння неба не запарасоніш,
І сховішча не знойдзеш на зямлі,—
Ад подыху шалёнага мусона
Трапічны лівень пачынае ліць.

У бездані настылай акіяна
Вятры спакой знаходзілі сабе,
Ды табуном злавесна-апантаным
Свой пачалі нястрымна-хіжы бег.

І вось ракой струменіцца дарога,
Як павуцінка мокрая дрыжыць,
І колькі ні прасі умольна Бога,
Утаймаваць не зможа ён дажджы.

Віры у плыні плыткай,
Як жаронцы,
Ліст круціцца,
Бы кінуты сампан,
І шчыра верыш,
Што мусоны сонца
Навекі знеслі ў Ціхі акіян.

Стаілася халодная хаціна.
Няўжо патоп?
Няўжо зямны канец?..
І ледзь ліпіць за выцвілай прасцінай
Панікліва-сухотны каганец.

На покуці,
Нібыта цені,—
Дзеці
Імкнуцца зладзіць нейкую гульню.
Хоць каганец не грэе
І не свеціць,
З даверам рукі цягнуць да агню.

І пазяхаюць змерзлыя дачасна.
Скавыча вецер прывіднай гайнёй...

І сніцца ім,
Што дзень падняўся ясны
І сонца шчодра ззяе над зямлёй.

## ДАРОГА НУМАР АДЗІН

Гудзе у азяблай даліне,
Бы ранішні муэдзін,
Як промень ляціць па краіне
Дарога нумар адзін.

Струною ляціць напятай
Праз пыл і тлум гарадоў,
Праз неруш сялянскай хаты,
Без песень узнёслых
І слоў.

Яна сузіральных турыстаў
Ашчодрыць не можа ўсім.
Палёт яе лёгкі, чысты,
Як ранішні бляск расы.

Фіналам памкненняў танных,
Іх ракавою мяжой,
У чэках застылі танкі
Дабітыя рыжай іржой.

Зацягвае глей варонкі,
Кары не абмінуць,—
Вораны і вароны
Косці «джы-ай» дзяўбуць...

З поўначы
І да поўдня,
Наколькі плёну стае,
Клопатамі,
Як поўня,
Напоўнены будні яе.

Дарога —
Нібыта рыса
Працы і чорнай вайны.
Снапамі в'етнамскага рысу
Яе спавітыя сны.

Без шыку
І пыхі дасужай,
Не спатыкнецца нідзе,
Яна
На плячах натруджаных
Наступны прыносіць дзень.

# МОСТ НА ЧЫРВОНАЙ РАЦЭ

Калі паўнеба схопіцца агніста,
Дасвецце схамянецца залатое,
Чародкі спешных веласіпедыстаў
Выпырхваюць на вуліцы Ханоя.

Вязе бананаў важкае бярэма
Хлапчук —
Ён з капялюш мясцовы нон,
Дзяўчынка —
Агнявыя хрызантэмы,
Каб радасць асвяціла нейчы дом.

Мільгаюць спіцы, быццам сонца промні,
Двухколы конь малечы —
Навырост...
А над ракой Чырвонай — слынны помнік,
Ахрышчаны злавеснай бурай мост.

Ён сведкам быў раз'ятранай віхуры,
Крыві багата бачыў за свой век.
У фермах паіржаўленых,
Ажурных
Глухое рэха даўніх дзён жыве.

Яму грымоцце выбухаў вядома,
Ён памятае водбліскі ракет,
Як хіжыя,
Бы каршуны, «Фантомы»
Ішлі на мост у баявым піке.

Вадзянікамі уставалі бомбы,
І бераг усцілаў асколкаў шрот.
Каму ж вядома,
Чорту або Богу,
Калі чарговы авіяналёт?

І мост стаіць салдатам над ракою,
У акіян грымоты адплылі,
Каб быў спакой заўсёды над Ханоем,
Каб быў спакой заўсёды на зямлі.

# ВОЗЕРА ЗДАБЫТАГА МЯЧА

Трапічны дзень згарэў танюткай свечкай,
З дрэў фарбы акварэльныя сплылі,
І невядома:
Ці ўладарыць вечар,
Ці ноч гасцінна крочыць па зямлі.

Згубіліся трамваі у завулках,
Ракет сляды —
Нібы хвасты камет,
І тахкае ля закаханых гулка
«Судзукі» —
Неразлучны іх мапед.

Гаворкі галубінай нам не ведаць,
Ды верыцца у глыбіні душы,
Расказвае абранніцы легенду
Юнак у зорнай прывіднай цішы.

...Тры возеры ў Ханоі.
Толькі гэта
Вышэй узнята у людскіх вачах,
Як месца закаханых і паэтаў
І некалі здабытага мяча.

Меч выслізнуў углыб.
І імператар
У роспачы і роздуме сядзеў,—
Не мог змірыцца з непапраўнай стратай.
Ад злой бездапаможнасці знямеў.

Бо меч прыносіў толькі перамогі,
Бо ад дракона засланяў той меч...
Застыў пагляд, пранізлівы і строгі,
І споўз змяёй халат шаўковы з плеч...

І раптам у вачах, паўнюткіх жаху,
Паўстала,
Як чароўны вадалаз,
Вялізная, бы джонка, чарапаха,—
Меч залаты бліщчасты падала.

Зноў сілу здабыла сваю дзяржава,
Зноў песні ускрылілі над зямлёй...

Накрыла ноч Ханой крылом ласкавым,
Бы хлопец плечы дзеўчыне сваёй.

## ПАГАДА НЯБЕСНАЙ ЖАНЧЫНЫ

Раса ў лістоце ранішняй іскрыцца,
Лік горліцы вядуць імклівым дням...
Кароль шукае месца для сталіцы,
Не аднаго ужо загнаў каня.

Ды каралю спыняцца не па сану.
Пад капытамі пыл, нібыта дым.
На беразе крутым ракі Духмянай
Жанчына ў белым стала перад ім.

Тлумачыць доўга каралю не трэба,
Бо сам ён быў
(Як сам лічыў!)
Святым,—
І зразумеў ён, што пасланка Неба
Стаіць у белым-белым перад ім.

Яна зірнула з берага крутога
На шчодрую в'етнамскую зямлю:
— Хай палачка духмяная дарогу
Падкажа у вандроўках каралю.

Там,
Дзе патухне палачка,— гаворыць
Жанчына,—
Ты майстроў сваіх сялі,
Закладвай смела незвычайны горад,—
Сталіцаю ён будзе са сталіц.

І зноў скакалі коні што ёсць духу,
Праз дождж скакалі, слоту і туман.
І палачка духмяная патухла
Ля вёскі непрыкметнай Фусуан.

Бы караван, асмужаныя горы,
Чародкай хмары над ракой плылі.
Тут загадаў кароль узвесці горад
Хюэ —
Найлепшы горад на зямлі.

На месцы ж, дзе Нгуен-Хаанг пасланку
Сустрэў, каб шлях-дарогу папытаць,
Ён пагаду сваім майстрам старанным
Загад аддаў хутчэй пабудаваць.

За ярусам палез у неба ярус,
Прыступкамі,
Бы Бог на неба лез.
Лагодзіліся сонейкам абшары,
Смужынкаю трымцеў трапічны лес.

А побач манастыр устаў.
Дымяцца
Кумірні, як і сто гадоў таму.
Хто з Усявышнім змог душой з'яднацца,
Вядома толькі Буду аднаму.

Гучаць ціхмяна-манатонна сутры,
Нібы чытае маналог паэт...
А пагада глядзіць узнёсла-мудра
На зграбна-засяроджаны Хюэ.

Былая каралеўская сталіца —
Блакіт вады,
Зяленіва садоў!..
І праз гады яна мне будзе сніцца,
Вярэдзіць чыстым успамінам кроў.

## ТЭТ

Адстракацеў ля вуліц і дарог
Базар святочны...
Неўзабаве Тэтам
Жаданым
Ашчасліцца парог

У ззянні зорак,
Сполахах ракетных.

З пап'е-машэ драконы-ліхтары,
І птахі папяровыя па хатах
Раз'ехаліся
Шчасцем адарыць,
Каб Новы год быў светлы і багаты.

Бамбукавыя жэрдкі ля хацін
Усталі ад В'етнама
Да Кітая,
Каб продкі не згубілі пуцявін,
Дзе іх сям'я
адзіная
Чакае.

Пачышчаны калодзеж,
Каб вада
Была найчыстай і салодкай ў свеце...
У гэты дзень не выбухне бяда —
Упэўнены дарослыя і дзеці,

Бо на стале ўзвінулася гара —
Напечаных
Мудроных цацак самых.
Гаспадароў не будзем дакараць,
Майстэрствам іх падзівімся таксама.

Тут лотас зацвітае, бы ў рацэ,
Звяры і птушкі,
І глынаеш слінкі,
Калі сампан трымаеш у руцэ
Ці лёгенькага зайчыка-сняжынку...

Вось расхінуўся кветкавы базар
Стыхійны,
Быццам весняя паводка.
Ад персікавых дрэўцаў кіне ў жар,
Але галінкі іх бяруць ахвотна,—

Без іх не будзе ладны Новы год...
Дары нясуць нарэшце Тао-Куану.
Вакол яго сямейны карагод

Перадсвяточны
Круціцца аддана.

Той Тао-Куан —
Дух добры ачага.
Дары — яму,
Каб Дух падняўся ў Неба,
Вярхоўнаму Ўладыку,
Ўсім Багам
Сказаў,
Як год жылі
І жыць як трэба...

Без карпа Тэт ніяк не можа быць.
Пры карпе — капялюш,
Бо Дух на рыбе
У неба трапяткое паляціць.
А капялюш —
Сябры начальства нібы.

Нарэшце зручны момант наступіў,
Каб адплываць далёка Тао-Куану,
І хтось таропка свечкі запаліў,
Дымок віецца палачак духмяных,

Салодкае гарою на сталах,
Каб Дух падсаладзіў душу
Як трэба,
І лішняга не намалоў і ў снах,
Калі ўзляціць у прывіднае неба.

Паперчынак,
Як плёскат раўчука,
На покуці трапечацца багата:
«Ў пачатку года нарадзіць сынка,
Напрыканцы —
Дачку прынесці ў хату».

Праменіцца,
Гамоніць шчодры Тэт,—
Заснулі ўсе будзённыя турботы...
А заўтра
Новы год пачне Сусвет
І новую стваральную работу.

# ВЯЛІКАЯ КІТАЙСКАЯ СЦЯНА

Як спуджаны паглядам злосным лебедзь
Перасмыкнецца ў неспакойных снах,—
Ускрыльвае на схаладнелым небе
Вялікая кітайская сцяна.

Нялёгка вершам расказаць пра гэта
І веліч рукатворную апець,—
На светла-трапяткое дзіва свету
Бясконца можна здзіўлена глядзець.

Маўкліва-насцярожана байніца
Удалячынь наструнена глядзіць...
Галосіць вецер спуджанай сініцай,
Былінка перасохлая трымціць.

І ў гэтай несусветнай калатнечы
Фатограф прадпрымальны, як уюн,
Намерваецца хутка вас засведчыць —
У вопратцы былых вякоў стаю.

Вось меч зіхоткі,
І шалом фанерны,
І роблены пранізлівы пагляд,
Каб кожны без нацяжкі мог паверыць —
Я друг цару
Ці, можа, нават брат.

Плыве, плыве людскі паток пад неба.
І хоць нялёгка вышыню скарыць,
У сэрцы не суцішыцца патрэба
Сябе на крок да дзіва далучыць.

Згасае дзень...
Акрылены, узнёслы,
Трапляе падарожнік на шашу,
Каб зноўку шлях трымаць насустрач вёснам,
Надзеяй саграваць сваю душу...

# КАЧКА ПА-ПЕКІНСКУ

Лёс зрэдку ды адорвае удачай,
І проста грэх на Бога наракаць,—
Мне асабіста па-пекінску качку
Даводзілася неяк каштаваць.

Мне пра яе казалі тыдзень цэлы.
Плыло чаканне прывідна, як цень,
І вось, перадажджэлы, азалелы,
Прыйшоў нарэшце той жаданы дзень.

Запрошаны на званую вячэру.
Далі мне месца ля гаспадара.
Стол смакату нябачную ашчэрыў,—
Падзякуем усім зямным дарам.

За рысавай пайшлі бляшанкі піва,
Спяшаўся хтосьці песню зацягнуць,
І абвясціў наш тамада гулліва:
— А хутка ж, пэўна, качку пададуць!..

Але спачатку падалі вантробы,
Падсмажаную шыйку падалі,—
Праз не магу без хлеба і без здобы
Ўсё госці згаладалыя змялі.

Зноў пеністае піва лёгкай хваляй,
Зноў рысавая гарачыла кроў,
«Масква — Пекін» мы дружна праспявалі,
Куплеты з «Падмаскоўных вечароў».

І вось пакой мажны запоўніў повар,
А на падносе качка верашчыць,
Ён ножыкам пабліскваў адмыслова —
Цікаўнасць нашу трэба ж наталіць.

Усё было, як кажуць, на узроўні.
Хапіла нам і ежы і пітва,
І аглаблёвы келіх поўняй поўнай
Нам гаспадар умлелы падаваў...

Казаў я сто разоў:
Каб не згубіцца

У свеце з яго тлумнай калгатнёй,
Да скону трэба шчыра ганарыцца
Народнаю адметнасцю сваёй.

Хай слуцкі пояс будзе або дранік,
Гляк івянецкі, што як звон звініць,
Інакш падобны станем на Івана,
Які сябе не помніць ані ні...

## ПОЎНЯ НАД КАСТРЫЧНІЦКІМ ПЕКІНАМ

Дзень адспяваў гарластым Арлекінам,
Гайнёй веласіпеднаю спалаў,
І поўня над кастрычніцкім Пекінам
Загадкавай кабетай паплыла.

Сталіца гаспадыняю надзейнай
За справай зноўку слыннай —
Не сасніць!..
І на кляновых бронзавых алеях
Забранзавелі сціплыя агні.

Правулкі патыхнулі моцнай кавай
І смакатой з народнага меню...
Вялікая працоўная дзяржава
Працоўнаму адкланьвалася дню.

Зашыкалі настылыя жароўні,
Запыхкалі умлела шашлыкі.
Пах смажаніны вуліцы напоўніў —
Глыталі слінькі ўпотай хлапчукі.

Вось зіркнуўшы на бацьку асцярожна,
Патузаўшы упарта за крысо,
Марожаным
Хлапчук узнагароджаны
Халодным,
Як сталёвае лязо.

Але хлапчук з ім абышоўся крута,
Язык скакаў,
Як крылцы ветрака.

Адно шкада,
Што вельмі-вельмі хутка
Падтайваюць ласункі у руках.

Ён без бацькоўскай ветлівай падказкі
Нырнуў ціхутка ў цёплы ложак свой...

І поўня,
Як марожанае з казкі,
Да раніцы плыла над галавой.

## ЖАМЧУЖНЫ РЫНАК

Удзячнае здзіўленне не пакіне
Вас болей
Аніколі
У жыцці,
Калі Жамчужны рынак у Пекіне
Няспешна,
Засяроджана прайсці.

Уласна,
Рынак не зусім Жамчужны,
Дзе жэмчуг зіхаціць,
Нібы агонь,
А той,
Што акіянскай хваляй кружыць,
Той,
Без прычалаў што,
Без берагоў.

У кошыку варочаюцца крабы —
Знямела-запаволены брэйк-данс,
Карп — здаравенны,
Як стаптаны лапаць,
У тазіку пустым пайшоў у транс.

Аслізлыя напяліся мінogі,
Смяротнай закруціліся пятлёй,—
Марскія неабсяжныя дарогі
Іх болей не прывецяць пекнатой.

Але і на апошнім крузе
Крута
Насельнікі марскія не здаюць,
І б'юць ацынкаваны посуд спруты,
І мускулам спакою не даюць.

Агоніяй пякельнай апантаным
У тых
І гэтых
Цесна берагах...

Дзень стайвае,
Як сцішаны падранак,
Каб заўтра зноў пачаць
Свой новы шлях.

## ШАНХАЙ

Як росхрыст барыкад
З юнацтва наплывае —
Барачны Нафтаград
Названы быў Шанхаем.

І сёння праз гады
Сцвярджаю,
Што дакладна
Далі імя тады
Будоўлі самаўладнай,—

Шанхай і ёсць Шанхай,
Не меней і не болей,
Гарласты, нібы грай
У схаладнелым полі.

Калі стаяць стажкі
Пад небам чыста-шчырым



Шарманшчык з-пад Дрэздэна

І тлустыя гракі
Наструньваюцца ў вырай.

Натоўп ракой плыве,
Дамы — нібыта соты —
Свідруюць з-пад павек
Штодзённыя турботы.

Вітаюць санцавей,
Прахожага вітаюць
І зычаць сто гасцей
Гасціннаму Шанхаю.

Каб ажывіць душу,
А стому —
Прэч дазвання,
Займаецца ушу
Ад самага світання.

Стары і малады
Старанна гнуцца долу,
Каб новыя гады
Прыносілі анёлы.

Па Хуанпу-рацэ
Катамаран люляе,
Бы сонца у руцэ
Лёс падае Кітаю.

І будзіць новы дзень
У клопатах будзённых,
Дзе залацень-прамень
Ускрыліць над Пусонам.

Пусон —
Такі ж Шанхай.
Ды толькі
Явы новай,—
Там,
За ракой,—
Кітай
Зіхціць зарой вясновай.

# ПУШКІН У ШАНХАІ

Хоць сцежка лёсу злая і крутая,
Ашчодрыць зрэдку сонечным дзяньком,—
На Персікавай вуліцы Шанхая
Сустрэўся я з вялікім земляком.

Надзеі ранак на далонях гушкаў,
Плылі машыны, быццам на парад.
На выспачцы малой спыніўся Пушкін,—
Яна паўстала выспачкай дабра.

Тут,
На ўзбярэжжы Ціхаакіянскім,
Стаяў ён, як належала багам.
Паэтаў профіль,
Профіль афрыканскі
Блакіт нябёс раскройваў напалам.

З акцэнтам аспірант спяваў:
«Я помню...»
Вярэдзіла стамлёную душу.
А побач, як лунаціка на поўню,
Старога пацягнула на ушу.

Прынесла кветкі закаханых пара,—
Паэту,
Нібы госпаду,—
Паклон.
І сонца павяло вялізнай фарай
За ноч настылым ценям наўздагон.

І перакладчык наш зрабіў выснову:
— Так, Пушкін быў і ёсць,
Як сэнс вясны...

Дадаў:
— Тут Гарбачоў і Гарбачова
Праездам прамільгнулі...
Што ж яны?..

Увішна сціплы томік падхапіў,
З дакорам прачытаў,

Каб не збівацца:
«Когда народы, распри позабыв,
В единую семью соединятся...»

Нарэшце ранак кволай хмаркай стаяў,
Усталяваўся уладарна дзень...

Гісторыя на месца ўсё расставіць,—
Хто сонцам будзе,
Хто сплыве,
Як цень!

## БУРУНЯЦЦА ЖОЎТЫЯ ХВАЛІ ЯНЦЗЫ

Нібы ажыў шматколерны экран,
І дзіва-стужка сэрца працінае,—
Трохпалубны адплыў катамаран
Ад пірса калгатлівага Шанхая.

Па працавітай Хуанпу браў курс,
Бы па гандлёвай вуліцы галоўнай,
Наш карабель,—
На сто гадоў рэсурс,—
Дзе капітан у залатой шпакоўні.

Нясе афіцыянт зялёны чай,
Какосавымі стружкамі частуе...

Катамаран плыве за небакрай,
Катамаран за далягляд прастуе.

Расчырванеўся,
Разгудзеўся бар —
«Зялёныя» —
Завеяю завейнай,
І кідае «Напалеон» у жар,
Да спраў амурных
І размоў кялейных.

І вось чароўнай вазай цзюйбаопэнь,
Якая скарбы шчодрыя збірае,
Па жоўтай плыні сцебануў прамень,—
Я н ц з ы
Турысцкі цеплаход вітае.

Вялікая кітайская рака
Трымціць
Набраклай весняю галінай,
Яна,
Нібы магутная рука,
Багаты плён усёй нясе краіне.

## ПАПЯРОВЫЯ ЗМЕІ НАД ПЛОШЧАЙ ЦЯНЬАНЬМЭНЬ

Лістота ў стылых парках бранзавее,
Хаваецца ў каўнер асенні дзень,
Але вясёлкай папяровай змеі
Плывуць,
Плывуць над плошчай Цяньаньмэнь.

Пагушкваюцца ў небе адмыслова,
Каб радасць з цёплых сэрцаў выкрасаць.
На іх зірнуўшы, генерал-вайсковец
Не здольны ўжо усмешкі прыхаваць.

Дракона цягне хлапчаня за нітку —
Драпежна усміхаецца дракон.
І вецер схамянуўся хваляй плыткай,
Заварушыўся у спляценні крон.

Дракон напяўся над пекінскай плошчай,
Вялізнай самай на планеце ўсёй,
І ледзьве чуцен далікатны пошчак
У схаладнелай цішыні над ёй.

Дзятва стаіла частае дыханне —
Тут столькі шырыні

І вышыні,
Што ёй лічыць да новага спаткання,
На гэтай плошчы,
Як да свята — дні.

І зноўку рукатворныя дзівосы
Наструняць вастравокія ў зеніт,
І будзе сонца залатыя кросны
Дарыць ім
І нябёс чысцінь-блакіт.

Падлетак падрасце ажно на лета,
Адчуе —
Божа крылы падарыў,
Адчуе —
Ён лунае над Сусветам,
І не стрымаць вятрам яго парыў!

## КІПРСКАЯ ВЁСКА

Ні мора і ні людзі не паспелі
Як трэба адпачыць,
А ўжо з-за гор
Па дахах чарапічных промень стрэліў,
І грай птушыны абудзіў прастор.

Зацерусіў ішак правулкам вузкім,
І зайграў вясновы аксаміт,
І сонца,
Нібы шар більярдны ў лузу,
Няспешна пакацілася ў зеніт.

Мянташаць жвава бабы языкамі —
Пласцінкі пашчарбачанай матыў.
Працяла потам перастылы камень,
Абвялі перагрэлыя лісты.

Кот на умлелай прызбе пацягнуўся —
Напэўна, котку жвавую сасніў,

І конь на ўзлобку голым схамянуўся —
Адолелі трудзягу авадні...

Тады у вёску на сваёй «Таёце»
Прымчаў ласкава-прытарны гандляр.
Прагаварыў,
Нібы каменне ў роце,
Пра экспартна-нябачаны тавар.

Старыя перазіркваліся мудра —
Маўляў, таварац тварам пакажы:
На каляровых кадрыках з-пад футра
Вылузваліся цыцкі,
Як глыжы.

Быў дзед вясковы з раніцы ў гуморы.
Да госця павярнуўся ён:
— Дзівак!..
Ты голы свой тавар вяртай у горад —
На баб мы надзівіліся затак!

## ВУЛІЧНЫ РЭСТАРАН У ТЭЛЬ-АВІВЕ

Яўген Лейбовіч душанькай не крывіць,—
У бізнес пнецца колькі мае сіл.
У рэстаран звышсціплы ў Тэль-Авіве
Ён будучых партнёраў запрасіў.

Па вуліцы пагырквалі машыны,
Да столікаў каціўся пыл, як кот,
І гаспадар напяты, бы спружына,
Таропка выціраў работны пот.

Пра справу гаварыў Яўген пачціва,
Наколькі сціплы статус дазваляў,
Пакуль не падалі па куфлю піва,
Стол смакатой зямной не запалаў.

Часночны соус і смарагд салаты
Былі на гаспадарскі просты густ...
Пятра святога рыбіны лупата
Улегліся на выцвілы абрус.

Вылузваліся шашлыкі з жароўні,
Гандлярскія сакрэты паплылі,
Зноў куфлі мінскі эмігрант напоўніў —
Бадай няшчасны самы на зямлі.

Ён нейкай шышкай быў у Белпраекце,
Ды сверб пра карані адчуў свае,
І вось нікому не патрэбны ў свеце,
Нам пеністае піва падае.

Ішла гаворка спорная...
Гулліва
Заўважыў гаспадар дасціпна ўслых:
— Ізраіль —
Не для ўсіх людзей шчаслівы,
І нешчаслівы,
Пэўна ж,
Не для ўсіх!..

## ХАЙФА

Працерабіўся дзень расточкам з мора,
Сутонне знікла ў прывідных гарах,
І вось,
Нібы свяшчэнная менора,
Над Хайфай заірдзелася зара.

Дзень расхінуўся,
Быццам бы заслона
Тэатра
Пад вялікай назвай —
Д з е н ь...
Шашэрацца, як вожыкі, газоны,
Пазначыўся на тратуары цень.

Вось клячай,
Што ўсё ж дайшла дадому,
На недамашніх — купленых — харчах,
Паром работны—
Сціплая «Палома»
Натужна-мякка клюнула ў прычал.

І знікла з твараў лёгкая пахмурнасць,
Слязінка слізганула з-пад павек:
— Як маецца у Полацку наш Шмуйлік?
— Як Дора Саламонаўна жыве?

Усмешкі,
Пацалункі
І абдымкі,
Напружана-нервовыя смяшкі,
Як спрытны дэмакрат на фотаздымку
Здымае з таннай акцыі вяршкі.

Грамадзянін становіцца алімам,
Становіцца на круг жыццёвы свой.
Цяпер ён хто?
Адценне пілігрыма
Ці зорнае знаменне над зямлёй?

Вядома,
Што свяцейшыя нябёсы
Ў канцы жыцця адказ вам змогуць даць,—
Ніхто не разгадаў сакрэты лёсу,
Хто ж можа лёс камусьці прадказаць?..

## МЁРТВАЕ МОРА

Глядзяць Галаны у Сусвет з дакорам,
Як чалавек,
Калі зашмат гадоў...
Віруе гамана на Мёртвым моры,
Сёй-той у лёк шыбуе стрымгалоў.

І быццам корак —
Вон з вады,—
Бо вочы,
Нібы у ра́ка на ілбе гарацъ.
Алім заўсёды на сабе ахвочы
Нязведанае смела паспытаць.

А выхаваны еўрапейскі дэндзі
Плыве,
Плыве,
Чытае «Дэйлі Ньюс»,
Варушачы нагамі ледзьве-ледзьве,
Пацягвае з бляшанкі лёгкі джус.

Вось пані выгінастаю змяёю
Прыйшла да мора.
Сумата стаяць...
І чорнай мёртваморскаю гразёю
Абляпвае сябе ад А
Да Я.

Бо тая гразь —
Адметная у свеце.
Заразу з цела зніме
Як рукой.
І хто жыве сягоння пры манеце,
Ляцяць ў Ізраіль век прадоўжыць свой.

Удалечы,
Нібыта снег Хермона,
Ляжыць на сонцы выцвілая соль.
І чалавек —
Сваіх хвароб прыгонны —
Прытушвае на час нясцерпны боль.

Бо тут даўно хваробы —
Не пасады —
Людзей зусім чужых змаглі здружыць...

І крэпасць старадаўняя «Масада»
Удалячынь
Задумліва
Глядзіць...

# ЗА СВЕТ ТРЫВОЖУСЯ ДУШОЙ...

Смаркач мянташыць:
«Пятыя калоны»
Павымерлі і канулі ў нябыт.
Маўляў,
Навошта згадваць іх штодзённа,
Маўляў,
Маўчыць драпежны дынаміт.
Маўляў,
Фашызм даўно спісала старасць,
Сляды былыя параслі травой...

Адкуль жа толькі выбухі,
Пажары,
Як знак непрымірымасці сляпой?
Жывуць «калоны» ў саладжавых плётках,
У анекдотах смажаных жывуць,
Майстэрстве драць падкупленую глотку
І здрадніцкі пад грудзі садануць.

Я помню:
З тых «калонаў» гід,
Як гніда,
На наскае не пабрахаць не мог.
Твар пакрывіўся настальгічнай крыўдай.
Пра светлае маўчаў,
Змрачнеў, як смог.

Я почырк пазнаю,
Іх намаганні
Сумленнае дарэшты затаптаць,
Нікчэмнасць сваіх хіжых парыванняў
Вяршыняў духу гулка абвяшчаць.

Навязваць людзям халадок сумнення,
Сумнення верыць,
Працаваць,
Любіць...
Іх сушаць Рэвалюцыі імгненні,
Яны хацелі б Праўду задушыць.

Мне выпадала ворагаў пабачыць:
Тых,
Што паўзлі зялёнай саранчой,
І ўсё знішчалі,—
Не маглі іначай,—
І тых,
Што сёння ў хаўрусе з крывёй.

Варшаўскіх хіпі, ўзвінчаных ксяндзамі,
З бутэлькамі з-пад танных каньякоў.
У тых бутэльках —
Вогненная замець,—
Пякучы монстр кіёск умомант змёў.

І тых,
Што у Балонні,
Тых,
Што ў Рыме
Фугас хоць зараз могуць падпаліць,
І песня абарвецца ў чорным дыме,
І сэрца скаланецца,
Затрымціць.

І тых,
Што над барханамі Сахары
Крыві разліць гатовы акіян...
Заўсёды вельмі прагны да ахвяры
Патомны кат
Ці ботал-гарлапан.

І тых,
Што ад снягоў Каракарума
Па горных сцежках неслі боль і смерць,
Пазбаўленыя, як драпежнік, думак,
І толькі крыважэрныя,
Як звер.

Шыпенне чую гнюснае ў эфіры —
Патруціць душы,
Існасць абалгаць...
Касціста вораг горла цісне міру,—
Свой «ідэал» імкнецца ўсталяваць.

Не!
Здрада думаць:
«Пятыя калоны»
Закончылі ганебны поступ свой.
Іх водгулле мне чуецца і сёння,
Таму
За свет трывожуся душой.

# VIII. ШЛЯХ НА ГАЛГОФУ



## БЕЛЫЯ БЕРАГІ

*Паэма-хроніка*

### Пралог

А над намі муры.
А над намі муры залатыя.
А пад намі — рака.
Быццам чыстая песня яна.
Гэта значыць, над намі —
Улюбёнка стагоддзяў — Сафія.

Гэта значыць, пад намі
Бяжыць і смяецца Дзвіна.

Бачыш?
Вунь, быццам пена, бялее пагорак.
Бачыш?
Гмахі нагадваюць стрэлы дзіцячых ракет.
Гэта — рупны завод,
Гэта — новы наш ранішні горад,
Дзе твой бацька быў першы рабочы
І першы рабочы паэт.

Не мастак я да казак —
Ты ведаеш гэта даўно.
Расказаць пра заморскія цуды
Наўрад ці мне ўдасца,
Мне б, як горад,
Узвесці паэму адно,
Дзе ўсё —
Нібы ў жыцці,
І дзе ўсё —
Як у казцы.

Я да кроплі апошняй
Улюбёны ў свой ранішні горад.
І няхай на праспектах
Лютуе і стогне зіма,
Бачу горад вясновым.
Са мной ён, як сябра, гаворыць,—
Усміхаецца шчасце маё рукатворнае
Ў сонечных светлых дамах.

Не шукаў я рамантыкі
У дзіўных краінах далёкіх —
Хоць карцела пабачыць
Крутыя дарогі зямлі.
Мара, пэўна б, збылася,
Ды ў родным краі сінявокім
Над Дзвіной будаваць нафтаволат
Аднагодкі мае пачалі.

Мы былі верхалазы,
Былі землякопы і цеслі.

Нам сухмень і мятлюгу,—
Усё давялося спазнаць.
І ў змаганні сяброўкай надзейнай
Была несмяротная песня,
Неадольная прага —
Горад мары сваёй збудаваць.

Я па звычцы старой
Кожны дзень свой, шчасліва пражыты,
Белым-белым каменьчыкам
У тэрмін заўжды адзначаў.
Сёння глянуў — Дзвіны берагі
Ў белым снезе нібыта.
Значыць, я недарэмна
Пакутваў, спяваў, працаваў!

Па начах
Доўга вокны гарэлі мае адзінока.
«Акадэмік» мянушку
Мне вясёлыя хлопцы далі.
Я над кнігамі чах,
Ну, а сэрца далёка-далёка
Мяне клікала ў шлях —
Сваё шчасце знайсці на зямлі.

Мы былі верхалазы, бетоншчыкі...
Так, мы жылі недарэмна.
Мы хацелі, каб кожнага мара збылася,—
Дзіва-горад устаў.
Хлопцы так і не ведалі,
Што па начах я паэму,
Дзе ўсё —
Нібы ў жыцці,
І дзе ўсё—
Як у казцы,
Складаў.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### ІНТЭГРАЛЫ НА ЦЭГЛЕ

### 1

Палатачны гарадок над пакручастай стромай Заходняй Дзвіны. У парусінавых буданах — і кантора будаўніцтва, і рэдакцыя шматтыражкі. З палаткі чутны галасы перагавораў па рацыі: «Як справы на пляцоўцы?» І адказ: «Будаўніцтва, як і планавалася, пачата 7 чэрвеня 1958 года». «Дзякую!» — трашчыць рацыя. Насустрач адзін аднаму выходзяць Каця Верас і Валерый Вятрун.

Каця
*(радасна)*
Валерка!
Валерый
Каця?.. Добры дзень, Кацюша!
*(Імкнецца абняць дзяўчыну, але яна адхінаецца.)*
Каця
Ну вось, ты і прыехаў. Малайцом!
Ці ж маладосць палохае дарога?..
Адразу павяду да Васіля.
Да Беражкова... У яго брыгада —
Адна сям'я... Ты прыжывешся тут.
Валерый
*(ціха)*
А ты?.. А ты ці рада, што прыехаў?
Каця
Я проста дужа рада за цябе...
*(пасля паўзы)*
А ты не думай — Нафтабуд дазволіць
Табе рабіць,
Як мокрае гарыць.
Бо тут не школа, дзе Вятрун урок
Сам выбірай — пайшоў ці перадумаў...
Надумаў і з дзетдома збег Вятрун...
*(Углядаецца ў вочы Валерыя.)*
Аднекуль, можа, збег цяпер таксама?
Валерый
*(перамінаецца)*
Я, Каценька, прыехаў, каб з табой...

Каб разам... Каця, ты не адказала,
Ці рада ты?

Каця

*(быццам не пачуўшы яго)*

Ты зразумееш тут,
Што значыць новы горад будаваць,
Завод узводзіць...
Ты — не сузіральнік,
А творца паўнапраўны усяго!
У брыгаду Беражкова папрашу,
Каб залічылі...

Валерый

Што ён, Бог які?

Каця

Ён больш чым Бог!
У баявой брыгадзе
Нарэшце чалавекам станеш ты.
Не будзеш... Ветруном...

Валерый

А што, не скажуць:
Па блату ўладкавала землячка?

Каця

Я ўсё-такі мясцовае начальства.
Зямляк прыехаў —
трэба спагадаць.

Валерый

*(апусціўшы галаву)*

Дзеля цябе прыехаў я, Кацюша...

Каця

Дзеля мяне?..
*(бярэ яго за руку)*
Пайшлі! Хадзем хутчэй!..

Каця і Валерый паспешліва выходзяць.

## 2

Над стромай пад разгалістай бярозай — хаціна Яніны Плаксы. Старая выходзіць на ганак, слухае гул матораў, углядаецца ўдалячынь.

Яніна

*(хрысціцца)*

А божухна, машын такая процьма
Наехала, нібы з усёй зямлі...

Шкада, Даніла мой не дацягнуў
Да гэтых дзён... Так і памёр пры думцы:
«Той анжынер прыезджы — балбатун.
Бо ці ж цвярозы чалавек паверыць —
Ля нашай Слабады — нафтазавод?!
Гаворка гэта — смех адзін, дый толькі».
Цяпер Даніла вокам бы зірнуў
На горад белакрылы над Дзвіною,
На справы рук людскіх...

Недзе блізка прагула машына, спынілася.

Васіль
*(здаля)*
Ці ёсць тут хто?
Яніна
Я тутацька!
Васіль
*(выходзіць)*
А-а, цётачка Яніна!
Я не адзін.
Са мной яшчэ — сябры.
На Нафтабуд прымчала папаўненне.

Выходзяць Валерый Вятрун і Віктар Машкоў. Ставяць кайстры на ганак.

Ці не ўзялі б вы пакватараваць,
Бо з інтэрнатам цяжка.
Яніна
Добра, добра!..
Васіль
Вось той цыбаты Віктарам завецца.
Віктар
Па прозвішчу Машкоў.
Васіль
А той куртач —
Валерый
Я — Вятрун.
Васіль
Дык, значыць, згода, цётачка Яніна?
Яніна
Пакуль дамок Яніны Плаксы ёсць,

Вядзі сюды усю сваю брыгаду...
Я зараз сырадою прынясу.

Васіль

Няварта, можа?

Яніна

Я, як стой, сыночкі.

*(Выходзіць.)*

Валерый

Якая прыгажосць!..
Эдэм сапраўдны!..

Віктар

*(з'едліва)*

Рубель на цягнічок — і прама ў рай!
Цікава, што праз тыдзень заспяваеш?..
Эдэ-э-эм!..

Васіль

*(абрывае)*

З паўабарота годзе вам
Заводзіцца.

Віктар

Мы ж любячы...
Ад сэрца.

Недзе ўдалечыні варухнуўся гром.

Валерый

*(спявае)*

Дожджык, дожджык, секані,
Я паеду на кані...

Васіль

Метэарыт табе на язычок.
Не зведаў паху поту...

Віктар

*(перадражнівае)*

Дожджык, дожджык...
Ды Ветруну здалося, што вось-вось
Прытэпае на Нафтабуд матуля.
«Валерачка,— прамовіць,— мой сынок.
Змарнеў, схуднеў... Ды што яны з табой
Зрабілі, бессардэчныя?!»

Валерый

*(рэзка)*

Даволі!..
Дзетдомаўскі я...

Віктар

*(вінавата)*

Ты, стары, прабач...

Не ведалі ж... Ты мне прабач, Валерка.

Яніна

*(вяртаецца з гарлачом малака)*

А вось і я, сыночкі.

Васіль

Вы дарма...

Яніна

Папіце на здароўе сырадою!
Пакуль мая Лысуха — любата,
Каб не сурочыць — поўная даёнка.
Сілкуйцеся... Прымервацца дарма,
Васіль, старэйшы ты — частуйся першы.

Васіль

*(бярэ гарлач, п'е)*

Цудоўны сырадой... Давай, Валер.
Саромецца даволі.

Валерый

*(п'е малако)*

Вельмі смачна!

*(Перадае гарлач Віктару.)*

Віктар

*(п'е)*

Не сырадой, а сонечны нектар.

Яніна

Няхай ідзе у сілу вам, сыночкі.

Васіль

*(пачуў, што за хатай спынілася машына)*

Прыехалі за намі. Нам пара.

Голас

Ну, годзе, беражкоўцы, загараць!
Хутчэй выходзьце! Нас бетон чакае.

Васіль

Іду.

Віктар

Ідзём.

Валерый

Спяшаемся.

Васіль

Ляцім!..

Хлопцы выходзяць, пакінуўшы на ганку кайстры.

## 3

Утульны інтэрнацкі пакой. Прытуліўшыся адна да адной, сядзяць Кацян Верас і яе сяброўка Марына Супрун. Ціха спяваюць.

Ой, рэчанька, рэчанька,—
Заспявала дзеванька.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Заспявала дзеванька.

А таму, што малада,
Вішняй расцвіла ў садах,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Вішняй расцвіла ў садах.

А таму, што ўсюды май,—
Адказаў ёй рэхам гай.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Адказаў ёй рэхам гай.

А таму, што вочы сіні,
Пакахаў яе хлапчына.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Пакахаў яе хлапчына...

Кацян

*(уздыхае)*
Марынка... Эх, Марыначка... Дзяўчаты
На танцы падаліся... Мы ж з табой
Адседжваемся тут.

Марына

Сама ж прасіла,
Каб не сустрэцца часам з Ветруном.

Кацян

Сказаць я не асмелюся, што хлопец
Другі мне падабаецца.

Марына

Скажы.
Навошта чалавеку спадзявацца?
Навошта нудзіць хлопцаву душу?

Кацян

Марынка, зразумей, дзеля мяне
Валерый прымчаўся на будоўлю.

Скажы яму ўсю праўду, і, мабыць,
Сарвецца з месца, кінецца па свеце.
Гарачая у хлопца галава.
Надзея на брыгаду Беражкова.
Здружыліся, нібы адна сям'я.
Як стане цяжка, падтрымаюць тут жа,
Ніколі ў крыўду сябра не дадуць.
У іх такі закон.

Марына

Закон — законам,
Але ў жыцці і выключэнні ёсць.
А твой Вятрун заўпарціцца, і хлопцы
З ім, наравістым, рады не дадуць.
Але ж і сітуацыя... Нібы
Сам брыгадзір дарогу пераходзіць
Валерыю твайму.

Каця

Які ён мой!

Марына

Валерка слаўны хлопец.

Каця

Так, някепскі,
Але бліжэй да сэрца Беражкоў.
Прыгожы, працавіты і сумленны —
З ім я гатова хоць на край зямлі!

## 4

Будаўнічая пляцоўка. Аднатонна гудуць вібратары, рыпяць вежавыя краны. Зрэдку чуюцца каманды: «Майна!», «Віра!».
Васіль Беражкоў спускаецца з рыштаванняў. Да яго падыходзіць Сымон Каўтыга.

Сымон

Таварыш Беражкоў!

Васіль

А-а, ты, Каўтыга!
Што робіш на пляцоўцы ў гэты час?
Не спіцца ветэрану?

Сымон

Годзе, годзе!
Які я ветэран. З табою мы

Прыехалі сюды амаль што разам
І ставілі палатку разам тут,
Закладвалі падмурак самы першы...
Ты выклік на спаборніцтва прымай!
*(Пераміпаецца.)*
Памераемся сіламі у працы.

Васіль

Спаборніцтва?

Сымон

Ага.

Васіль

З брыгадай п
Параіцца павінен.

Сымон

Што брыгада.
Ты галава. Табе і вырашаць.

Васіль

Узважыць і прадумаць неабходна
Усё як след.

Сымон

Тваім сябрам прасцей.
Ім што губляць. Часовыя яны.
Дыпломы у кішэні — і цю-цю,
Бывай, бывай, ударная будоўля,—
Заводскі цэх гаспадароў прымай!..
Ну як?

Васіль

Сказаў, брыгадай абмяркуем,
Узважым «за» і «супраць».

Сымон

А шкада,
Што не прывык рашаць ты самастойна
І дробязі.

Васіль

Спаборніцтва, Сымон,
Не дробязі... Працуем мы сумленна —
Не за рубель.
І людзі вырашаць,
Павінны з кім спаборнічаць, змагацца.

Сымон

Шкада, шкада. Ат, ледзьве не забыў.
Вось, падпішы.

Васіль

Што гэта за паперкі?

Сымон

Бетон. Вы ж залівалі «башмакі»
На галаўной учора установцы.
Дайшло?

Васіль

Даходзіць.

Сымон

Вось і падпішы.
Тут роўна трыццаць тры кубы бетону.

Васіль

*(дастае з кішэні запісную кніжку, гартае)*
Ты не спяшайся. Дай удакладню...

Сымон

Навошта ўдакладняць? Усё тут ясна.
Я адзінаццаць ЗІЛаў пасылаў.
Па тры кубы. І ўся навука.

Васіль

*(рэзка)*

Хопіць!
Не адзінаццаць ЗІЛаў — толькі шэсць.

Сымон

А ты пішы! Не буду вінаваты.
Ў даўгу не застануся.

Васіль

Замаўчы!
Наконт прыпісак я заўжды жалезны.

Сымон

Закінеш — знойдзеш. Падпішы хутчэй!

Васіль

Хутчэй на тваім твары распісацца?

Сымон

Палохаеш?

Васіль

Не, праўду гавару.

Сымон

Паскарджуся, і кропка.

Васіль

Хоць Хрыстосу!..

Сымон

Усюды мне паверадь.

Васіль

Прэч з вачэй!

Сымон

Збіраешся падрэзаць план?

Васіль
*(дае аплявуху)*
Вось, шкурнік,
Табе адна машына!
Даць яшчэ?
Сымон
*(уцякае)*
Ты хуліган!
Васіль
Чакай, чакай, Сымоне,
Гаворку пра спаборніцтва плясці
Ты быў ахвочы. Вынікі падводзім!
Сымон
Адумайся, бо людзі не дазволяць
Табе, малойчык, рукі распускаць.
Васіль
Ах ты, слімак!
Сымон
І сам жа не святы.
Брак нарабіў — бетон на дошкі выліў.
Я ўсё раскрыю.
*(Знікае.)*
Васіль
Ты бяжы, бяжы!
Заводзіць пра спаборніцтва гаворку,
А сам...
Каця
*(выходзіць)*
Васіль!
Васіль
Кацюша?!
Каця
Нейчы цень
Усхваляваў цябе, і не на жарты.
Васіль
Салодкую дыскусію правёў
З Каўтыгам.
Каця
А навошта столькі нерваў?
Васіль
Мне ліпавыя рэйсы падаваў
На подпіс. Бач, «не высахне за мною».
Каця
Даўно нячысты на руку Сымон.

Васіль

Табе адкуль вядома?

Каця

Ды Марына

Усё мне расказала пра яго.
Яны з Каўтыгам гэтым землякі.
Ліпучыя занадта ў мальца пальцы,
Ды па зубах ніхто не адхадзіў.

Васіль

Не. Адхадзілі.

Каця

Ці не ты?

Васіль

Я, Каця.

Каця

Ну вось, і зноў ты кашу заварыў.

Васіль

Вядома, па галоўцы не пагладзяць.

Каця

Аргвывадаў чакай.

Васіль

Перажыву,

Бо ў мяне ёсць ты...

Каця

Васіль, Васіль мой.

Ці ж гэтак усё проста у жыцці?
Кахаемся з табою мы, а людзі,
Ці ўсе яны шчаслівыя?

Васіль

Ты што?

Не верыш?

Каця

Веру.

Васіль

Што ж тады?

Каця

Валерка.

Васіль

З яго напраўду выйдзе будаўнік.
Сур'ёзны будаўнік.
Ды толькі ён
Ваўком апошнім часам пазірае
У бок мой.

Каця

Ён прыехаў з-за мяне.

Васіль

Цябе?.. Цябе?!. Ніяк не разумею.

Каця

Васіль, ты ўсё павінен зразумець.
Валерый, ён ні ў чым не вінаваты.
Дзетдомаўскі... І ў свеце у яго
Няма нікога. Ты, Васіль, павінен
Яму дапамагчы... І зразумець...

Васіль

*(рэзка)*

Умоў цяплічных я ствараць не буду,
Хаця Вятрун і падапечны твой.

Каця

Васіль.

Васіль

Не будзем больш. Не будзем, Каця.
Без чулых слоў пагана на душы.

## 5

Прыцемнены пакой. Валерый Вятрун і Віктар Машкоў спяць. Раптам Віктар устае з ложка, запальвае святло, нахіляецца над Валерыем.

Віктар

*(ціха)*

Валерка, падымайся! Брыгадзіру
Пра той «башмак» бы варта расказаць.
Так вось і так. Ці ж ведалі, што «плёхне»
Шафёр бетон на дошкі. Уставай!..
Што «запаролі» мы «башмак», даруйце.
Мы выправіць гатовы гэты брак.
Валерка!

Валерый

Ну-у...

Віктар

Валерка, падымайся!

Валерый

Ну, што табе?

Віктар

Забыўся пра «башмак»?
Удвух направім.

Валерый

Га-а?

Віктар

Цішэй, збірайся!
Бо заўтра будзе позна. Стане ўсім
Вядома — беражкоўцы «запаролі».
А гэта ж мы...

Валерый

Не мыкай, як цяля!

Віктар

Далі ж мы слова.

Валерый

Мне пляваць на слова!
На гонар наш і планы — напляваць!

Віктар

Валерка!

Валерый

Напляваць!

*Чуюцца паспешлівыя крокі. У пакой уваходзіць Васіль.*

Васіль

Чаму не спіцца?

Віктар

Пагутарылі проста.

Васіль

А пляваць
На гонар наш, на планы хто збіраўся?
Ды што ўгаворваць!..
Цёмную яму!

Валерый

За што такая злосць?

Васіль

Яшчэ пытае!

Валерый

Я... не... заўважыў...дошак...

Васіль

Хлусіш ты!
Заўважыў, толькі думаў сыдзе неяк.
Ды, бачыш, не сышло.

Валерый

Я не хацеў!

Васіль

Чаму ж маўчаў? Адразу не прызнаўся?

Валерый

Баяўся, будзе выгадна табе
Пазбавіцца ад Ветруна.

Васіль

Э-эх, нюня!
Пазбавіцца...

Валерый

Ты помсціш, брыгадзір!..
За Кацю помсціш... Проста выжыць хочаш
Мяне з брыгады. Дык я сам пайду.

Васіль

Ты глупства мелеш.

Віктар

Глупства.

Валерый

Я знікаю...
*(Выходзіць.)*

Віктар

Мо збегаць і вярнуць яго, Васіль?

Васіль

Сам вернецца, як галава астыне.

Настойлівы стук у акно. Васіль і Віктар прыслухоўваюцца.

Віктар

Хто б гэта мог?

Васіль

Ты паглядзі.

Віктар

Праараб!

Васіль

Што ж, адчыняй!

Віктар

Заходзьце, калі ласка!

Астрэйка

Не спіце?.. Дагуляліся, сынкі?

Васіль

Што здарылася, можна растлумачыць?

Астрэйка

Гы-ы...Ён яшчэ пытаецца?.. Сымон!
Кулачны бой твой!

Васіль

Ён жа прахадзімец!

Астрэйка

Так, прайдзісвет і п'яніца... Але
Не след перавыхоўваць кулакамі.

Васіль

Ды я...

Астрэйка

*(перадражнівае)*

Ды я... Гаворкі тут няма.
От, нарабіў.

Васіль

Не цалавацца ж з гадам.

Астрэйка

Рукам бы волі не даваў... Баец!
Хто даў такое права?.. Выхавацель!..
З брыгадай вашай гора мне стае...
*(пасля паўзы)*
Чаму не спіце?..

Віктар

Думаем пра заўтра.

Астрэйка

*(строга)*

Спаць неадкладна!.. Раніцай калом
Вас не падымеш.
*(Васілю)*
А з табой размову
Яшчэ працягнем, мілы чалавек.

Выходзіць.

Васіль

Вясёленькая ночка нам прыпала.
Збірайся на заводскую хутчэй!
Да дня мы пераробім.

Віктар

Я гатовы!
Хадзем!

Васіль

І крыва ж усміхнуўся лёс!

Сябры выходзяць у цемру ночы.

## 6

Ноч. Пакой Сымона Каўтыгі і яго дружбака Аляксея — «мазіста». На добрым падпітку яны сядзяць за сталом. Аляксей бярэ гітару, трэнькае па струнах.

Аляксей

*(спявае)*

Ой, п'яны я, п'яны,
Гарэлкі напіўся,
Варанному коніку
На грыўку зваліўся:

— Ой, коню мой, коню,
Конь мой вараненькі,
Парай мне, коню,
Бо я маладзенькі.

— Што я буду раіць,
Ты сам тое знаеш.
Не любі чужых жонак,
Бо ты сваю маеш.

А чужая жонка,
Як асіна горка.
Твая ж маладзенька,
Як мёд саладзенька.

— З сваёй пасваруся —
Розуму набуду.
А з чужой сайдуся,
Дык усё забуду.

Сымон

Ты, Лёшка, граеш здорава. Артыст!

Аляксей

Стараюся, стараюся, Сымоне.
Чаго не зробіш дзеля брыгадзіра,
Як ты, такога.

Сымон

Дружа, дарагі.
Люблю цябе я, Лёшка, як сябе.
*(падымае чарку)*
На разе!

Чокаюцца. Стук у дзверы.

Аляксей
*(злосна)*
Непавага да рабочых.
І ляснуць не даюць...

Сымон

Заходзь, заходзь!

Валерый

*(уваходзіць, перамінаецца)*

Мне можна?.. Добры вечар!

Сымон

Добры вечар!

Каго мы бачым, Лёшка! Паглядзі!

Парламенцёр ад Ваські Беражкова!

Аляксей

*(з'едліва)*

Мірыцца «акадэмік» захацеў?

Сымон

Заўсёды ў свеце праўда пераможа.

Аляксей

Мірыцца захацеў?

Валерый

Я назаўжды

Пакінуў беражкоўскую брыгаду.

Сымон

Пакінуў?

Аляксей

Як?

Валерый

Пакінуў назаўжды.

Аляксей

Табе так і паверылі.

Сымон

Жартуеш?..

Аляксей

А заўтра пяты Васілю лізаць

Уранку падасіся.

Валерый

Не падамся.

Аляксей

Рассыпаліся мы перад табой.

Сымон

*(Аляксею)*

Ты, цыц! Напоўні чарку чалавеку.

*(Валерыю)*

А да мяне ў брыгаду ты б пайшоў?

Валерый

Пайду...

Сымон

Не прагадаеш?



Сфінкс у Гізе



Вялікая кітайская сцяна

Аляксей

Не пралічыш?

Валерый

Якая мне выгода тут... Абы...
Няма другога выйсця...

Сымон

Тут і кропка.

Тады займай вось ложак ля сцяны.
І жыць, і працаваць мы будзем разам.

Аляксей

*(Валерыю)*

А за прытулак дзякуй.

Сымон

*(Аляксею)*

Замаўчы!

Валерый

Спагада грэе.

Сымон

Ды пра што гамонка...

Аляксей

А дзякуй мне?

Сымон

*(Аляксею)*

Заткніся, замаўчы!

Аляксей

*(спявае)*

Ой, п'яны я, п'яны,
Гарэлкі напіўся...

Сымон і Валерый чокаюцца, п'юць.

## 7

Будаўнічая пляцоўка. Звон рэйкі — сігнал абедзеннага перапынку. З рыштаванняў спускаюцца Васіль, Віктар, Каця.

Васіль

Абедзенны ў правы свае ўступае.
Студэнцікі, у сталоўку!.. І жвавей!..
А то пакуль датэпаеце, лёдам
Прыхопіць боршч. Пагрэйцеся ядой!

Віктар

Я за абедам папацець не супраць.
*(Васілю)*
Ты застаешся?

Васіль

Справы, Віктар.

Віктар

Так...
А можа, ўсё ж чаргу мы патрымаем?
Падзякуеш.

Васіль

Я застануся. Не.

Каця

І мне пярэчыш?

Васіль

Ты даруй, Кацюша...
Мне сапраўды...

Каця

Тады давай, дзярзай!

Васіль

Што ж, буду...

Каця выходзіць. Васіль разгортвае чарцяжы.
Т-так... Здаецца, усё дакладна.
Паяўляецца Астрэйка.

Астрэйка

Не ведаў... Цэгла ў ролі канцпрылад
Яшчэ адну саслужыць людзям службу!
На цэгле інтэгралы!..

Васіль

*(падымае галаву)*
А-а, прараб...

Астрэйка

Чаго не папрыдумвае студэнцтва.

Васіль

Ды вось, прараб, экзамены у нас,
А розных спраў і шуфлем не раскінеш.
Даводзіцца і дзень і ноч карпець
Над кніжкамі і чарцяжамі.

Астрэйка

Трэба!..
О-о, каб я меў паэтаву душу!
Паэму пра брыгаду напісаў бы.
Пра інтэгралы на цаглінах... А-а?..
Жыццё ідзе наперад... Чуеш, чуеш?
Завод бетонны голас падае.

Васіль

(задумліва)

Пайшоў завод бетонны?

Астрэйка

Што так сумна?

Васіль

Бо нам пакуль даводзіцца сядзець
На другарадных цэхах.

Віктар

(горача)

Тыл, ці што мы?

Каця

(уваходзіць)

Не давяраюць нам.

Васіль

Мы горш за іншых?

Астрэйка

От, адвакаты.

Віктар

Тыл мы сапраўды?

Астрэйка

А ў тыле пакідаюць лайдакоў?..
Ці палахліўцаў?

Віктар

Не.

Астрэйка

Кажы, даказвай.

Каця

Нас на перадавую час даўно.

Астрэйка

Перадавую?

Васіль

Так.

Каця

Хутчэй пашліце!

Астрэйка

Усё сказалі?

Васіль

Усё.

Віктар

І да канца.

Астрэйка

Я зараз і прыйшоў, каб папярэдзіць,
Што з заўтрашняга дня...

Васіль

Ура!.. Ура-а-а!..

Віктар

Няхай жыве Астрэйка!

Каця

Самы мудры!

Васіль

І самы дабрадзейны!.. Наш прараб...

## 8

Зноў пакой Сымона і Аляксея. На сцяне аднатонна цікаюць ходзікі. Сымон, як заўсёды на падпітку, сядзіць за сталом. Перад ім — пляшка гарэлкі. На ложку Валерый пералічвае грошы.

Валерый

Чым не аванс?.. Аванс, кажу, салідны.

Сымон

Пра што ты?

Валерый

Што аванс як мае быць.
Раней я і не бачыў столькі грошай.

Сымон

Га-а!.. У меня, браток, заўсёды так.

Валерый

Мне б гарнітур прыгожы, чаравікі.
Пакуль капейка ёсць...

Сымон

Не гарнітур
Сапраўднага ўпрыгожвае мужчыну,
Не чаравікі... Лепшым каньячком
Каб патыхаў.

Валерый

Я ехаў не па гэта.
Сапраўдным чалавекам ехаў стаць.

Сымон

Высокіх слоў і я насыплю кошык.
Табе вось гэта трэба.
*(Працягвае бутэльку.)*
Налівай!

Валерый

Не хочацца мне болей. Можа, хопіць?

Сымон

Не паважаеш?.. Ды з такім бугром
Нідзе не прападзеш.

Валерый

Вы вельмі добры.

Сымон

*(з'едліва)*
Не хочацца... Яшчэ ў маім жыцці
Выпадку не было, каб стограмовік
Не мелася жадання прапусціць.

Валерый

Зусім абрыдла гэтая атрута.

Сымон

Валерка, кінь!

Валерый

Сур'ёзна я кажу.

Сымон

А я ж табе... Нібыта бацька родны...
Ўзяў у брыгаду?

Валерый

Дзякуй!

Сымон

І ў пакой...

Валерый

Вам дзякуй, што ўзялі.

Сымон

Ну, а заробкі
Вышэйшыя у трэсце хто зрабіў?..

Валерый

Вы ўсё!.. Усё вы!..

Сымон

Ды ты б у Беражкова
Мазгі сушыў. І тры рублі за дзень
Заробку б меў... А тут аванс — заўважыў?
З цябе і... чалавека... я... зраблю...
Г-героя... п-працы...
*(Засынае.)*

Валерый

Але ж як душна тут!
Як брыдка тут! І не стае сяброў!..

Адчыняе фортку. У пакой урываецца шум горада.

## 9

Гарадская вуліца. На аўтобусным прыпынку стаіць Марына Супрун. Паяўляецца Валерый Вятрун.

Валерый
(*узрадавана*)
Як добра, што сустрэў цябе, Марынка!
Што здарылася ў вас? Я не магу
Знайсці Кацюшу ўжо каторы тыдзень.
Марына
Табе не трэба больш яе шукаць.
Яна кахае...
Валерый
Бяражкова?
Марына
Праўда...
А ты скажы, Валерый, як жывеш?
Як твае справы?
Валерый
Ды табе вядома.
З брыгады хлопцы выперлі мяне.
Марына
Ты хлусіш!.. Ты пайшоў сваёю воляй.
Падаўся да хапуг. Ты — дэзерцір!..
Ды ведаеш, Сымон твой з Аляксеем
У вёсцы штосьці ўпотай прадаюць?
Валерый
Адвозяць? Прадаюць? Ты што гаворыш?
Марына
Прыгледзься пільна ты да іх, Валер.
А лепш табе б вярнуцца у брыгаду
Да Бяражкова.
Валерый
Ведаю. Я сам,
Сам ведаю...
Марына
Я ўсё хачу як лепей.
Падумай. Цябе прыме Бяражкоў...
Дарэчы, вунь ён... У праблемах вечна.
Васіль
Валерый, прывітанне!
Валерый
Мой паклон!

В а с і л ь

Не бачыліся з месяц...

М а р ы н а

Я пабегла.

В а л е р ы й

Прызнайся, згаварыліся з Марынай
Мяне сустрэць?

В а с і л ь

Цябе шукаў і сам.
Ты некуды зусім прапаў, Валер...

В а л е р ы й

Цябе таксама ладна я не бачыў.

В а с і л ь

З работы прама — у дружыну, ў штаб.
Завёўся злодзей хітры, як лісіца.
Штоночы прападае рухавік.
Злавіць бы нам...

В а л е р ы й

Міліцыя навошта?
Яна хай ловіць...

В а с і л ь

Нашае ж дабро.
Маё, тваё...

В а л е р ы й

Няпраўда!.. Нічыё ўсё.

В а с і л ь

Відаць, Каўтыга лічыць так заўжды.

В а л е р ы й

Каўтыгу кінь!..
Сам чысценькі, анёлак?

В а с і л ь

Дарэмна ты, Валерый.

В а л е р ы й

Хопіць вам...

В а с і л ь

Не соладка табе,
што краем ходзіш.

В а л е р ы й

Давай не будзем...

В а с і л ь

Будзем!.. Будзем!.. Вось...
Вяртайся ж у брыгаду. Мы ж хацелі
Вучыцца, працаваць адной сям'ёй.

Валерый
Няпроста гэта.
Васіль
Толькі дужа трэба!
А хлопцы зразумеюць. Ты павер...
Не вернешся —
мне даравань не змогуць.
Валерый
Чаму табе спатрэбіўся Вятрун?
Васіль
Чаму?
Валерый
Але.
Васіль
Каб стаў ты чалавекам,
Каб ты сапраўдным стаў працаўніком!..
Ты гэта зможаш.
Валерый
Я?..
Васіль
Да нас вяртайся.
І зараз...
Валерый
Н-не магу.
Васіль
Чаму?
Валерый
Таму...
Рахункі я яшчэ павінен звесці
З Каўтыгам. І сягоння... Выбачай...
Васіль
Ты пазычаў?
Валерый
Не буду больш тлумачыць.
Ты неўзабаве зразумееш сам.
А потым з'еду я адсюль.
Васіль
Дарэмна...
І Каця не дазволіць.
Валерый
Каця?
Васіль
Так.

Валерый
Прабач... Я пабягу... Мяне чакаюць...
Я не такі паганы чалавек,
Як думаюць усе...

Васіль
Да нас вяртайся.

Валерый
Пакуль што не магу. Бывай, Васіль!

Валерый знікае. Выходзіць Каця.

Каця
Васіль?.. А дзе Валерый?.. Мне Марына
Сказала: засталіся вы удвух.

Васіль
Што здарылася, Каця?

Каця
Дзе Валерый?

Васіль
Пайшоў рахункі зводзіць.

Каця
Да каго?

Васіль
Не ведаю дакладна. Ён спяшаўся...
Узбуджаны быў...

Каця
Ён пайшоў адзін?

Васіль
Адзін... Скажы, што здарылася, Каця?
Скажы хутчэй?

Каця
*(з трывогай)*
Яго заб'е Сымон,
Калі мы не паспеем.

Васіль
*(цвёрда)*
Мы паспеем!
Хутчэй, Кацюша любая, бяжым!

## 10

Знаёмы пакой Сымона Каўтыгі і Аляксея. Каля ложка, прыкрыты коўдрай, паблісквае рухавік зварачнага агрэгата. Сымон сядзіць моўчкі, уставіўшыся ў адну кропку. Аляксей ходзіць з кутка ў куток, спявае.

Аляксей

Ой, п'яны я, п'яны,
Гарэлкі напіўся...
*(Сымону)*
А здарава рухавічку мы ногі
Прыставілі. Парадуйся, Сымон!
Работа, як у цырку,— шыта-крыта...

Сымон

Святкуеш рана.

Аляксей

Будзе ўсё — ціп-топ!..
У той жа раз як трэба абышлося.
Дык і цяпер...

Сымон

Цяпер другое, брат.

Аляксей

Чаму ж другое?

Сымон

Думаю — усіх, Лёшка,
Што зварачны не робіць апарат,
Напэўна, насцярожыла?

Аляксей

Нічога...

Сымон

Хто трэба ўжо задумаўся як след
Над тым, каму ж так рухавік патрэбны?
Бялілы, скажам... Шыфер... Нейкі цвік
Будаўнікам-аматарам у Шнітке.
А рухавік?
Патрэбны, як святло,
Відаць, шафёрам? Логіка?

Аляксей

Здаецца.

Сымон

Калі здаецца — хрысцяцца... А ты?..

Аляксей

Дрыжу, нібыта заяц-лістападнік.

Сымон

Дрыжыш?

Аляксей

Дрыжу.

Сымон

Дрыжы сабе, дрыжы...
Мне боязна таксама.

Аляксей

Нашы сцежкі
Не разгадае нават Шэрлак Холмс.

Сымон

Каб чутае ды богу ў вушы.

Аляксей

Змоўкні!

Валерый

*(уваходзіць)*
Вы дома?

Сымон

Як цудоўна, што прыйшоў!

Валерый

Чаму маўчыце, быццам на хаўтурах?
Якія непрыемнасці?

Сымон

Ды... м-мы...

Валерый

Здагадваюся: Лёшка на машыне
Пад «мухай» быў...

Аляксей

Разумны ты, аднак.

Валерый

Міліцыя яго і прыхапіла.

Сымон

Разумны ты на радасць нам усім.
Паесці хочаш?

Валерый

Так сабе.

Аляксей

Не грэбуй!
І вось кульні «спецвырабу».

Валерый

Ды не.

Сымон

Даставіў Лёха са Старых Дарожак
Кілбаскі, свежанінкі і пітва.

Валерый

Як трапіў аж туды?

Сымон

Табе ці трэба
Такое ведаць?

Аляксей

Мала нас куды

Ў камандзіроўкі пасылаюць часта...
Ударная будоўля-я-я!..

Валерый

Так.

Сымон

Ты што?

Валерый

Ударная будоўля?

Сымон

Гэтак, гэтак.

Аляксей

Табе ці нездаровіцца?.. Як стой
Я злётаю за «хуткай дапамогай».

Валерый

Не трэба «хуткай». А пакінуць нас
Сам-насам з брыгадзірам я прасіў бы.
Гаворка ёсць сур'ёзная...

Аляксей

Але,
Раней сакрэтаў у пакоі нашым
Не існавала.

Валерый

То было раней,
Калі крамной кілбаскай частавалі.
Без «спецзаказу»... Без Старых Дарог...

Аляксей

Сымоне, мне становіцца ўсё ясна.

Валерый

Здагадлівым шанцуе.

Аляксей

Не спяшай.
Я пакуру, Сымон, пад зорным небам.
Працягвайце, калегі... Я пайшоў!

Выходзіць.

Валерый

*(Сымону)*
Дай закурыць.

Сымон

Хвалюешся чамусьці?

Валерый

Я ведаю, дзе грошы бераце!
Куды раней рухавікі сплаўлялі,

Куды вось гэты... Мне вядома ўсё.
Канец прыходзіць «фірме».

Сымон

Не спяшайся...
Ты, можа, спадзяешся на працэнт?
На колькі?

Валерый

На ўсе сто, Сымон Каўтыга!

Сымон

Далей рабіць што будзеш, Шэрлак Холмс?
Жыў разам з намі. Улічы і гэта.
Ты з намі заадно і еў, і піў...
Пароўну нас і пракурор падзеліць.

Валерый

Які ж ты чорны!.. Чорны!.. Я пайшоў.
З табою разлічуся.

Сымон

Дай мне лапу
На развітанне.

Валерый

Воўк няхай дае.

Сымон

*(хапае Валерыя)*
Ага, папаўся!

Валерый

Ну, пусці, Каўтыга!
Дапамажыце, людзі!

Сымон

Задушу!..
За здраду задушу!..

Валерый

Н-не выйдзе, злодзей!..

У пакой улятае Васіль, за ім — Віктар, Каця. Сымон адхінаецца да акна. Валерый павольна асядае на падлогу.

Васіль

Сышліся нашы сцежкі.

Сымон

Ты?.. Васіль?..
Дай выйсці мне!

Васіль

Не саступлю з дарогі.
Не для таго спяшаліся сюды,

Каб выпусціць цябе. Ты поўнай меркай
Павінен атрымаць, што зарабіў.

На падлозе стогне Валерый. Віктар нахіляецца над ім, падымае галаву.

Віктар
Валерка, што з табою?
Валерый
Т-там... пад... ложкам...
Каўтыгі ўсё... работа...

Каця зрывае коўдру. На падлозе паблісквае крадзены рухавік. Сымон далей туліцца ў куток, ваўкавата пазірае на беражкоўцаў. У пакой уваходзяць Марына і цётка Яніна.

Марына
*(кідаецца да Валерыя)*
Што з табой?
Валерый
Ты слаўная, Марынка.
Марына
Добра, добра...
Валерый
Вы — верныя, адданыя сябры...
Яніна
*(Валерыю)*
Табе, сынок, балюча?
Валерый
Што вы, цётка...
Яніна
Магло б і горай...
Каця
Ён у нас герой!
Валерый
Герой?.. Не кпі...
Каця
А ты герой, Валерка.
Па радыё віншуюць нас усіх
З выдатнай перамогай!
Васіль
Пуск завода
Паскорылі і на тваіх плячах.

Віктар

Ішоў ты з намі поруч.

Валерый

Толькі збочыў.

Яніна

Падзякуй, што не кінулі цябе
На слізкай сцежцы... Працягнулі рукі...
Цяпер адна вы дружная сям'я!..

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### СВАЕ КРЫЛЫ

#### 1

Палац культуры Нафтаграда. Віруе вечар пасвячэння ў нафтавікі. У фае выходзіць Васіль, прыслухоўваецца да песні, якая гучыць недзе ў зале:

У карагодзе спраў будзённых
Заўсёды з намі, нібы сцяг,
Рабочы гонар,
Рабочы гонар —
Закон рабочага жыцця.

Багата спраў у нас сягоння,
Мы ў заўтра верым да канца,
Ў рабочы гонар.
Рабочы гонар —
Закон рабочага жыцця.

Імчацца дні, як эшалоны,
Нас кліча велічны прасцяг.
Рабочы гонар,
Рабочы гонар —
Закон рабочага жыцця.

У карнавальным адзенні з'яўляецца Каця. Васіль артыстычна кланяецца ёй.

Васіль

Ты Золушка сапраўдная, Кацюша.

Каця

Я — каралева!

Васіль

Каралева?! Ха-а!
Ты ж Каця Верас.

Каця

Каралева!.. Ясна?
Я болей не падсобніца.
А вы
Не брыгадзір ужо... Не нафтахімік...
Пакуль. І я...

Васіль

Ты — каралева. Так?

Каця

Мне сёння падпарадкавацца будзеш...

Васіль

*(з усмешкай)*
Начальства мне знайшлося.

Каця

Зараз я
Пацалаваць пры людзях загадаю!

Васіль

Кацюша.

Каця

*(строга)*
Каралева!

Васіль

Зноў сваё?

Астрэйка

*(уваходзіць)*
А моладзь што: на покуце буркуе,
Як тыя галубкі?

Васіль

Ды вось, бяда.
Трон брыгадзіра не паспеў пакінуць,
А новае начальства тут як тут.
Я на будоўлі акрамя прараба
Нікога знаць і ведаць не хацеў,
А тут... Нашчадкі звергнутых тыранаў!

Астрэйка

Абралі нашу Верас і давай
Ёй пакланяцца... Бо як што, Кацюша
Не возьме ў сваё царства.

Васіль

Ну, няўжо?

Каця

А што, магчыма...

Васіль

Я ж цябе, як помню,
Ў брыгаду залічыў у першы ж дзень.
Ні з чым не палічыўся.

Каця

Вось геройства!
А ты, як будзеш неслухам, за мной
І не ідзі...

Астрэйка

Вось, чуеш?

Васіль

Ну і справы...
За ўсё «удзячнасць» шчырая.

Астрэйка

За ўсё...

*(задумліва)*
Памалу разлятаецца сямейка.
Вы — на завод.

Васіль

У горад вось і вы...

Каця

Віншуем вас з высокаю пасадай.

Астрэйка

Адказна.

Васіль

Дыялектыка жыцця!

Астрэйка

Яшчэ, здаецца, ўчора ля палаткі
Мы марылі пра будучы завод,
Пра горад...

Каця

Ля хацінкі цёткі Плаксы.

Васіль

А потым той Каўтыга з Ветруном,
Вярэдзіў ваша сэрца.

Астрэйка

Так заўсёды —
Адны ў цяжкой дарозе адстаюць,
Другім мы стаць у строй дапамагаем.

К а ц я

Як, скажам, Ветруну.

В а с і л ь

Але-але...

З Каўтыгам назаўсёды развітацца
Прыйшлося, бо рабочая сям'я
Ніколі прайдзісвета не прымае.

А с т р э й к а

І праўда.

К а ц я

*(Астрэйку)*

Не крыўдуеце на нас?
Ёсць справа — справай.

А с т р э й к а

Гэтак. Справа — справай.
Мінулае не варта варушыць.
Прыгадваць крыўды дробныя. Мы з вамі
Пабудавалі горад і завод.
І вы — гаспадары магутных цэхаў.
Вы — першыя у іх нафтавікі.
І верыцца мне,— як і на будоўлі,
Не будзеце ў хвасце.

В а с і л ь

У абозе — не!

А с т р э й к а

Сярэдзінка, як кажуць, залатая
Мяне не задаволіць, я такі!
Ці ж логіка серадначка цябе
Задавальняе?

В а с і л ь

Не.

А с т р э й к а

Вось бачыш — не!

Музыка ў зале заціхае. П а м о ч н і ц ы «к а р а л е в ы» выносяць Каці вянок з польных красак.

К а ц я

А зараз пасвячаем Беражкова
У нафтавікі.

В а с і л ь

Хвалююся, сябры...

А с т р э й к а

Не бойся. Буду побач.

Каця карануе вянком галаву Васіля.

Каця

Што ж, прымаем

Цябе, Васіль Антонавіч, да нас
У нафтавае царства.

Васіль

Шчыры дзякуй!

Каця

Высокае ў вас званне. Вы цяпер...

Васіль

Я?

Каця

Старшы аператар.

Астрэйка

Мы чакаем

Кароценькае слова у адказ.

Васіль

Што ж мне сказаць? Я проста разгубіўся...
Я працаю аддзячу вам усім.

## 2

Аператарная буйнога хімічнага прадпрыемства. Гудуць прыборы на галоўным пульце кіравання. Васіль штосьці занатоўвае за сталом, Валерый стаіць ля акна.

Валерый

Васіль, такое сёння адчуванне,
Нібы на касмадроме мы з табой.
Каскад прыбораў розных... А калоны,
Дык падабенства поўнае ракет.

Васіль

Націснуць застаецца мне на кнопку,
І... фюі-ць — Вятрун Венеру асядлаў.
Ці Андрамеду...

Валерый

Ты, Васіль, калючы.

Памарыць нельга?

Васіль

Можна. У вольны час.

Пры поўні, бо рамантыка, мой дружа,
І антуражу вымагае.

В а л е р ы й

Годзе.

Засушыш паэтычную душу...

В а с і л ь

Сымон заўжды натхняў цябе на песні?..
І на дзярзанне?..

В а л е р ы й

Годзе!.. Я прашу.

Гарачы быў, зялёны, несабраны.
Брак дапусціў... Пачысцілі як след.
Ці ж ты не «чысціў»?

В а с і л ь

Чысціў.

В а л е р ы й

Я і здаўся. І да Каўтыгі...
Той на ўзлёце быў.

В а с і л ь

Узлёт бяскрылы.

В а л е р ы й

Хто пра гэта ведаў.
Ды ты не думай — толькі за рублём
Падаўся да Каўтыгі... Проста сорам
Мяне за свой учынак спапяляў.
А потым стала ясна, што Каўтыга
Душою чорны, брудны чалавек.

В а с і л ь

І стаў ты самадзейным дэтэктывам?

В а л е р ы й

Не смейся. Зразумей мяне... Я сам
Хацеў віну загладзіць перад вамі...
Перад табой і... Кацяй...

В а с і л ь

І жыцця

Аматарства ледзь-ледзь не каштавала.

В а л е р ы й

Цяпер, напэўна, пойдзе ўсё прасцей.
Мятлой Каўтыгу вымелі.

І болей

Не будзе ён брыгадзе замінаць.

В а с і л ь

Наіўны чалавек, Вятрун.

В а л е р ы й

Наіўны?

Васіль

Складаная, Валерка, рэч — жыццё,
Не думай, што, прыбраўшы камень, шпарка
У заўтра можна лёгка кіраваць.
Жыццё — пераадоленне.

Рэзкі тэлефонны званок.

Валерый

Дыспетчар!

Васіль

Ты адкажы, Валер...

Валерый

Старэйшы ты.
Вось і адказвай.
Выбіўся ў начальства.

Васіль

*(буркатліва)*
Мянтуз адрэчны!
*(Здымае трубку.)*
Слухаю... Васіль...
А-а, гэта вы, Ігнатавіч. Нармальна.
Працуе ваша помпа пакрысе.
Пакрэктвае, як дзед двухсотгадовы.
Дацягне змену. А тады — на злом!
План ёсць... А якасць?.. Быццам бы
нармальна...
Што?.. Каразійным палівам?.. Ды мы
Заменім шчолач, выправім умомант...
Ігнатавіч, на слова верце мне...
*(Кладзе трубку, Валерыю.)*
Ты шчолаччу займіся тэрмінова.

Валерый

Я зараз... Брак далі?

Васіль

Ды кроплі дзве...

Валерый

*(выглядае ў акно)*
Да нас ідзе начальнік устаноўкі!
Сам Лазерскі.

Васіль

Заданне атрымаў,
А спіш!..

Валерый

Таварыш Беражкоў, знікаю!
*(Выбягае.)*

Л а з е р с к і

*(уваходзячы)*

Пра паліва ты ведаеш?

В а с і л ь

Ужо.

Л а з е р с к і

А вывады?

В а с і л ь

Заменім зараз шчолач,
І пойдзе ўсё як трэба.

Л а з е р с к і

Што ж, лады!..
Мы з каразійкай парываем дружбу.

В а с і л ь

Даўно парвалі.

Л а з е р с к і

Крышку ўсё ж было?

В а с і л ь

Здаецца, кроплі.

Л а з е р с к і

Усё табе здаецца!
Аналізы пацвердзілі?

В а с і л ь

Так...

Уваходзіць К а ц я.

Л а з е р с к і

Вось,
Сама лабараторыя!.. Хварэе
За вахту вашу.

К а ц я

*(сумеўшыся)*

Што вы...

В а с і л ь

Што вы...

К а ц я

Я за пробамі.

Л а з е р с к і

Канечне... Ну, канечне.
Чаго расчырванеўся? Вось бяры
Кацюшу пад сваю апеку.

К а ц я

Што вы!..

Л а з е р с к і

А то мядзведзі ў гэты ходзяць час

Тут па заводскай. І дзяўчат прыгожых
У лес цягаюць... Красачкі тваёй
Не абмінуць ім.

Васіль

Годзе пасміхацца.

Лазерскі

Жартую...
Ну, давай, Васіль, давай,
Паказвай, чаго варты палачане!
Табе я веру!

Васіль

Мы не падвядзем.

Лазерскі выходзіць.

Каця

*(пасля паўзы)*
Цудоўны ранак...

Васіль

А табе, Кацюша,
Нагадвае ён штосьці?!. Прыгадай!..
Вясною ранняй дыхала прырода,
І ценькія званілі капяжы,
І ў лужынах, запэцканыя нафтай,
Натхнёна буркавалі галубы.
Жылі яны ў падстрэшшы на градзірні
І гадавалі кволых немаўлят.
Вярталіся мы з вахты... Былі зоркі,
І неба фіялетавым было.
Такім глыбокім...

Каця

І такім ласкавым.
На практыцы... Згадала... Я ў Уфе...
Ты гаварыць тады пачаў узнёсла —
Для подзвігу ёсць месца у жыцці.
І подзвіг плённай нашай мірнай працы
Упоравень стаіць з імгненнем, тым,
Што ў вечнасць узляціць на ратным полі...

Васіль

Не тыя словы! І не трэба больш!..
Прашу, Кацюша!

Каця

Добра. Я здаюся!..
Рабіў тады разлікі ты. Цяпер

Ты адкрыццё сусветнае здзяйсняеш?
Ты змайстраваў ракету?!

Васіль

Каця, зноў?!
Так, змайстраваў ракету!

Каця

Альфа-бэта?
А ці няпраўда?..

Васіль

Праўда. «Альфа-100»!
Не, нумар 101.

Каця

І зноў палезеш
Ты на канфлікты?.. Зноўку кош гузоў?

Васіль

Гузы мне, Каця, вельмі даспадобы,
Каб толькі справа рухалася лепш...
Што за жыццё, калі спакой навокал,
Ні парыванняў, ні табе праблем.

Каця

Што ж ты цяпер надумаў?

Васіль

*(разгортвае чарцёж)*
Вось, дзівіся!..
Мінуючы рэзервуарны парк,
Жыўленне сыравінаю прамое!..

Каця

Так, прапанова...

Васіль

Тут выгода — во!..
Ачышчаная, цёпленькая нафта
На ўстаноўку прама пабяжыць.
Скарочваецца цыкл тэхналагічны,
І вызвален...

Каця

Рэзервуарны парк.

Васіль

І людзі.

Валерый

*(уваходзячы)*
Во, усе знаёмыя асобы!

Васіль

Ну, як цяпер?

Валерый

Усё ідзе як след!

А гэта што за лозунг?..

*(чухае патыліцу)*

Зразумела...

Нарэшце нафтабудаўскі тэатр
Парадуе прэм'ерай Беражкова!

Каця

Здагадлівы, Валерый, ты, аднак.
Прэм'ера, толькі іншая.

Валерый

*(разглядае чарцёж)*

Жыўленне...

Мінуючы рэзервуарны парк?..
Сябры!.. Дык гэта ж здорава!

Васіль

Каб толькі

Усё ад цябе залежала, Валер...
Галоўнае — падтрымкі я чакаю...

Валерый

Што ж ты надумаў?.. Чэсна.

Васіль

Я?..

Валерый

Але.

Васіль

Новаўвядзенне гэта — перспектыва.
І я змагацца буду за яго,
Бо толькі адступлю — сабе ніколі
Такога не дарую...

Каця

Зноў гузы!..

Васіль

Праз дзве гадзіны будзе пасяджэнне.
Там і паглядзім.

Каця

Хлопцы, мне пара!

Да вечара, Васіль. Трымайся неяк.

Васіль

Трымаюся!.. І ўсё ж іду на «вы»!

## 3

Прасторны кабінет галоўнага інжынера завода Міхася Іванавіча Бугрова. Пачатак нарады. Старшы дыспетчар Віктар Ігнатавіч Жызнеўскі падымаецца, стукае алоўкам па стале, акідвае позіркам прысутных.

Жызнеўскі
Таварышы, увага!.. Пасяджэнне
Лічу адкрытым. Хто супроць?.. Няма...
І добра. Не дыскусіі разводзіць
Сабраліся ў Бугрова.

Васіль
А чаго ж?

Жызнеўскі
Нам трэба працаваць, а не праседжваць
Штаны... Прабачце... Правільна кажу,
Міхась Іваныч?

Бугроў
Наш дыспетчар добра
Хвіліны кожнай ведае цану...
Далей, Жызнеўскі!

Жызнеўскі
Мне, ў чым сутнасць справы,
Няма патрэбы болей паўтараць.
Прысутныя — пісьменныя ўсе людзі.
Нявартa, мне здаецца, гаварыць
І пра карыснасць прапановы... Толькі...

Лазерскі
*(ціха, Васілю)*
Насы не вешаць! Наша возьме верх.

Васіль
Каб чутае, ды Богу ў вушы...

Жызнеўскі
...Толькі...
Хаця яна карысная, ды нам...

Бугроў
*(з усмешкай)*
Прадукцыя патрэбна, не паперкі.

Жызнеўскі
Так... Новае жыўленне... Разам з ім
Мы зробім рэканструкцыю... Заводам
Перапрацоўваць нафты будзе больш,
Прадукцыі палепшым якасць значна...
На гэта нас нацэльваюць... Але
Займацца сёння гэтым пражэкцёрствам,

А потым мчаць за планам наўздагон?..
Прабачце, ды ніхто нам не дазволіць...
Хіба галоўны інжынер Бугроў?

Бугроў

Вядома, не!

Жызнеўскі

Дык што, ў такім выпадку
Мы прапанову ў прынцыпе ухвалім
Пакуль... А Беражкоў нас зразумее...
Паправачка на час...

Лазерскі

*(устае)*

Хвілінку мне...
Я супраць вось такой адтэрміноўкі.
Спатрэбіцца зусім не многа дзён,
Затое потым...

Бугроў

План зрываць не будзем!
Падумайце!..

Лазерскі

Я думаю, и вы —
Стэрэатыпна мысліце!..

Бугроў

*(рэзка)*

Ну, досыць!..

Лазерскі

Мы з гэтым разбяромся!

Бугроў

Будзе час...

Лазерскі

Мы сёння на галоўнай устаноўцы
Праблемамі заняты... Беражкоў
Там выступіў з карысным пачынаннем,
Каб паліва нам выпускаць як больш
Пры якасці выдатнай...

Бугроў

Беражкоў ваш...
Для аднаго ці не занадта ўсё ж?!

Васіль

Ад меншага мне сумна і трывожна.

Жызнеўскі

А план?!

Васіль

Але ж жыццё, жыццё, жыццё!..

Яно ствараць і думаць вымагае,
Мы ж зводкамі кіруемся... І ўсё!..
Я па-старому працаваць не буду.
Не хочаце — ў начальства працягну
Я гэтую гаворку...

Бугроў

Ну і шустры!..
Працягвай... Тваё права, Беражкоў.

Васіль

Так, права маю!.. Болей!.. А-ба-вя-зак!..

Бугроў

А толькі...

Лазерскі

Кропкі ўсё ж...

Васіль

Паставіць час!..

Васіль рашуча выходзіць з кабінета. Бугроў і Жызнеўскі пераглядваюцца. Лазерскі ўстае і таксама паспешліва ідзе да дзвярэй.

## 4

Вечар. Бераг ракі. За Дзвіной заліваецца салавей, Васіль і Каця сядзяць на вялізным валуне.

Каця

Як хораша!

Васіль

Так, хораша, Кацюша.

Каця

Хоць раніцу над стромай сустракай.

Васіль

Кацюша.

Каця

Я.

Васіль

А колькі год знаёмы
З табою?

Каця

Гэта лёгка палічыць.
Чатыры... Два ў брыгадзе працавала,
Два ў нафтавым вучыліся з табой.

Васіль

Я думаю, ці досыць столькі часу,

Каб зведаць чалавека да канца?

Каця

Не разумею.

Васіль

Я даўно збіраўся

Табе сказаць...

Каця

Навошта?.. Памаўчым...

Васіль

Не!.. Досыць беспрытульнымі бадзяцца.
Няхай жа будзе ўсё, як у людзей.

Каця

Як у людзей?

Васіль

Я на руках, Кацюша,
Цябе праз цэлы горад пранясу!
Няхай усе убачаць, як кахаю
Цябе...

Каця

Але ж наіўны ты, Васіль.
Як той карась-ідэаліст... Даволі,
«Я пранясу...», «цябе кахаю так...»

Васіль

Не разумею я цябе, Кацюша.

Каця

Ты ў паднябессі лётаеш, і ўсё!
А я... Я ж чалавек, Васіль. Уцяміў?
Жывы, звычайны, просты чалавек...

Васіль

Кацюша, пачакай!

Каця

*(гулліва)*
Фізкульт-прывецік!..

Васіль

Тады бывай...
*(Ідзе прэч.)*

Каця

*(сабе)*

Што?.. Што ж я нарабіла?..
А можа, плёткі, што з Марынай ён?
Мо наша спрэчка некаму патрэбна?
*(Крычыць наўздагон.)*
Васіль, даруй!.. Прашу цябе, даруй!..

## 5

Кабінет Астрэйкі. Акрамя Ягора Аляксандравіча прысутнічае Віктар Машкоў з нафтаперапрацоўчага завода. Рэзкі тэлефонны званок.

Астрэйка
*(у трубку)*
Я слухаю... А-а, гэта ты, вітанне!..
Табе заўсёды рады, Беражкоў...
Чаму не вельмі?.. Гэта, брат, часова...
Дык прыязджай і высветлім усё...
*(кладзе трубку)*

Віктар
*(запытальна)*
Васіль?

Астрэйка
Ён самы.

Віктар
Здарылася нешта?

Астрэйка
Напорыстаму цяжка у жыцці...
Пакуль яшчэ хапае раўнадушша.
Ты разумееш?..

Віктар
Так.

Астрэйка
Не, не кажы...
А вось табе б дарэчы умяшацца,
Дапамагчы, параіць, падтрымаць
Даўно была патрэба.

Віктар
*(вінавата)*
План, цякучка...

Астрэйка
Цякучка... Мне шкада цябе, Машкоў.
Галоўнае ў рабоце нашай — людзі.
А потым пасяджэнні...

Стук у дзверы.

Віктар
Гэта ён!

Астрэйка
Заходзь, Васіль... Чакаем... Калі ласка!

Уваходзіць Валерый.

Валерый

Я на хвілінку... Добры дзень!..

Віктар

*(здзіўлена)*

Вятрун?..

Астрэйка

Сядай, Валерый... Чым ты ўсхваляваны?

Валерый

З-за Васіля прыйшоў я. Кепска з ім.
Пасля нарады быццам падмянілі...
Разладзілася з Кацяй... Назусім
Збіраецца завод пакінуць...

Віктар

Клопат.

Валерый

Ну, я пабег...

Стук у дзверы.

Астрэйка

Ён.

Уваходзіць Бугроў.

Гэта вы, Бугроў?

Бугроў

Вось зазірнуў, каб развітацца... Еду...
Мне з іншага завода пачынаць,
Бо тут, здаецца, збіўся я з арбіты,
Не ўзважыў сілы... Пры сваіх гадах
Старым сябе адчуў.

Астрэйка

Заўважыў трапна!
Ты па паперцы працаваў.

Бугроў

Так. Так.

Астрэйка

Далей яе жыцця не мог разгледзець.
Састарыўся душой.

Бугроў

Я зразумеў...
Хаця асэнсаваць было нялёгка,
Што адбылося... План жа я даваў.
І ў перадавіках хадзіў нямала...

Астрэйка

Так, ты адукаваны інжынер.

Ды мала сёння толькі план ды якасць —
Работай трэба дыхаць, трэба жыць!
Каб творчасцю была яна высокай.
Не сёння бачыць — бачыць за вярсту!..
Глядзець у заўтра... Так, як беражкоўцы.

Бугроў
Прайшлі ваганняў-разважанняў дні,
Пакуль рашыў узняцца над сабою
І выпраміцца. На жыццё зірнуць
Па-іншаму.

Астрэйка
Усё зразумеў дакладна...
Цяпер ты пойдзеш прама. Веру я...
*(Выглядвае ў акно.)*
Дарэчы, вунь і Беражкоў прастуе.
З ім хочаш развітацца?

Бугроў
З ім — пазней...
Бывайце!

Астрэйка
Раз бывайце, дык бывайце!..
А ты сабе, Астрэйка, разважай:
Прагледзелі — і чалавек звіхнуўся,
Хаця і перспектыўны інжынер.

Віктар
Не згублены ён. Можна ў гэта верыць.
Вір першай славы голаў закружыў.
І паімчаўся ён па лёгкай плыні.

Астрэйка
Мы малабаяздольныя былі...

Уваходзіць Васіль.

Прыйшоў нарэшце. Ну, сядай, выкладвай.
Я слухаю уважліва, Васіль.

Васіль
Збяруся з думкай.

Астрэйка
Можна і сабрацца...

Васіль
Калі на практыцы ў Уфе былі...
Прамое прымяняецца жыўленне
Там з поспехам...

Астрэйка

Ты ладам, спакайней.

Васіль

Новаўвядзенне гэта неабходна!
Я ўсё праверыў, падлічыў, узважыў,
Адкладваць — значыць не лічыцца з часам.

Астрэйка

Мне радасна, што ўсе мы лічым так.

Васіль

Як лічыце?.. Дык вам усё вядома?..
Пра пасяджэнне тое...

Астрэйка

Так, Васіль.
Мы вывучылі да драбніц пытанне
І кропкі парасставілі.

Васіль

Няўжо?

Астрэйка

«Няўжо», «няўжо»... Твая бяда у гэтым?

Васіль

Такога павароту не чакаў.
Не ведаеце, думаў.

Астрэйка

*(буркатліва)*

Думаў, думаў...
І памыліўся.

Васіль

Проста маху даў.

Астрэйка

Скажы, яшчэ што каменем пудовым
Ляжыць на сэрцы... Так, кажы, кажы...

Васіль

Я лепш пісьмо вам напішу сягоння.

Астрэйка

*(здзіўлена)*

Пісьмо?..

Васіль

Пра асабістае.

Астрэйка

Скажы!

Віктар

*(выходзіць)*

Я лепей пачакаю у прыёмнай.

Астрэйка

Ну?..

Васіль

Я вас на вяселле запрашаў...

Астрэйка

І перадумаў?

Васіль

Так... Не быць вяселлю!
Я горад пакідаю і завод.

Астрэйка

Гаворыш глупства.

Васіль

Так яно і будзе...
Адсюль паеду я...

Астрэйка

Калі пушчу.
А я дазволу даць табе такога
Ніколі не змагу... Ты зразумеў?
Дык, значыць, да сустрэчы на вяселлі?

Васіль

Яго не будзе!..

Астрэйка

Будзе!.. Я кажу.

## 6

Апаратарная галоўнай тэхналагічнай устаноўкі. Ля пульта кіравання шчыруе Валерый. Уваходзіць Віктар.

Валерый

Вітанне клапатліваму начальству!
Ты, Віктар, рэдкі госць у нас. Сядай.

Віктар

За крытыку удзячлівы. Запомню...
Дзе Беражкоў?..

Валерый

На вахце Беражкоў.
У Лазерскага ці на устаноўцы.
Сам разумееш — клопатаў дай бог!

Віктар

Ты не фінці, Валерка. Толькі шчыра!

Валерый

Я адказаў.

Віктар

Няма яго. Ня-ма!
Ёсць у мяне сур'ёзная размова.
Ён мне патрэбны.

Валерый

Для спагнання?

Віктар

Не.

Валерый

Выконваеш Жызнеўскага заданне?
Яшчэ каго, хто пажадаў сказаць
На вуха Беражкову спачуванне?

Віктар

Астрэйка папрасіў.

Валерый

Ты ад яго?..

Віктар

Не думай — прапанова Беражкова
Ў паперы, папяровая, вісіць.
Начальства занялося...
Неўзабаве
Прымаецца.

Валерый

Ты з гэтым і прыйшоў?

Віктар

Дык дзе Васіль?.. Вагаешся?.. Дарэмна!
Упусцім час.

Валерый

Ён, можа, на вакзал...
Паехаў...

Віктар

Эх, ты, «можа», «можа»...
А сябрам называешся...
Лячу
Я неадкладна на вакзал.

Валерый

Спяшайся!..
*(ціха, сабе)*
Васіль!.. Васіль!.. Ці вернешся назад?!

## 7

Вакзальная гамана. Цяжка дыхае цягнік. Голас дыктара: «...Цягнік адыходзіць праз пяць хвілін...»
Адзінока стаіць Васіль. Да яго падбягае Віктар.

Віктар
Як добра, што застаў цябе!.. Як добра!..
Пашчасціла...

Васіль
Праводзіш хоць адзін...
Адзін з усіх...

Віктар
Праводзіш?.. Ты навошта
Збіраешся паехаць?

Васіль
Мне рашаць...
Там ёсць завод таксама.

Віктар
Пачакай жа,
Завод там ёсць. А права маеш ты
Пакінуць горад гэты, ўсё пакінуць...
Тут так багата звязана з табой.

Васіль
Я вырашыў паехаць канчаткова.

Віктар
Ён вырашыў!.. А мы, твае сябры?
Валерка, скажам, я... Нарэшце, Каця?..

Васіль
Што Каця?

Віктар
Каця згоды не дае.
Яна ж цябе кахае...
*(Кладзе руку на плячо сябра.)*
Вася, Вася...

Васіль
*(з усмешкай)*
Га, паварот мне даўшы ад варот!

Віктар
Блазенства ўсё... Гарачыя галовы...
Яна цябе кахае... Мне павер...
Пакутуе твая дзяўчына горка.
Наплёў ёй нехта пра цябе...

Васіль
Мяне?..

Віктар

Таму і гаварыла вельмі рэзка...
Але ж яна кахае...

Васіль

Каця?

Віктар

Так...

Вярнуць цябе прасіла...

Васіль

*(рэзка)*

Немагчыма...

*(Разгублена.)*

Дык што ж рабіць?

Віктар

Ты вырашай хутчэй.

Чакае нас заводская машына...
Дык выбірай жа свой жыццёвы лёс!

Віктар выходзіць. Васіль нервова перамінаецца, потым спяшаецца следам за ім.

## 8

Светлая зала Палаца культуры нафтавікоў. Збоку — святочны стол. Танцуюць пары.

Віктар

*(пляскае ў далоні)*

Увагі папрашу, сябры, увагі!..
Нявыбраны вам хоча тамада
Напомніць, што сабраліся мы ў зале
Не толькі каб спяваць і танцаваць.

Валерый

Піць мёд тваімі б вуснамі.

Віктар

*(Валерыю)*

Між іншым,

Табе б сабраным трэба быць, Валер,
Бо, як не маракуй, а давядзецца
Каханую павесці пад вянец
І развітацца з халасцяцкай звычкай
Перабіваць старэйшых...

Валерый

Я маўчу!

Віктар

Яшчэ раз да стала вас запрашаю...
Усіх прашу я!.. Каця і Васіль,
Сюды, у цэнтр!.. Сядайце, калі ласка!

Валерый

Хоць тост скажы.

Віктар

За новую сям'ю!..
За слаўнае сямейства Беражковых!
Хто супраць?

Валерый

Горка!..

Яніна

А падсаладзіць?!
Прыгожа як!.. Глядзець — не наглядзецца
На вас, шчаслівых, светлых, маладых.
Прыгадваю: дзе наш сягоння горад,—
Стаялі вёскі: Плаксы, Слабада...
Любіліся вы хораша і слаўна,
Таму хачу вам, дзеці, пажадаць:
Каб жылося — не журылася,
Каб пілося — не цадзілася,
Каб пладзілася — не зводзілася!..

Каця

*(засаромеўшыся)*
Вы што...

Віктар

Удакладню, каб прыбывала
Штогодна папаўненне на завод.

Валерый

З наяўнымі спраўляешся не вельмі,
Глядзі, забалатуе маладосць.
Яна цяпер зубастая...

Васіль

Ну, годзе...
*(Астрэйку)*
Вам асабліва ўдзячны, што прыйшлі...

Віктар

А зараз патанцуем!.. Усе танцуюць!..

Васіль

*(Астрэйку)*

Адыдзем да акна...
*(Адыходзяць убок.)*
Вось тут зручней.

Астрэйка
*(углядаецца ў акно)*
Наш горад бачны...
*(Васілю)*
За цябе я рады.

Васіль
Ды не без вас усё. Дапамаглі...

Падыходзіць Бугроў.

Бугроў
Прабачце мне...
*(Васілю)*
Ці можна на хвілінку?..
На нейкую хвілінку?..

Астрэйка
Пэўна... Што ж...

Бугроў
Я еду на другі завод... Прыйшоў вось
Час развітацца... Шчасця пажадаць...
Каб крочылася па жыцці удала...
Без тых памылак, што я нарабіў...

Васіль
Удзячны...

Бугроў
Ты цудоўную дзяўчыну
Узяў. Шануй.

Каця
Прабачце... Вось дзе ты?!
Вяселле ж у жыцці не кожны год...
Я мужа забіраю...

Васіль
Я іду.

Бугроў
Прыслухайся, а што параіць жонка.

Каця
Танцуем, муж?

Васіль
Танцуем.

Каця
*(Астрэйку)*
Ой, а вы?..

Астрэйка

Я... зараз...
*(Падыходзіць да Яніны.)*
Калі ласка!

Яніна

Калі ласка!..

Віктар

Танцуе ўся рабочая сям'я!..

## 9

Апаратарная галаўной тэхналагічнай устаноўкі. На вахце — Васіль і Валерый. Васіль занатоўвае штосьці ў вахценны журнал, Валерый сочыць за паказаннямі прыбораў.

Васіль

А ты хацеў здавацца, красулевіч?!
Вось бачыш — наша праўда ўзяла...
Наогул вышыні такой не знойдзеш,
Якую б не адолеў чалавек.

Валерый

Не рана кажаш — гоп?!

Васіль

Не, я не вельмі
Люблю дачасна вывады рабіць.
Выяўна ўява стала явай.

Валерый

Рана
Абагульняць.

Васіль

Перастрахоўшчык ты.

Валерый

Я ад цябе заўжды глядзець у корань
Вучыўся.

Васіль

Толькі не перахвалі.

Звоніць тэлефон. Васіль здымае трубку.

Я слухаю... Так, Бяражкоў... Жызнеўскі?!
Галоўнаму дыспетчару — фізкульт!

Жызнеўскі

Як вахта?.. Адчуванне?..

Васіль

Усё нармальна.

Жызнеўскі

Цяжар на плечы ты ўзваліў, Васіль.
Не цісне да зямлі?

Васіль

Цяжар прыемны.
Лягчэй да мэты іншым шлях прайсці.
Спраўлялі наваселле?

Жызнеўскі

Наваселле?..
Пры чым тут наваселле?

Васіль

А пры тым,
Што клопаты прыемныя.

Жызнеўскі

Хітруеш?
Аднак ты дыпламат. І малайцом!
І на правах старэйшага хачу я
Цябе павіншаваць — выдатны ход!
Рэкорд за змену!.. Якасць — на «выдатна»!
Хай твой пачын без перашкод ідзе!

Васіль

*(Валерыю)*
Мы выйгралі, Валерка... Толькі гэта
Яшчэ пачатак... Самы першы крок...
Але запомні гэты дзень, Валерка,—
Сапраўдны подзвіг здзейснілі з табой!

## 10

Заводская пляцоўка. Выходзяць Васіль і Сяргей Міхайлавіч Лазерскі.

Лазерскі

З табой не пагадзіцца не магу я —
Нафтаперапрацоўчы — першы крок.
Так, першы крок да комплексу буйнога!
Вяршкі здымаем з нафты мы, а там
І хімія сказаць павінна слова.
Там тваё месца...

Васіль

На хімкамбінат?

Лазерскі

Спачатку прымеш устаноўку. Потым
Закончыш інстытут... І веру я,
Вышэй сягнеш.

Васіль

Але ж...

Лазерскі

«Але» не трэба.

Так думаю не толькі я адзін —
Тваё начальства прозвішча назвала.

Васіль

Тады я з прапановай.

Лазерскі

Што ж, давай!

Васіль

Ці можна ўладкаваць са мною разам
Адну жанчыну... Вы ж галоўны?.. А-а?..

Лазерскі

Ты ўсё пра Кацю?

Васіль

Так.

Лазерскі

Уладкавалі.

Дынастыі нафтавікоў — прастор!

Васіль

Дык, значыць, можна?

Лазерскі

Можна?.. Неабходна!

Час не чакае.

Васіль

Час дыктуе нам

І працаваць, і жыць не як учора.

Лазерскі

Ну што ж, тады, Васіль, у добры шлях!

Васіль

Я веру, будзе шлях наш вельмі добры —
Ёсць на каго раўняцца у жыцці!

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### ЗОРНЫ ЧАС

#### 1

Гарадскі Музей працоўнай славы. На сценах фотакарткі першабудаўнікоў. Тут Лазерскі, Астрэйка, Васіль, Шменгель, перакладчыца Крысціна.

Лазерскі
Такі вось наш Музей працоўнай славы.
Прашу далей.
Шменгель
*(затрымліваецца ля партрэта)*
Астрэйка гэта?
Лазерскі
Так...
Наш кіраўнік калісьці быў прарабам.
Падмурак першы ён закладваў тут,
Узводзіў карпусы нафтазавода.
Астрэйка
*(сумеўшыся)*
Занадта... Вы занадта пра мяне...
Ці ж я адзін закладваў і ўзводзіў?
А вунь і сам герой наш — Беражкоў!
Васіль
Мы што... Рабілі...
Лазерскі
Гэта і даводжу.
Астрэйка з ціхіх школьнікаў зрабіў
Будаўнікоў, гаспадароў завода.
Наш гонар — малады рабочы клас.
Астрэйка
Гаспадароў завода падымалі.
Лазерскі
Зноў не без вас... І зноў жа не без вас.
Астрэйка
Ну, до... А то нямецкія калегі
Падумаюць — прывезлі у Музей,
Каб пахваліцца.
Шменгель
Што вы. Што вы. Што вы.
Усё ясна. Не патрэбен пераклад.

К р ы с ц і н а

Гут. Зразумела ўсё.

Ш м е н г е л ь

І добра. Добра.
Далей, Сяргей Міхайлавіч. Далей.

Л а з е р с к і

Вось выхаванцам нашага Астрэйкі
І выпала з нямецкімі сябрамі
Узвесці карпусы хімкамбіната,
Пабудаваць славуты «Палімір».

Ш м е н г е л ь

Я многа сустракаў траншэй, варонак
На вашай слаўнай і святой зямлі.
Яны — сляды былой вайны крывавай.
А збудаваны вамі «Палімір» —
Выдатны помнік міру і прагрэсу.
Імя ў яго выдатнае.

А с т р э й к а

Імя
Адпавядае цалкам духу часу.

Ш м е н г е л ь

О так!.. Дух міру — вельмі добры дух.

А с т р э й к а

Нам гэта зразумела як нікому...
Чым адыходзім ад вайны далей,
Тым больш усведамляем, што за шчасце,
Калі на свеце уладарыць мір.

Ш м е н г е л ь

Калі пра «Палімір» гаворым з вамі,
Таксама шчасця большага няма...

К р ы с ц і н а

Васіль, вы прачытаць мне абяцалі
Верш пра цудоўны горад ваш, пра край.

В а с і л ь

Раз абяцаў, то раскажу, Крысціна.
Верш гэты называецца «Глушцы».

К р ы с ц і н а

Глушцы?.. То — глухары?.. Я зразумела?
А аўтар?..

В а с і л ь

*(сумеўшыся)*
Мой... знаёмы напісаў...
*(Засяроджваецца, дэкламуе.)*
Прыляцелі, сабраліся дзівакі,

Дзе было такавішча, на ўзбярэжжы ракі,
І зайшліся, прымружыўшы вочы,
На гудроне цэнтральнай плошчы.
Ім здалося, што пахне жывіцай узлессе,
Набрынялай вясновай зямлёю.
Бесклапотна мырмочуць глухаватыя песні
Пад старой, заімшэлай хвояй.
Ды нядоўгім было такавішча глушцоў —
Раскалоў першы промень морак,
І пабачылі птушкі — з усіх бакоў,
Нібы воблачка, белы горад.

Крысціна
*(пляскае ў далоні)*
Як здорава!.. Як трапна!.. Зразумела!..

Васіль
Я вельмі-вельмі рады...

Крысціна
Вы хлапцу
Скажыце, каб заўжды пісаў сардэчна,
Як гэты верш.

Васіль
Да слова перадам...

Крысціна
Вы нечым заклапочаны, здаецца?..
Спяшаецеся некуды?

Васіль
Не... Я...
Даўно хачу спытаць у вас, Крысціна,
Хто той, у акулярах, чалавек?
Той, што пра «Палімір» казаў узнёсла?..

Крысціна
О Ганс!.. Вядомы наш спецыяліст!..
Ганс Шменгель...

Васіль
Мне, Крысціна, ўсё здаецца,
Што недзе сустракаліся мы з ім...

Крысціна
Магчыма... Так... У Мінску ён вучыўся.

Васіль
Не... Гэта ўсё ж раней было,
Ў вайну...

Крысціна
Магчыма... У антыфашысцкім руху
Прымаў удзел Ганс Шменгель у вайну.

Васіль
Тады...' Я ўсё прыгадваю... Канечне...
Сустрэцца трэба неадкладна з ім...

## 2

Вытворчая пляцоўка. Высозныя ажурныя збудаванні. Выходзяць Васіль і Лазерскі.

Лазерскі
Я думаю, Васіль, што пераконваць
Узводзіць гэты комплекс як хутчэй
Цябе не трэба.
Васіль
Згодзен, што не трэба.
Усё вельмі ясна. Ды патрэбен час —
«Касметыку» навесці на пляцоўцы
Ды агрэгаты ўсе апрабаваць.
Лазерскі
Так. Час імчыць, што нават азірнуцца
Няма калі. Ды ў шапку мы не спім.
Прыспешваем хаду, каб у абозе
Не апынуцца. Нельга мне адстаць.
Васіль
Мы тыднямі цяпер жывём, гадамі...
А дзень мільгнуў іскрынкай — і няма.
Лазерскі
Васіль, ■ праз гады ты уяўляеш,
Як сённяшнія клопаты мінуць,
Пра свой хімкамбінат мы прачытаем:
«Маланкі» абвясцілі: калектыў
Стотысячны рубеж узяў сягоння
Па выпрацоўцы валакна «нітрон».
На ганаровай вахце — ветэраны.
Кіруе імі Беражкоў Васіль.
Цікава, што і выпуск першай тоны
Таксама забяспечваў Беражкоў».
Гучыць?
Васіль
Гучыць. Ды толькі перспектыва
Далёкая занадта. Сёння...

Лазерскі

Вам

Загадваю...

Васіль

Апрабаванне скончыць.

Лазерскі

Выдатна. І з «касметыкай» турбуй
Будаўнікоў.

Васіль

Я турбаваць — турбую,
Ды толькі вось аддача — з гулькін нос.

Лазерскі

Бурчэць не трэба. Сам жа з іх пароды.

Васіль

О не!.. Мы варушыліся жывей.

Лазерскі

А ці заўсёды?

Васіль

Не скажу заўсёды,
А што жывей — сячыце галаву!

Выходзіць Ганс Шменгель.

Лазерскі

Калега наш, Васіль, таварыш Шменгель.

Шменгель

Аб нечым разважаеце?

Васіль

Аб тым,
Які хімкамбінат прыдзвінскі будзе
Гадкоў праз пяць...

Шменгель

Няцяжка адказаць.
Вось трыццаць пяць гадоў калі адкінуць,
Тады была задача.

Васіль

Трыццаць пяць?..
Тады сёй-той пра «а» і «б» не ведаў.

Шменгель

Сёй-той не ведаў. Ведаў наш Васіль.

Лазерскі

А вам адкуль пра гэта ўсё вядома?

Шменгель

Мне? Мне вядома.

*(Васілю)*

Ці не так, Васіль?

Васіль

Так.

Шменгель

Так, Сяргей Міхайлавіч.

Лазерскі

Дзівосы!

Як гэта, раскажыце, разумець?

Шменгель

Са стажам наша дружба з Беражковым.
Выток яе...

Васіль

Сорак чацвёрты год,
Калі вайна касцямі грукацела...

Лазерскі

Загадкі... Раскажыце, Ганс, Васіль?

Васіль

Як толькі-толькі вызвалілі Полацк,
Быў сярод нашых воінаў і Ганс.
Ваенны перакладчык...

Лазерскі

А да нашых
Як трапіў Ганс?

Васіль

У Шменгеля бацькі
Былі антыфашысты.

Шменгель

Іх гестапа
Закатавала.

Лазерскі

А далей, далей?..

Васіль

Таму з сорак чацвёртага і дружба
Выток бярэ.

Шменгель

Са школы на плытах...
Плытоў ганялі па Дзвіне вясною
Ў той час цяжкі!..

Васіль

Рудстойку. У Данбас.

Лазерскі

А школа на плытах?

Васіль

Была такая.

Пра «а» і «б» ў ёй выкладаў мне Ганс.
Стаяла часць яго непадалёку,
Дзе з маці ў леспрамгаснай хаце жыў.
Прыходзіў Ганс дакладна і на строме
Пытаўся строга:
— Адкажы цяпер,
На «а» якія словы ўспомніць можаш?
— «А»?.. Армія, артылерыст,— кажу.
— Цяпер на «б».
— Бінокль, бой, блакада...
— На «в»...
— Вайна і вораг.
— Добра. Пяць!

Шменгель

Да слова «палімір» мы з Беражковым,
Наколькі помню, так і не дайшлі.

Лазерскі

Цяпер затое поўная магчымасць
Прапушчанае наганяць.

Шменгель

О так.

Лазерскі

Тым больш вы так упэўнены абодва,
Што тэрмін пуску адмяняць не след.

Шменгель

Упэўненасць была заўсёды сілай,
Калі не самаўпеўненасць яна.

Васіль

Я з Гансам цалкам згодны... Зараз мушу
Напомніць, што чакаю ў госці вас...

Лазерскі

Жывуць жа людзі.

Шменгель

Не жывуць — гасцююць!

Васіль

Да вечара!.. Дачушцы сёння — пяць!..

## 3

Кватэра Беражковых. За гасцінным сталом — Васіль, Шменгель, Каця. З цацачным «лунаходам» забаўляецца дачка Беражковых — Таня.

Каця
Вам, можа, болей дранікаў падкласці,
Таварыш Ганс?
Шменгель
Не. Дастаткова мне.
Васіль
А ты мяне, Кацюша, не шкадуеш.
Адмовіцца ад бульбы не магу.
Шменгель
У нас таксама паважаюць бульбу.
І тут яна дарэчы на стале.
Каця
Таццянка наша ў гэтым сэнсе ў бацьку.
Гатова бульбе песні прысвячаць.
Таццянка, праспявай для дзядзі Ганса!
Васіль
Дачушка, не саромейся, спявай!
Таня
Ну, слухайце. Каб толькі без усмешак.
І доўга-доўга хлопайце ў адказ!
*(спявае)*
Гарні, гарні бульбу з печы
У торбачку ды на плечы,
У торбачку ды нясі,—
Скажаш дзякуй, як з'ясі...
Шменгель
*(пляскае ў далоні)*
Цудоўна!.. Ты цудоўна праспявала.
Сапраўднаю артысткаю расцеш.
Таня
Артысткай не хачу, на змену тату,
Як падрасту — пайду на камбінат.
Каця
Як толькі падрасцеш, вядома, пойдзеш,
Як тата...
Шменгель
Ты задумаўся? Аб чым?

Васіль
Згадаў пасляваеннае маленства...
Я не забуду той далёкі год.
Шменгель
Ідуць, ідуць гады... І час няўмольна
Працуе на дабро.
Васіль
На нас... На нас...
Шменгель
Змянілася зямля непазнавальна.
Шчаслівыя, глядзім мы на дзяцей.
Не прыпадзе ім болей бачыць жахі
Вайны крывавай... Танечка, скажы,
Нам з тваім татам...
Каця
Не, скажы ўсім разам.
Шменгель
Такое слова, дзе ў пачатку «а».
Таня
Ат!.. То — атмасферная трубчатка.
Шменгель
На «б»...
Таня
Бетон, ды бітум, ды бензін...
Шменгель
Выдатна, Таня!.. А на... «к»?
Таня
«К»?.. Крэкінг!
Я правільна сказала?
Шменгель
Малайцом!
Каця
На «э» яна адкажа — экскаватар.
Таня
Не трэба, мама... Ведаю сама...
Васіль
Як бачыце, ўсе тэрміны выдатна
Адольвае старанная дачка.
Шменгель
Такі ўжо век. Такі ўжо век імклівы.
Таня
Дзядуля Ганс, пытайцеся далей!
Васіль
Дай адпачыць, Танюша, дзеду Гансу.

Таня
Тады я праспяваю.
Шменгель
Што ж, спявай...

## 4

Вытворчая пляцоўка. Шчаслівымі вачамі глядзіць Васіль на агромністыя карпусы, мудрагелістае перапляценне трубаправодаў. Усхваляваны і расчырванелы з бытоўкі выходзіць Віктар.

Віктар
Цудоўная! Цудоўная карціна!
Ўсё дзівішся на дзецішча сваё?
Васіль
Дзіўлюся, Віктар. Буду век дзівіцца,
Лавіць сябе на думцы — цуд які!
Ад радасці ажно займае сэрца...
Віктар
Так, радавацца ёсць чаму, Васіль,
Табе...
Васіль
Не падзяляю песімізму.
Віктар
Усё ў цябе як трэба. А ў мяне...
Васіль
Не пазнаю веселуна Машкова!
Ты ж быў нядаўна недасяжны бог,
Вясёлае начальства прафсаюза?
Наогул, Віктар, што ў цябе за тон?..
Віктар
Тон адпаведны кепскаму настрою.
Васіль
Што здарылася, Віктар? Раскажы!
Ў вачах тваіх разгубленасць і горыч.
Няўпэўненасць цябе сагнула...
Віктар
Я...
Не ведаю з чаго й пачаць гаворку...
Васіль
Пачні спачатку... Здарылася што?..
Ніяк не зразумею...

Віктар

I не дзіўна.

Сябе і сам не мог я зразумець.
Аднак пасля сустрэчы у Астрэйкі,
Калі з Бугровым пасварыўся ты...

Васіль

Я не сварыўся. Я адстойваў праўду,
А ты ў той сітуацыі змаўчаў.

Віктар

Не быў пераканаым, што твой метад
Палепшыць тэхналогію...

Васіль

Не!.. Быў,
Бо ведаў, што жыўленне установак,
Мінуючы рэзервуарны парк,
Прыменена даўно...

Віктар

*(пераміінаецца)*

Прызнацца, ведаў...
Я з практыкі яшчэ...

Васіль

І прамаўчаў.
Згубіць баяўся крэсла?..
*(Ківае галавой.)*

Віктар, Віктар...
А быў жа сябрам... Э-эх, Машкоў!..
Цяпер — намстаршыні мясцкома... Ладна,
Як склалася само — жыві сабе!

Віктар

Не трэба, я прашу цябе, так рэзка.
Мы ж разам гэты горад будавалі.

Васіль

Вучыцца жыць праўдзіва пачыналі...
І ўсім прыстасаванцам бой даваць!
Дык што тады сказаў табе Астрэйка?

Віктар

Галоўнае ў рабоце — ча-ла-век!

Васіль

Дакладна, вычарпальна ён заўважыў.
Чаму ж пра гэта ўспомніў ты цяпер?

Віктар

Таму, што зразумеў: мне больш няможна
З людзьмі...

Васіль

Чаму ж?..

Віктар

Не дадзена, відаць...
Бо знешні бок я ў кожнай справе бачу,
А ў сэрца зазірнуць...

Васіль

І што ж цяпер?
Калі паспавядаўся?..

Віктар

На вытворчасць
Мяне вазьмі. Ты ж ведаеш...

Васіль

Але...
Але ж задачку ты падкінуў, Віктар.
Не вырашыш адразу...
Што ж, давай!
Прыходзь, і неадкладна, на участак.

Віктар

А кіраўніцтва?

Васіль

На сябе бяру!

### 5

Тая ж вытворчая пляцоўка. Да Васіля шпарка падыходзіць Валерый.

Валерый

Мяне прасіла вельмі-вельмі Каця
Напомніць: трое сутак ты дамоў
З пляцоўкі не прыходзіш.

Васіль

Дык не з танцаў.
Ды і наогул...

Валерый

Добра. Я маўчу...
Па графіку ідзе апрабаванне.
Праз месяц-два — вытворчасць на рэжым
Выводзім.

Васіль

Раз і два. Занадта хутка
Усё робіцца ў жыцці ў цябе, Валер.

Валерый

Не, не скажы... Ты меней хваляваўся,
Калі чакалі першы свой бензін?!

Васіль

Не меней. Ды цяпер пра наваселле
Яшчэ зусім не варта гаварыць.

Валерый

Чаму ж не варта?

Васіль

Гаспадар руплівы
Парадак перад святам навядзе,
Падмажа ўсё, паставіць ладам-складам,
А потым — спешна, госцікі, за стол!

Валерый

Ды не, Васіль. Я сэрцам за парадак.
Я супраць прыбіральшчыкам служыць,
«Касметыку» наводзіць на пляцоўцы.

Васіль

Валерка, так не трэба, дарагі.
З табой гаспадарамі камбіната
Мы неўзабаве будзем. А цяпер
Турботы нафтабудаўцаў — і нашы
Турботы...

Валерый

Пагадзіцца не магу.
Выходзіць — нафтахімікі, за мётлы!
Са швабрамі хутчэй падлогі мыць!

Васіль

Навошта так, Валерка? Зараз ясна:
Без гэтай вось «касметыкі» — ні-ні
І думкі пра увод хімкамбіната.
Яе не можа быць, як без таго,
Каб здаць без ачышчальных збудаванняў.

Валерый

Пераканаў.

Васіль

Культура, брат, ва ўсім
Павінна быць сапраўднаю культурай.
Калі пераканаў — гані сюды
Вунь той бульдозер. Друз увесь прыгоніш
Да месца аднаго. Лады?

Валерый

Пайшоў.

Васіль

Ты хутка паварочвайся.

Валерый

Бурчэлкін!..
Няма калі ні жыць, ні адпачыць.
Спяшаемся усё...

Васіль

Гэта і завецца,
Валерка, імем сонечным — Жыццё.
Ты хутка?

Валерый

Я знікаю.
*(Крычыць.)*
Гэ-эй, бульдозер!
Сюды-ы!.. Сюды-ы!..

Васіль

*(ціха, сабе)*
Во дзіўны чалавек
«Няма калі...» У тым і асалода —
Сябе да кроплі справе аддаваць!

Валерый

*(паяўляецца радасны, акрылены)*
А вось і мы. Удвух з канём сталёвым.
Што пачынаць?

Васіль

Смялей!.. Давай! Давай!
Бяры ад сценкі.

Валерый

*(махае бульдазерысту, раптам крычыць)*
Вася!!! Небяспека!!!
Кладзіся на зямлю! Снарад! Снарад!..

Васіль

*(сабе)*
Я, можа, да ракі яго паспею...
*(выбягае)*

Валерый

Васіль, вярніся!

Васіль

Толькі б да ракі,
Каб карпусы ў паветра не ўзляцелі.
І пуску не бываць...
*(Васіль знікае. Чуецца выбух.)*

Валерый

Васіль, Васіль...

Абхапіўшы галаву рукамі, Валерый, быццам акамянелы, застаецца на пляцоўцы.

## 6

Бальнічная палата. Васіль сядзіць ля акна, гартае газеты. Уваходзяць Каця і Шменгель.

Каця
*(кідаецца да Васіля, абдымае яго, плача)*
Васіль, любімы... Не магу паверыць...
Шменгель
Трымаешся, таварыш Беражкоў?
Васіль
Ды вось...
Шменгель
Нібы гадзюкай ядавітай,
Стаілася ў зямлі вайна.
Васіль
Вайна...
Што здарыцца магло — нас абмінула.
Дарма не трэба, Каця, слёзы ліць.
Нам радавацца трэба.
Каця
Дзе тут радасць?
Танюшцы растлумачыць паспрабуй...
Васіль
Праз тыдзень-два сустрэнемся.
Каця
Праз тыдзень?
Танюшка дня не можа пачакаць.
Ёй татку пазаві сягоння, зараз.
Васіль
Ну, калі так, маглі б з сабой узяць.
Каця
А мы ўзялі.
Васіль
Дык дзе ж яна?

К а ц я

Чакае.

У калідоры.

В а с і л ь

Як? Зусім адна?

К а ц я

З Валерыем... Васіль, ты не хвалюйся.

В а с і л ь

Валерка тут?

К а ц я

Ён да цябе прыйшоў...
Нішто, гаворыць, больш нас не разлучыць.

В а с і л ь

Што ж ты стаіш? Пакліч сяброў хутчэй!

К а ц я

*(выходзячы)*

Я зараз...

Ш м е н г е л ь

Тыдзень-два чакаць замнога.
Нас тэрмін падцікае.

В а с і л ь

Я змагу...
Я папрашу Астрэйку. Ён павінен
Дапамагчы... Мне з вамі здаравей.

Ш м е н г е л ь

З Масквы вярнуўся толькі што Астрэйка...
З табой хацеў сустрэцца.

В а с і л ь

А калі?

Ш м е н г е л ь

Ды перад самым пускам.

В а с і л ь

Чакаюцца падзеі.

Ш м е н г е л ь

Так, Васіль.

Уваходзяць К а ц я, В а л е р ы й, Т а н я. Таня радасна абдымае бацьку.

В а с і л ь

*(расчулена)*

Дачушка!..

Т а н я

*(са слязамі на вачах)*

Тата!.. Татачка мой любы!

**Васіль**
Валерка, дружа.
**Валерый**
Шчасце, што жывы!
Мы так пахваляваліся.
**Васіль**
Ну, годзе.
Як бачыш, не здаюся.
**Таня**
А дамоў
Калі ты, татка, вернешся?
**Васіль**
Я... Днямі...
**Таня**
Няма мне з кім «у школу» пагуляць.
**Васіль**
А мама?
**Таня**
Маме ўсё шкада пяцёрак.
**Васіль**
Чацвёркі ставіць?.. Мама, пачакай!
Вось выпішуся...
*(Валерыю)*
Ад душы віншую,
Што паспяхова скончыў інстытут.
А як з Марынай?
**Валерый**
Мы ўжо муж і жонка.
**Васіль**
Віншую!
**Валерый**
У адведкі хоць прыйдзі.
Жартую... Запрашаю шчыра ў госці.
**Васіль**
Мне вельмі-вельмі радасна за вас.
**Валерый**
Ну, я пабег... З сям'ёй не пагаворыш...
А вось яшчэ прыйшоў таварыш Ганс.
**Васіль**
Ты Ганса ад маіх не адлучай.
Мае і Ганс — нібы адна сям'я.

## 7

Вытворчы корпус хімічнага камбіната. Ля пульта кіравання Лазерскі, Васіль, Шменгель.

Васіль

Цяпер прымружыць не паспееш вочы,
Як пойдзе першы поліэтылен.

Лазерскі

Аднак ты шустры, Бераэжкоў, занадта.
Глядзі мне...

Васіль

Ды не шустры я ні-ні.
Не памятаеце —
так было з бензінам.
Гады чакалі, а ён р-раз — і ёсць!
Прыйшоў тады механізатар Крэмень:
«Наліце, калі ласка, першаку!
На самым відным месцы уладкую
Бутэлечку. Ды буду ўсім гасцям
Паказваць. І расказваць, як нялёгка
Даваўся гэты першы наш бензін».
Далі. Куды ж падзенешся — так просіць...

Лазерскі

Працэс тут больш складаны.
Р-раз — і ёсць!..
Не, брат, не атрымаецца.

Васіль

Зняверца!
*(Шменгелю)*
Як разумець галоўнага настрой?

Шменгель

Мы вельмі хваляваліся таксама,
Пакуль да перамогі не прыйшлі
І гранулы ў далонях не трымалі.
Крычалі: «Брава — поліэтылен!»

Васіль

Цяпер мы ў гэтай справе разам, поруч.
А поруч — справа ладзіцца спарней.
Ці ж я кажу няпраўду?

Лазерскі

І спакойна
А то нібыта чайнік закіпеў...

Шменгель

Зблiжае сэрцы творчая работа...
Сябрамі людзі робяцца тады,
Калі на горную вяршыню ўзыдуць,
Трымаючыся за адзін канат.
Я гэтыя хачу аднесці словы
Да дружбы моцнай, як і сам народ...
Паказваюць народы нашы прыклад
Служэння на агульнае дабро.

Лазерскі

Ціск?.. Ціск, Васіль, трымайце пад кантролем!

Васіль

Нармальны ціск.

Шменгель

Нармальна... Ха-ра-шо!..

У цэх уваходзяць Валерый, Каця, Віктар. У прыгаршчах яны трымаюць поліэтылен. Неўзабаве ўваходзіць і Астрэйка.

Каця

Васіль!.. Васіль!.. Нарэшце!.. Перамога!..

Валерый

Ёсць!.. Ёсць!.. Ёсць!..

Віктар

Першы поліэтылен!

Васіль

З цудоўнай весткай вы, сябры... Кацюша.

Лазерскі

Віншую ўсіх!

Шменгель

Віншую ад душы!

Васіль

*(падстаўляе далоні)*
Дык сыпце мне!.. Паболей сыпце гранул!..
Я ўсім даваў бензіну-першаку!..
На самым відным месцы уладкую
Я гранулы. Ды буду ўсім гасцям
Паказваць. І расказваць, як нялёгка
Мы здабывалі поліэтылен...

Астрэйка

Валерый, Каця, Віктар, не шкадуйце,
Хай дзівіцца на гранулы Васіль.
Натхняецца. Яму праз тры хвіліны
На мітынгу ўрачыстым выступаць.

## 8

Вытворчы корпус паступова запаўняюць р а б о ч ы я. Тут амаль усе нашы героі.

Л а з е р с к і

*(Астрэйку)*
Народ, здаецца, ўвесь у поўным зборы.
Нам, пэўна, час і мітынг адкрываць?

А с т р э й к а

Яно і праўда. Больш цягнуць не варта.
Пачнём, пачнём...
*(Падымаецца на станок.)*
Таварышы!.. Сябры!..
Дзень сёння незвычайны ў нас, шчаслівы.
Ёсць беларускі поліэтылен!
І радасць наша удвая святлее
Пры думцы, што змаглі мы атрымаць
Такую перамогу з дапамогай
Сяброў нямецкіх... Слава ім, хвала!
Мы можам называць яго прадуктам
Інтэрнацыянальнай еднасці, сябры.
Мы можам плёнам непарушнай дружбы
Лічыць сягоння поліэтылен.
Няхай мацнее дружба і глыбее
На нашае агульнае дабро!..
А зараз... Зараз — слова ветэрану.
Давай, начальнік цэха Беражкоў!
Давай, Васіль Антонавіч!..

В а с і л ь

Я шчасны
Да слоў узнёслых і свае дадаць.
І сапраўды, сябры, шчасліва-светлы
І радасны сягоння дзень у нас.
І мы прайшлі нялёгкія дарогі
І ў працы нашу радасць здабылі.
Ды калі ўзяць метал, бетон і дружбу,
Мацней за дружбу на зямлі няма!
Я сёння не магу аб іншым думаць,
Як заўтра працаваць нам, як нам жыць.
Бо з наваселлем новыя турботы
Завітваюць у кожную сям'ю...
Дык вось мы працаваць і жыць павінны,
Каб сорам шчокі чырванню не пёк,

Каб творчыя адносіны да працы,
Сумленныя адносіны былі...
Мо памятаеце, у старой легендзе,
Калі у трох спыталі муляроў:
«Што робіш ты?»
«Штодня адно і тое ж:
Намазваю на цэглу гліну я»,—
Ім першы адказаў.
«Сцяну будую»,—
Пачулі ад другога ўсе адказ.
«Мы ўсе палац будуем самы светлы»,—
Ім шчасны трэці муляр адказаў.
Як трапна адказаў!.. Мы зараз з вамі
Узводзім светлы, велічны палац.
Хай сонечны ён будзе, самы светлы,
Бо нам у ім, палацы гэтым, жыць!..

Астрэйка

Таварыш Шменгель!.. Просім!.. Калі ласка!..

Шменгель

*(падымаецца на станок)*
Хвалююся, ды не магу маўчаць!..
Бо ваша радасць — гэта наша радасць!
Бо ваша песня — песня і мая.
Дарога ваша — нашая дарога.
А поспех? Поспех ваш таксама наш!
Няхай жа на дарозе нашай светлай
Заўсёды будуць поспех, песня, мір!
Фройндшафт!..

Каця

Васіль!

Васіль

Што, любая Кацюша?

Каця

Ты ж абяцаў мне...

Васіль

Што я абяцаў?

Каця

Сустрэцца ля Дзвіны, адкуль будоўля
Пачатак брала...

Васіль

Згода... Кліч усіх!

Каця

Валерка, Віктар... На Дзвіну!.. І хутка!..
Збірайцеся, першабудаўнікі!..

## 9

Каля бетоннай палаткі на беразе Дзвіны — помніка першабудаўнікам Нафтаграда — Васіль і Каця.

Васіль

Нафтаград — мой горад вясновы.
Маё шчасце.
Мая абнова,
Мой пачатак.
І першая песня
Тут народжаная на ўзлессі.
Туманом апавіты ранак
Сустракаў я ў абдымках каханай.
І гарачыя гронкі рабіны
На маіх праспектах адзіных.
Напалам тут апошні акраец,
Напалам — трохпудовы ранец.
Напалам і шчасце,
І гора.
Нафтаград — мой вясновы горад...
*(Задумліва.)*
Гады, як эшалоны, праляцелі
У асмужаную далячынь...

Каця

Але...
Няўжо шкадуеш ты, што праляцелі?
Замест палатак — горад!.. Любата!..

Васіль

Наш горад — людзям помнік!

Выходзяць Валерый, Віктар і Марына.

Каця

Нарэшце...

Васіль

Нашы!

Валерый

Мы ўзялі Марыну,
Каб потым не было ні кроплі крыўды.

Віктар

Дазвольце сход першабудаўнікоў
Лічыць адкрытым...

В а с і л ь

Стой!.. Не дазваляем!..
Ніхто цябе ў начальства не абраў,
Дык не спяшайся...

В і к т а р

Прыгадаў юнацтва...

В а л е р ы й

Калі з юнацтвам развітаўся, то
Тым больш пакіраваць табе тут некім,
Бо ўсе мы, Віктар, з юнаю душой...

Паспешліва выходзіць Я н і н а П л а к с а.

Я н і н а

Так, так... Валерый правільна гаворыць.
Жыве ў хаўрусе з намі ма-ла-досць!..

В а с і л ь

Адкуль, адкуль вы, цётачка Яніна!

Я н і н а

Я?.. З космасу!..
Ды з вамі ўсе гады,
Мае вы дзеткі... Маладзею з вамі.

К а ц я

Хоць клопатаў падкідваў вам сёй-той.
Было, Вятрун?

В а л е р ы й

Было.

Я н і н а

Ну што тут зробіш.

М а р ы н а

Было, але з вадзіцаю сплыло.

В а с і л ь

А помніце вы, цётачка Яніна,
Як некалі легенду пачалі
Расказваць нам. Пра дзіўны ход падземны.
Пра горад-казку?.. Лівень сцебануў,
І мы легенды так і недачулі.
Які ж, які працяг легенды той?

Я н і н а

Працяг легенды?..
*(Паказвае на горад.)*
Вось — працяг легенды!
Рукамі дапісалі вы яе.

Жыццём сваім. Працяг — у Нафтаградзе!
Ператварылі ў яву казку вы!..

З кайстрамі за плячыма выходзяць юнакі і дзяўчаты — новае папаўненне горада нафтахімікаў.

Дзяўчына
*(да Васіля)*
І вы сюды прыехалі, напэўна,
Каб горад сваёй мары збудаваць?

Васіль
Не... Я, лічыце, тут і нарадзіўся...

Хлопец
*(узрадавана)*
Вы, значыць, ветэран?

Васіль
*(з гонарам)*
Так, ветэран.

Дзяўчына
Ці не маглі б нам расказаць, хоць сцісла,
Як горад нараджаўся і завод?

Васіль
Няпроста гэта...

Дзяўчына
Вельмі, вельмі просім!

Васіль
*(апускаецца ля бетоннай палаткі-помніка на грудок)*
Раз просіце, то трэба расказаць...

Дзяўчына і Хлопец прысаджваюцца поруч.

Праменны красавік сагнаў ільдзінкі
З крыклівых баламутаў-раўчукоў.
З зялёнай малюпасенькай іскрынкі
Пажар вясновы разгараўся зноў.
А на цыбатых буславых нагах
Ішлі, глядзелі ўдаль тэадаліты.
Ад сонца звонкі, ранішні прасцяг
Пераліваўся ў лінзах аксамітам.
Ваколле разамлелае рачное
Прамацвалі настойліва геолагі.
Над ціхай, памяркоўнаю Дзвіною
Палатка зашасцела жорсткім полагам.
Па-маладому весела і ўпарта

З вясною прачыналася прырода.
Крутыя рыскі на паходных картах
Рабіліся абрысамі завода.
Дажджы сцябалі злосна парусіну,
Плыло цяпло з балацявін адталых,
Да родных рэк спяшаўся клін гусіны,
Рунела рунь на будучых кварталах.
Выходзілі сур'ёзныя з палатак
Прамёрзлыя да костачкі «фабзайцы».
Паміж сабою хлопцы і дзяўчаты
Дзялілі зачарсцвелыя акрайцы.
Дзяліўся тут пароўну кожны бохан,
Дзялілася на ўсіх пасылка кожная.
Дасвеццем ля палатак гулка вохкалі
Глушцы — іх такавішча патрывожылі.
І хлопец вастравокі, хударлявы,
Што на «каленцы» па-дзіцячы лоўкі,
Укладваў першы куб бетону славы
Пашчэрбленай, іржаваю рыдлёўкай.
А ўжо хлапцы з брыгады цесляроў
Сядзяць у іх, бетоншчыкаў, на шыі:
— Давайце фронт, таварышы, бо зноў
У сатырычным выпуску прашыем!..
І хлопец паглядзеў сябрам у вочы,
А сэрца поўніў шчасця горды спеў —
Упершыню адчуў сябе рабочым
«Фабзаяц» і пры ўсіх пачырванеў.
Пяршыць ад пылу. Стома вейкі зводзіць.
Выдатна хлопец вытрымаў экзамен —
У горадзе, якому жыць стагоддзі,
Яго рукой закладзен першы камень.
Сваю дарогу маладосць абрала.
Гарачая пульсуе ў жылах кроў —
Узгадаваць нам лёс паслаў нямала
Вялікіх і маленькіх гарадоў!

Зноў зацвіла вада ў балацявінах,
Зноў шэры дождж і дзень, і ноч імжыць.
У каралеўстве казачным, буслінным
Жыццё нам вызначала рубяжы.
Махорка, гразь, рыпенне жорсткіх ботаў,
Нямы, маўклівы чорнай ночы цень.
Тут з песняю — памочніцай ахвотнай —
Мы пачыналі свой працоўны дзень.

У дашчаціках чыталі чарцяжы,
У дашчаціках у калектыў прымалі.
Сэнс простага, як праўда, слова жыць
На рыштаваннях хісткіх мы спазналі.

А ён прыйшоў — асеннік азалелы.
Трубіла далеч журавам адлёт.
Мы па-юнацку горача, няўмела
Прыроду крута бралі ў абарот.
У халадэчу дзень ужо каторы
Вятры не мелі жалю, хрыплагорлыя.
На сон глядзелі нам у вочы зоры,
І ранкам уставалі мы пад зорамі.
Смяяліся зняверцы:
— А-а, рамантыкі!
Што, не ў дугу на палявых харчах?

Такім, каму гуляць карцела ў фанцікі,
Па-будаўнічы рэзалі з пляча:
— Вось там — рыдлёўка. Там — парог.
Хутчэй
Рашай! І цісні ў будаўнічы штаб!..

Сказаў — аж бліснуў полымем вачэй
Рашучы і разгневаны прараб.
Тады зняверца вочы апусціў.
Ён зразумеў: такое не даруюць.
Прарабу адвячоркам заявіў:
— Калі патрэбна — на перадавую!

Старэчым ротам шамкала дарога,
І чорным веццем голы лес круціў.
Тут толькі крок зрабі, і — перамога.
Крок, каб табе ў легенду увайсці.
Але нялёгка і хвіліны выстаяць —
Наперад не прабіцца, хоць зарэж.
І пакідаў у золь дзяцюк плячысты
Адказны і перадавы рубеж.
Бразь кельму ў каляіну:
— Ліха з ёю!..
Нафтазавод узводзяць хай другія!..

Так несумленна, не прыняўшы бою,
Здаваць рубеж наважыўся стыхіі.

І раптам:
— Стой!

Хтось выкрыкнуў аддана.
На покліч павярнулася брыгада
І паглядзела ў вочы ветэрану,
З якім дзяліла хлеб, махорку, радасць,
З якім глытала кіпецень уранні,
З якім магла на сцюжы ледзянець.
Таго, хто ненавідзеў патуранні,
Змагла цяпер, за хвілю, зразумець.
А ён ківаў з дакорам галавой:
— Ці ж так ісці да шчасця на зямлі?
Наперад, хто смялейшыя, за мной!..

І, як адзін, мы ўсе за ім пайшлі.
Грымелі да світання эшалоны
Па звонкіх затуманеных кірунках.
Былі мы рады першаму бетону,
Як першаму каханай пацалунку.
І хлопцы абдымаліся нялоўка.
Завод шумеў, нібы Дзвіны прыбой.
Паўзлі машыны цяжка на пляцоўку,
Якую звалі тут перадавой.
Перадавая траскуном сустрэла нас.
Вакол — сумётаў снегавыя гмахі.
А па-над экскаватарнымі стрэламі
Стаялі сосны ў шэрані па пахі.
Грызлі каўшы, нібы той камень, глебу,
Грызлі, і толькі іскры з-пад зубоў.
А час прыспешваў: трэба, трэба, трэба!
І зноў каўшы грызлі. І іскры — зноў.
І камякі маленькія, з гарошыну,
На кузавах грукочуць самазвалаў.
Мароз — мядзведзь з бярлогу патрывожаны:
Будоўля спаць дзядулю замінала.
Пайдзі ў абдымкі з ім слабы, нясмелы —
Застанешся пад гурбай снегавой.
Ідзе мароз, ад ветру захмялелы,
Пакрэктвае і круціць галавой.
Дашчацік-фарбацірка парай дыхае,
Там печ, як пераспелы памідор.
А за сцяною люлькаю папыхвае
І кашляе сівагаловы бор.

— Мо да вясны са штурмам пачакаць? —
Як здрада прашыпела прапанова.
І на дашчацік лозунг: «Не пішчаць!»
Сябрук наш у балотніках гумовых
Прынёс збялелы, голасу няма,
Яму б ля печы трохі адагрэцца,
А ён:
— Сябры, сумуеце дарма.
Сягоння ў графік увайшлі, здаецца...
Гудзе, гудзе зімовая дарога,
Імчыць машын замурзаных паток.
Вязуць «зубры» цыбатыя трыногі,
Бетон і цэглу, вапну і пясок.
Машыны снег рыпучы паласуюць,
Не аціхае ні на міг Прыдзвінне.

Мы не здалі сваю перадавую —
Нафтагігант выводзілі на фініш.

---

Вясновы крыгаход, што кананада,
Ляснога краю заціш раскалоў.
Бубнеў лятун:
— З такою вось брыгадай
Не зварыш кашы — наламаеш дроў...

Сядзелі хлопцы ў роспачы дэкадамі
(Ці ж безрабоцце доўгае прывабіць?),
А брыгадзір, як той уюн, з нарадамі
Круціўся у прарабцы ля прарабаў.
Абсмоктваў кожны цвік разоў па пяць,
І чулася хвала ў нядружным хоры:
— Наш брыгадзір!..
— Ён ведае, дзе ўзяць!..
— З такім арлом!..
— Звярнуць, што плюнуць, горы!..

Смалілі хлопцы доўга самасад,
Губілі марна час, умельства, веру.
Прыйшоў юнак кірпаты:
— Я да вас... Да вас...

І працягнуў лісток паперы.
— Глядзі!..

— Відаць, здалёк, гусак, прыплыў!..
— Адумаўся!..
— Калі тут пуск пад носам!..
— «Гаганавец»!..

А брыгадзір курыў
Узятую ў кагосьці папяросу.

— «Фабзаец» я. І па пуцёўцы ў Полацк.
Узводзіў горад, ды сюды хацеў...

На тварах хлопцаў, што гулі наўкола,
Разгубленасць ён прачытаць паспеў.
Устаў. У багне ногі патанулі:
— Апалубку паставіць хутка трэба,—
З бетоннага завода павярнулі
Сюды машыны з будаўнічым «хлебам»...
І цэлы дзень ішоў круты бетон,
І пыл хрумсцеў жарствою на зубах.
Зірнуў прараб:
— Ого-о, ўзялі разгон!
Падмурак вырас, быццам на дражджах!..
Быў перакур. Пакуль чакала кладка,
Сказалі навічку адкрыта, шчыра:
— Ты — малайчына!..
— Ведаеш што, братка?..
— Давай да нас!
— Да нас!
— У брыгадзіры!..

Да штурму ўсё прадумана да кроплі —
Намёртва лёг у «башмакі» бетон,
І з карпусамі Нафтаграда поплеч
Завод-гігант над стромаю відзён.
А ўсё было: прыгоды і нягоды,
Хапала бед і ўдач нам у жыцці
На старце беларускага завода,
Што вырастаў на багне і трысці.
Дзесяткі залпаў маразы давалі,
Гудзелі, прысядалі хмызнякі.
На працу нафтаволат благаслаўлялі
Тут хлопцы сціслым словам:
— На вякі!

І замярзаў бетон, як лёд на рэках,
Трас у сумётах не відаць было.
Бетону і таму, як чалавеку,
Патрэбна чалавечае цяпло.
Палілі хлопцы вогнішчы бясконца,
Адтайвалі падзолістую глебу.
Бездапаможнай, жоўтай плямай сонца
Ледзь да паўдня адагравала неба.
Мы да таго, як затрашчыць сушняк,
Ухутвалі па-гаспадарску лоўка
Прамерзлы і аснежаны «башмак»
З плячэй уласных скінутай спяцоўкай.
Было здалёку чутна:
— Майна!
— Віра!
У ранішняй абуджанай прасторы
Ў запэцканых вушанках брыгадзіры
Праклёны слалі лютаму надвор'ю.
Але ніхто не думаў пакідаць
Адказнай гэтай і нялёгкай вахты —
Хацелася ўсім хлопцам паспытаць
На Полаччыне пах гаркавы нафты.
Хацелася сустрэць, як песню, сёння,
Калі па рэйках мчаць ад нафтаволата
Праз сінія прасторы эшалоны
І песні над зямлёй вяруюць молада.

Каб здзейсніць дзіва-казку на зямлі,
Каб край Прыдзвінскі ціхі перайначыць,
З бацькоўскай загартоўкай мы ішлі
Наперад — не маглі рабіць інача,
Ішлі упарта — не чакае час —
Праз цяжкасці, што ў памяці не сцерці.
Прыйшлі таму, што саграваў нас
Пуцёўка вызначальная ля сэрца!

Над горадам, над Дзвіной палае праменнае сонца. Сонца шчасця і добрай надзеі.

## Замест эпілога

А над намі муры.
А над намі муры залатыя.
А пад намі — рака.
Быццам чыстая песня яна.
Гэта значыць, над намі —
Улюбёнка стагоддзяў — Сафія.
Гэта значыць, пад намі
Бяжыць і смяецца Дзвіна.

Бачыш?
Вунь, быццам пена, бялюткі пагорак.
Бачыш?
Гмахі нагадваюць стрэлы дзіцячых ракет.
Гэта — рупны завод.
Гэта — новы наш ранішні горад,
Тут твой бацька быў першы рабочы
І першы рабочы паэт.

Не мастак я да казак.
Ты ведаеш гэта даўно.
Расказаць пра заморскія цуды
Наўрад ці мне ўдасца,
Мне б, як горад,
Узвесці паэму адно,
Дзе ўсё —
Нібы ў жыцці,
І дзе ўсё —
Як у казцы.
...Я да кроплі апошняй
Улюбёны ў свой казачны горад.
І няхай на праспектах
Лютуе і стогне зіма,
Бачу горад вясновым.
Са мной ён, як сябра, гаворыць.
Усміхаецца шчасце маё рукатворнае
У сонечных светлых дамах.

Не шукаў я рамантыкі
У дзівосных краінах далёкіх.
Проста вельмі хацеў я спазнаць
Усе крутыя дарогі зямлі.
Мара, пэўна б, збылася,

Ды ў родным краі сінявокім
Над Дзвіной будаваць нафтаволат
Аднагодкі мае пачалі.

Мы былі верхалазы,
Былі землякопы і цеслі,
Нам мятлюгу і спёку,—
Усё давялося спазнаць.
І ў дарозе сяброўкай надзейнай
Была несмяротная песня,
Неадольная прага —
Горад мары сваёй збудаваць.

Я па звычцы старой
Кожны дзень, што быў шчасна пражыты,
Белым-белым каменьчыкам
У тэрмін заўжды адзначаў.
Сёння глянуў — Дзвіны берагі
У белым снезе нібыта.
Значыць, я недарэмна
Пакутваў, спяваў, працаваў!

Па начах
Доўга вокны гарэлі мае адзінока.
«Акадэмік» мянушку
Мне вясёлыя хлопцы далі.
Я над кнігамі чах,
Ну, а сэрца далёка-далёка
Мяне клікала ў шлях —
Сваё шчасце знайсці на зямлі.

Мы былі верхалазы, бетоншчыкі...
Так, мы жылі недарэмна.
Мы хацелі, каб кожнага мара збылася —
Дзіва-горад устаў.
Хлопцы так і не ведалі,
Што па начах я паэму,
Дзе ўсё —
Нібы ў жыцці,
І дзе ўсё —
Як у казцы,
Складаў.

# ШЛЯХ НА ГАЛГОФУ

*(Споведзь паломніка)*

## Скрыжалі

Жыцця непрадказальная дарога.
Яе ні прамільгнуць,
Ні перакрыць...
Усе з калыскі ходзім мы пад Богам,—
Прызванне —
Боскім словам лёс тварыць.

Мы чуем:
Не рабі сабе куміра!
Кумiраў робім...
Колькі іх было!
Але куміры адляцелі ў вырай —
Хвост выдраны,
Падрапана крыло.

Мы чуем:
Не кажы імя Гасподня
Дарэмна...
Толькі як людзей стрымаць?
П'янюга перакошаны у споднім
І ў Бога гне,
І ў Бога душу маць.

Мы чуем:
Бацьку ты шануй і маці,
Як наказаў Гасподзь табе,
Але
За дабрабыт і таннае багацце
Іх кідаем на выселках залець.

Не забівай,—
Мы чуем...
Ды падковы
У эскадронаў смерці зіхацяць...
І забіваюць куляй
Або словам,
І Каіны анёлкамі глядзяць.

Не блуднічай,—
Мы чуем...
Толькі шалі
Маралі
Чорны шашаль пакрамсаў.
Рагоча інтэрсучка над мараллю.
У вочы плюнь ёй —
Божая раса.

І не крадзі,—
Сцвярджаем днём і ноччу...
О Госпадзі,
Ты грэшнікам даруй,
Бо цягнуць прагна, колькі бачаць вочы,
У церам свой
Ці шэрую нару.

Не выкрыкні ілжывага даносу,—
Укленчваем...
І на табе —
Данос...
О колькі лёсаў азалела ў росах,
На ўсіх ці хопіць досвіткавых рос.

Не пажадай ні жонкі
І ні хаты
Раба твайго
Ці бліжняга твайго...
А як жа ў ранг элітных і багатых
Павымкнула былых зямных багоў?..

Тупыя учарашнія законнікі,
Што і караць
І літаваць маглі,
Адрынуўшы драпежны позірк,
Сёння
Прарокамі вяшчаюць на зямлі.

Хоць ім супрацiўляецца прырода,
Шле землятрус
Ці іншую бяду,
Яны свяшчэнным іменем народа
Народ у твань адвечную вядуць.

І зноўку,
Колькі сілы ёсць у целе,
Ідуць у наступ...
Як іх кліч суняць:
Усё мы ператрушчым і падзелім,
А потым — будзем новае ствараць.

Але ж было,
Ужо было такое,
Калі на гмахах певень сакатаў
І ботам у свяшчэнныя пакоі
Аслеплы невук дзверы выбіваў.

Ці не таму мы ўсе на дне цясніны,
Што хочам Богу жыць наперакор?..
І чорная халодная адрына
Чакае нас,
Нібы нямы дакор...

Не, перш
Чым далакопы уладкуюць
Мяне...
Паставяць кропку на жыцці,
Мне б
Сэрцам азірнуць зямлю святую,
Мне б
Сцежкамі Хрыстовымі прайсці.

Каб стаць відушчым хоць каму на радасць,
Каб чашу гора выкаўтаць да дна,
Каб зведаць мне,
Дзе крыўда,
А дзе праўда
Ды ісціна святая...

Ў чым яна?..

### I. Шалом, Ерусалім

Адораная пахамі усходнімі
Спіць Хайфа,
Быццам стомлены алім,
Але,

Нібы паломнікі з паходнямі,
Ідуць машыны у Ерусалім.

Міжземнамор'е крутабока хвалямі
Варочаецца ў прывідных агнях.
Там,
За гарамі,—
Стромістымі палямі,—
Прыпынак зробіць мой вандроўны шлях.

Я з хваляваннем да святога горада,
Нібы на споведзь чыстую, іду,
Каб не расстацца з гонарам
І гордасцю,
Да сэрца браць і радасць,
І бяду.

Там не хачу спыніцца сузіральнікам,
А выверыць сваё жыццё хачу,
На злосць бяздушна-ментарскім маўчальнікам
Душою боль усёй зямлі адчуць.

Дабром ашчодрыць думкі анямелыя,
Ашчодрыць песняй сціплую зямлю...
Ляцяць зіркаста аганькі сатлелыя,
Бы зерне пераспелае ў раллю...

Вось-вось сутонне млявае рассунецца,
Дзень возьме ноту,
Быццам арганіст...
І гоніць вецер па азяблай вуліцы
Апалы і пабранзавелы ліст.

Дасвецце неба шчодрыць фарбай сіняю,
Каб крэп начны да вечара сагнаць.
Над трапяткімі вечнымі святынямі,
Як вартавы —
Каменная сцяна.

Бярэцца сонца плошкай зыркай самаю,
Святло дае удзячнае усім...
Я прыпыніўся перад Яфскай брамаю:
«Паклон табе,
Святы Ерусалім!..»

## II. Гефсіманскі сад

Адрынуць часам хваляванні трэба,
Сустрэць у адзіноце зарапад...
Ляжыць карункам на паркалі неба
Бі́блейскі,
Ціхі Гефсіманскі сад.

З гор стромых патыхае вецер свежы,
Трапечацца над мірным дахам дым.
І немтурамі вартавымі вежы
Ахоўваюць святы Ерусалім.

Туды дарога праз паток Кедрона,
Да мураваных непрыступных сцен,
Дзе,
Нібы воі,
Рымскія калоны
Пабачылі зашмат крывавых сцэн.

Туды ісці за залатую браму
Праз вуліцы гандлярскай тлум і шум,
Душой імкнуцца да святога храма
І там ачысціць светлую душу.

Каб тую чысціню панесці людзям
І веру ім у існае вярнуць,
І калі з верай мы у сэрцы будзем,—
Ніякаму нас д'яблу не сагнуць.

Ніякаму хаўрусніку не струшчыць,
Аракулу не пахіснуць ніяк,
Як дуб стары у Белавежскай пушчы
Ці вывераны за гады маяк.

Хаця спакон вякоў вядома люду,
Што шчасце поруч крочыць ля бяды...

Раз ёсць Ісус,
То знойдзецца Іуда
І срэбранікі знойдуцца тады.

## III. Тайная вячэра

Сказаў Ісус:
— Я дзякую сябрам,—
Бадай, такое шчодрае застолле
Ужо не паднясе гаротным нам
Ўсявышні аніколі-аніколі.

Хлеб падзялю і акраплю віном.
Хлеб — мая плоць,
А кроў — віно крутое...
Частуйцеся...
Я ведаю адно —
Прадвызначэнне здзейсніцца ліхое.

Яно не раз прыходзіла у сне,
А сёння,
Сёння гэта ўсё на яве.
Так,
Раніцай адзін з вас здрадзіць мне,
І ўжо ніхто той здрады не паправіць.

Бо так было заўсёды на зямлі:
Хто бачыў далячынь —
Сляпым рабілі,
А паўсляпыя па касцях ішлі
І ў слепаце святло ідэй губілі.

Глядзелі азвярэла на таго,
Хто лепш рабіў,
Чым нехрысці сляпыя,
І тупалі азлоблена нагой,
Пятлю тужэй зацягвалі на шыі.

Я з вамі развітаюся,
Але,
Каб на шляхах жыцця не пагубляцца,
Каб сэрцам да канца не азалець,
Вам трэба за адным сталом збірацца.

Святую праўду,
Як зямлю нарог,

Ўрабляйце у знявераныя душы,
І з вамі будзе міласэрны Бог,
І жорсткі лёс ніколі не раструшчыць.

### IV. Пацалунак Іуды

Заснула наваколле сном глыбокім,
Дзіцёначкам бязгрэшным,
Без віны.
Але аднекуль з-за Кедрона крокі
У анямелай цемрадзі чутны.

І з чорнай ночы,
Як мядзведзь-няўклюда,
Натоўп ідзе з паходнямі сюды...
І рымскія салдаты...
І Іуда...
І не пазбегнуць ракавой бяды.

— Дзе той Ісус? —
Гучыць у цемры строга,
І —
Пацалунак стыне на губах.
І —
Здрадніка закончана дарога.

Ісус ступіў на свой смяротны шлях...

Яшчэ не пачынаў ірдзецца ранак,
Жароўнямі падворак патыхаў,
І пад страхою грэшнаю Ханана
Гарласты певень раптам пракрычаў.

— Канец! —
Сказаў апостал Пётр праз слёзы.
(За ноч ён тройчы здрадзіў на зямлі.)
Застылі вежы ў скамянелых позах,
Ісуса на закланне павялі.

І Пётр са спустошанай душою
За ім пайшоў —
Усё ён зразумеў...

Ад здрады неба стала неспакойным
І камень на дарозе схаладнеў.

Трывожна-ярка запалала далеч,
З-за гор сякерай палаенуў прамень,—
На шыбеніцы ў сцішаным квартале
Пагойдваўся Іудаў чорны цень.

## V. Пракуратар Понцій Пілат

Зло прарастала ад стварэння свету.
Грахі,
Нібы асенні зарапад...
Напэўна, люду грэшнаму за гэта
Ўсявышнім быў падораны Пілат.

Зняважлівы да ўсіх жывых і люты,
Намеснік рымскі хабар паважаў,
І, як хацеў,
На горкія пакуты
Ён шчодра іудзеяў бласлаўляў.

Быў кожны крок,
Як поступ землятрусу,
Цяжкія словы —
Сэрцам не падняць:
— Вось перад вамі ажно два Ісусы —
Каго ж з Ісусаў гэтых пакараць?..

Натоўп сабе падобных выбірае,
На хвілю не сумеўшыся ані:
— Вараву адпусці! —
Ён заклікае.—
А гэнага Ісуса ты распні!

Ён зразумеў —
Чакае Іудзея
Зусім не справядлівасці зямной —
Прысуду застарэлых фарысеяў,
Здзяйснення
Іх нянавісці сляпой.

Ён паўтарыў за тым бязродным збродам:
— Распніце!—

На Галгофу паказаў...
О колькі яшчэ іменем народа
Здзяйснялася крывава-чорных спраў.

Не абмінуць прароку эшафота —
За светлы розум
Заплаці жыццём!
А бездар,
Як куга каля балота,
Ашчэрвае пякучае асцё...

Крыжы стагналі,
І гулі пажары,
І ведалі пілаты,
Што рабіць:
Галоўнае —
Не асудзіць ахвяру,
А рукі як мага чысцей адмыць.

## VI. Via Dolorosa

На лёс зірнуўшы клопатна і строга,
Узважваючы строга кожны крок,
Ты зразумееш,
Што свая дарога
У кожнага.
І крок,
Нібы урок.

І як ты ні пралічвай лёс заўзята
Ад непазбежных
І нябачных пут,—
Абавязкова стрэнешся з Пілатам
І выслухаеш да канца прысуд.

Крыж панясеш свой на спіне няўмольна,
Цяжкі,
Бо ў ім грахі усіх людзей,
І спраўдзіцца акрэсленая доля —
Прыўзняцца над жыццём у той бядзе.

Ты вельмі-вельмі шмат на ёй спазнаеш
Удалечы ад слоў і паказух.

І, пэўна ж, Богамаці напаткаеш —
Яна уроніць горкую слязу.

Калі ж лязо бяды патрушчыць памяць
І сілы павысмоктваюцца ўсе,
Сімон цябе сустрэне Кірэнянін
І крыж твой да Галгофы данясе.

І ў калатнечы гнюснай і нязвыклай —
У ім натоўпу цэлы век гібець —
Сустрэнецца, як сонца,
Вераніка
І сонечна паклоніцца табе.

Сустрэнуцца пачцівыя жанчыны,
І хлынуць слёзы горкія з вачэй,—
Ты скажаш,
Што рыдаць няма прычыны —
Сябе аплачце і сваіх дзяцей...

Вось гукі дня сплятаюцца у строфы,
І Богу прагі смерці не суняць...

З зямлі свой чэрап падняла Галгофа,
Гатовая пакутніка прыняць.

## VII. Галгофа

Ну, вось і месца хіжага заклання.
І сэрца разрываецца,
Баліць.
Ды з вуснаў —
Ані слова пакаяння
На радасць лютым катам не зляціць.

Так,
Фарысейства прарасло законам.
Калі не з ім,
Калі узбоч стаіш,
То — краты і турэмныя загоны,
Чакае гнеў людскі,
Чакае крыж.

Адно табе —
Каўтай маны атруту,
У ладкі, нібы блазан, ляскачы,
Інакш табе прызначаны пакуты,
Цвікам зубастым цела апячы.

Ўсё зробяць злыдні гладка і старанна.
Здаля зірнеш —
Ажур,
Ні даць
Ні ўзяць...
І ўжо цябе да злодзеяў паганых
Гатовыя зласліўцы прыраўняць.

Згубіўшыя ушчэнт сваё сумленне
(Як толькі Бог трымае на зямлі!)
Тваё падзеляць сціплае адзенне
І сэрца б падзялілі,
Каб маглі.

Пад крыжам будуць апантана гоцаць,
І срэбранікі брудныя дзяліць,
І на кап'і табе падсунуць воцат,
Каб смагу перад смерцю наталіць...

У летаргічным сне ляжыць планета,
Не чуе больш пакутаў брата брат,
І Божай карай людзям за ўсё гэта
Да іх ужо ідзе крывавы кат.

## VIII. Уваскрэсенне

Як неба перад злоснай навальніцай,
Над Іудзеяй —
Чорнай ночы крэп,
І кату крыважэрнаму не спіцца,
Пакуль навек пакутнік не аслеп.

Пад плашчаніцай халаднее цела
Ў пячоры,
Толькі знятае з крыжа...
Ад вогненных цвікоў не адбалела
Хрыстова анямелая душа...

Ды толькі Гефсіманская даліна
Абмылася світальнаю расой,
Прыйшла сюды Марыя Магдаліна,—
Жанчыны-міраносіцы пры ёй...

Не выплакаць слязьмі людскога гора,
Боль страты зеллем злым не залячыць...
Адсунуў хтосьці камень ад пячоры —
Яна глядзіць пустая ўдалячынь.

Пасунуліся за узвалкі цені,
Стаілася сутонне,
Нібы звер.
Схаваўся кат, нібыта мыш пад венік,
Бо што адкажаш за Хрыстову смерць?

І галубком на камянюзе голай,
Як хмарка,
Што спусцілася на лес,
Сядзіць бялюткі сонечны анёлак:
— Ісус Хрыстос, Сын Божы,—
Уваскрэс!

Замерла чалавецтва у зеніце,
Вось-вось навек у бездань адляціць...
Душу да Бога,
Людзі,
Павярніце,
Бо як без Веры і Надзеі жыць?

## IX. Узнясенне

І вось —
Хрыстос.
Як сонца уваскрэслы.
Вас, не яго, чакае небыццё.
Вы ж бойцеся за скуры
І за крэслы,
Дрыжыце за уласнае жыццё.

Не трэба спачувальных слёз салёных,—
Ад слёз ілжывых не лягчэй ані...
І ў памяці натоўпу крык шалёны:

— А гэнага — распні!
Распні!
Распні!

Акамянелі сэрцы без прычыны,
Сплыла спагада зіхаценнем рос...
Наіўная Марыя Магдаліна!
Ён — не шчырун-садоўнік.
Ён — Хрыстос!

Не трэба раны свежыя абмацваць,
Зняверапы,
Як люд увесь, Фама.
Не трэба над ахвярай пасміхацца,
Бо прыйдзе суд,—
А іншага няма!

І ты, Варфаламей, што пад сумненне
Паставіў словы Магдаліны...
Ты...
Яна сваё засведчыла сумленне
Святою службай на шляхах святых.

Чаму ж цяпер, апосталы, маўчыце?
Зайшліся немтурамі у бядзе?..
Святло і праўду існую нясіце,
Надзею данясіце да людзей...

Бо людзі ані ў чым не вінаваты,
Што першабытным скопішчам жывуць,—
Іх па дарозе кволай і гарбатай
Правіцелі бяздарныя вядуць!

## X. Апакаліпсіс

Грахі душу стрыножылі калецтвам.
І, праз вякі ваганняў і пакут,
Аглухлае ад злосці чалавецтва
Чакае самы-самы страшны суд.

За згубу суд
І суд за блудадзейства,
За створаных куміраў-пухіроў

І за даносаў чорнае зладзейства,
Сляпую непавагу да бацькоў.

Свет захлынуўся прагаю знішчэння —
Святога —
Анічога за спіной.
Ні пакаяння
І ні ачышчэння
Не хоча болей суайчыннік мой.

Сябе прапхнуць імкнецца у бяссмерце,
Якім бы ні прыпаў жыццёвы троп,
Абы на хвалі залатой да смерці,
А там —
Няхай расхрыствае патоп.

Няхай патрушчаць мармур,
Струшчаць бронзу,
Тамы прамоў хай аддаюць агню...
Жаданне хціўцы —
Хвілю быць бы бронзай
Так хочацца, нібы аўса каню.

Ды ўсё часова у паднебным свеце.
Багацце,
Слава,
Бы струхнелы друз...
Паўзе грахоўнасць хіжа па планеце,
Нібы ў рацэ за печкуром мянтуз.

Не выратуе ні зямля,
Ні неба,
Ад лёсу не схаваешся нідзе,
Бо за грахі плаціць заўсёды трэба...

Устаньце, людзі,—
Страшны суд ідзе!..

# ЗМЕСТ

## III. ПАХ РОДНАЙ ЗЯМЛІ



## IV. ГЭТЫМ ТРЭБА ДАРАЖЫЦЬ

## V. СВЯТЛО УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ

## VI. ПАД КРЫЛОМ ЕГІПЕЦКІХ ПІРАМІД



## VII. ЗАЎЖДЫ ЗАГАДКАВЫ УСХОД

## VIII. ШЛЯХ НА ГАЛГОФУ

Літаратурна-мастацкае выданне

Для дзяцей

**ЛУКША Валянцін Антонавіч**

**ПОКЛІЧ ЛЁСУ**

**Выбраныя творы ў дзвюх кнігах**

**Кніга другая**

Рэдактар У. А. Марук
Мастацкі рэдактар Ю. Ц. Цярэшчанка
Тэхнічны рэдактар А. В. Русецкая
Карэктар Д. Р. Лосік

Здадзена ў набор 20.11.95. Падпісана да друку 03.01.97. Фармат $84\times108^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 16,80+0,95 укл. Ум. фарб.-адб. 20,74. Ул.-выд. арк. 16,93. Тыраж 6000 экз. Зак. 323.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Лукша В.**

Л 84 Покліч лёсу: Выбр. творы. У 2 кн. Кн. 2/ Маст. В. Александровіч.— Мн.: Юнацтва, 1997.— 318 с.: [9] л. іл.:

ISBN 985-05-0127-8.

У другую кнігу выбраных твораў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянціна Лукшы ўвайшлі вершы і паэмы са зборнікаў «Гарады нараджаюцца сёння», «Атава», «Споведзь», «Сляды памяці», «Агні далёкіх гарадоў» і іншых. У іх апяваецца рамантыка юнацкіх дарог, моцная дружба і чыстае каханне, вернасць ідэалам любай Бацькаўшчыны. Многія вершы паэта пакладзены на музыку вядучымі беларускімі кампазітарамі, сталі папулярнымі песнямі.

Асобнае месца займаюць вершы, прывезеныя з вандровак у многія краіны Еўропы, Азіі, Афрыкі.

Завяршае том паэма-хроніка «Белыя берагі» пра велічныя пераўтварэнні на роднай паэту Полаччыне.

Л $\frac{8820600000-011}{М\ 307(03)-97}$ 43—96

ББК 84 (4Беи)

